ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ X.

№ 4
Красавік 1936 г.



ЗМЕСТ

| | Стар. |
|---|---|
| **Перадавы**—Свята міжнароднай пролетарскай салідарнасці | 2 |
| **А. Шусцін**—Да вынікаў III пленума КПК | 11 |
| **Т. Лейзер**—Рашэнні III пленума КПК аб рабоце парткалегій і выхаванні комуністаў | 17 |
| **С. Кержаневіч**—Як парыцкая партарганізацыя рыхтуецца да абмену партдакументаў | 27 |
| **А. Геўрасёў**—Першыя вынікі абмену партыйных дакументаў | 30 |
| **Т. Бурдзілаў**—Як мы павышаем ідэйна-палітычны ўзровень комуністаў | 33 |

**З вопыту работы парторгаў-стаханаўцаў**

| | |
|---|---|
| **Л. Готфрыд**—Комуністы на чале стаханаўскага руху | 39 |
| **І. Бацвінік** (парторг менскага завода імя Варашылава) | 45 |
| **П. Ершоў** (парторг віцебскага з-да „Чырвоны металіст" імя Кірава) | 47 |
| **Е. Каган** (парторг магілеўскага скурзавода імя Сталіна) | 49 |
| **Д. Каўзаневіч** (парторг барысаўскага камбіната „Комінтэрн") | 51 |
| **В. Крайко** (парторг менскага з-да імя Варашылава) | 53 |
| **Г. Ліўшыц** (парторг бабруйскага фанернага з-да імя Кірава) | 55 |
| **Д. Магін** (парторг гомельскага шклозавода імя Сталіна) | 58 |
| **А. Малец** (парторг гомельскага станкабудаўнічага завода імя Кірава) | 60 |
| **Ф. Русецкая** (парторг гомельскай ф-кі „Комінтэрн") | 63 |
| **Ц. Ульяноўская** (парторг гомельскай кандзіцерскай ф-кі „Спартак") | 65 |
| **Е. Фрыдман** (парторг віцебскага з-да „Чырвоны металіст" імя Кірава) | 68 |
| **І. Цуркоў** (парторг віцебскага з-да „Чырвоны металіст" імя Кірава) | 71 |
| **І. Чорны**—За разгортванне стаханаўскага руху ў тарфяной прамысловасці | 73 |
| **Пастановы ЦК ЕКП(б) і ЦК КП(б)Б** | 76 |

Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 21.
Тэлефон адказнага рэдактара па
камутатару 20000, даб. 68.



# Свята міжнароднай пролетарскай салідарнасці

Ва ўсіх кутках свету рабочыя масы і ўсе працоўныя ў 47 раз будуць святкаваць дзень Першага мая, як дзень міжнароднай пролетарскай салідарнасці і агляду сваіх баявых сіл.

У капіталістычных краінах працоўныя масы, не гледзячы на шалёны паліцэйскі тэрор, выйдуць у дзень Першага мая на вуліцы для праверкі гатоўнасці сваіх радоў да надыходзячых баёў за вызваленне з-пад эксплаатацыі і капіталістычнай кабалы, да барацьбы супроць фашызма, супроць падпальшчыкаў новай сусветнай імперыялістычнай бойні.

У гэты дзень працоўныя масы адной шостай часткі зямнога шара—Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік,—бацькаўшчыны сусветнага пролетарыята, выйдуць на вуліцы пад чырвонымі сцягамі для дэманстрацыі сваёй гатоўнасці яшчэ больш упарта змагацца за далейшыя поспехі соцыялістычнага будаўніцтва, за абарону сваёй радзімы ад нападу капіталістычных драпежнікаў.

Ваенная небяспека грознаю хмарай навісла над Еўропай.

На Далёкім усходзе японскі імперыялізм ужо некалькі год беспакарана распраўляецца з кітайскім народам, захапляючы ўсё новыя і новыя яго тэрыторыі. У Афрыцы італьянскі фашызм у кровепралітных бойках знішчае слаба ўзброены і непадрыхтаваны да вайны абісінскі народ, прымяняючы супроць мірных жыхароў гарадоў і вёсак усе сродкі сучаснай ваеннай тэхнікі, аж да ўдушлівых газаў.

Раздзіраемы ўнутранымі супярэчнасцямі і эканамічным крызісам, італьянскі фашызм імкнецца паслабіць іх вострасць за кошт ваенных авантур, захопу новых тэрыторый у Абісініі, ператварэння яе ў сваю калонію, а яе народу ў сваіх рабоў.

Драпежніцкія ўчынкі японскага і італьянскага імперыялізма праходзяць для іх беспакарана, бо Ліга нацый аказалася няздольнай прыняць сур'ёзныя меры супроць парушальнікаў міру.

Акрылены гэтым, германскі фашызм усё больш шалёнымі тэмпамі рыхтуецца да новай імперыялістычнай вайны, у першую чаргу супроць бацькаўшчыны сусветнага пролетарыята—СССР.

За апошні год капіталістычны свет зрабіў гіганцкі скачок да новай сусветнай вайны, ад якой мы знаходзімся так блізка, як ніколі за ўвесь пасляваенны перыяд. Усе капіталістычныя краіны вядуць шалёную гонку ўзбраенняў. Самыя рэакцыйныя, чорнасоценныя групоўкі буржуазіі абвяшчаюць, што іх адзіная ідэя—новая крывавая сусветная бойня.

Ваенныя заводы фашысцкай Германіі працуюць круглыя суткі, выпускаючы ўдасканаленыя, навейшага ўзору сродкі вайны. Уся

краіна ператворана ў ваенны лагер. Нямецкі народ стогне пад цяжарам эксплаатацыі. З рабочага класа і працоўнага сялянства выціскаюцца апошнія сокі на патрэбы ўзбраення і падрыхтоўкі вайны. Фашысцкія эмісары і лакеі Гітлера раз'язджаюць па розных краінах у пошуках саюзнікаў. Фашысцкая дыпламатыя не шкадуе сіл і сродкаў для таго, каб завербаваць саюзнікаў і найлепшым чынам палітычна падрыхтавацца да новага перадзелу свету.

Ваенная згода паміж фашысцкай Германіяй і імперыялістычнай Японіяй, пошукі нямецкага фашызма ў Англіі, усё большае ўцягванне фашысцкай Польшчы ў Саюз з нямецкім фашызмам —усё гэта наглядна сведчыць аб росце ваеннай пагрозы.

Агрэсіўныя групоўкі імперыялізма чакаюць толькі зручнага моманту, каб у найбольш выгодных для сябе ўмовах распачаць вайну за новы перадзел свету і сфер уплыву.

Падрыхтоўка вайны суправаджаецца шалёным наступленнем капіталізма на рабочы клас, на яго рэволюцыйныя арганізацыі, на яго жыццёвы ўзровень. Дзесяткі мільёнаў беспрацоўных выкінуты на вуліцу і асуджаны на голад, астатняя частка рабочага класа за сваю рабскую працу мае мізэрны заработак. Галеча і жабрацтва—нязменны спадарожнік рабочых мас капіталістычных краін. Рады беспрацоўных, галодных і поўгалодных, папаўняюцца і бядняцкімі і серадняцкімі масамі сялянства, якія разараюцца крызісам. З аднаго боку, голад і жабрацтва мільёнаў працоўных, з другога—раскошнае жыццё невялікай кучкі буржуазіі і капіталістаў—вось малюнак капіталістычнага свету.

Зразумела, што ўсё гэта не магло не выклікаць новую хвалю нездаволенасці і рэволюцыйнага руху сярод працоўных капіталістычных краін, росту рэволюцыйных сіл пролетарыята.

VII Кангрэс Комуністычнага Інтэрнацыянала мае выключнае значэнне ў справе згуртавання рэволюцыйных сіл вакол брацкіх комуністычных партый.

Гістарычная прамова рулявога Комінтэрна таварыша Дзімітрава, рашэнні Комінтэрна аб адзіным фронце міжнароднага пролетарыята, аб стварэнні антыфашысцкага народнага фронту, аб антыімперыялістычным нацыянальным фронце ў каланіяльных і поўкаланіяльных краінах мабілізуюць працоўных капіталістычнага свету на барацьбу супроць наступлення эксплаататараў на жыццёвыя інтарэсы рабочых, на барацьбу з фашызмам і падпальшчыкамі новай сусветнай імперыялістычнай вайны, на барацьбу за звяржэнне капіталізма.

У гэтых гістарычных рашэннях шырокія масы працоўных капіталістычных краін убачылі, што толькі Комуністычны Інтэрнацыянал, як міжнародная арганізацыя рэволюцыйнага пролетарыята, сапраўды і да канца стаіць за інтарэсы прыгнечаных, што толькі комуністычная партыя, кіруемая Комінтэрнам, здольна ўзначаліць рэволюцыйны рух і забяспечыць у надыходзячых бойках канчатковае вызваленне з-пад уціску капітала.

Рашэнні і лозунгі VII кангрэса Комінтэрна адлюстроўваюць сапраўдныя інтарэсы шырокіх эксплаатуемых мас. Яны знашлі ў іх шырокае падтрыманне.

Яркім таму прыкладам з'яўляецца перамога народнага фронту ў Іспаніі і рэволюцыйныя забастоўкі ў розных капіталістычных краінах. Нядаўна мы былі сведкамі мужнага выступлення польскага пролетарыята ў Кракаве і Львове. Крывавыя сутычкі кракаўскіх і львоўскіх

рабочых з наймітамі капітала сведчаць аб тым, што шалёны паліцэйскі фашысцкі тэрор не ў сілах спыніць росту рэволюцыйнага руху, уцягнення ў яго ўсё новых слаёў працоўных.

На працягу доўгіх год пролетарыят капіталістычных краін выхоўваўся соцыял-дэмакратычнымі правадырамі і II (здрадніцкім) Інтэрнацыяналам у духу варожасці і непрыязні да Совецкага саюза, да комунізма, у духу пакорнасці капіталізму, у духу цярплівасці і вычакання.

Горкі вопыт многіх год адкрыў вочы шматлікай масе соцыял-дэмакратычных рабочых. З кожным днём узрастае цяга шырокіх мас капіталістычных краін да адзінага фронту, мацнеюць сімпатыі да Совецкага саюза.

Шырыцца і мацнее інтэрнацыянальнае адзінства, расце брацтва рабочых і эксплаатуемых мас усіх нацыянальнасцей капіталістычных, каланіяльных і поўкаланіяльных краін. Пад сцягам Комуністычнага Інтэрнацыянала гуртуюцца новыя мільёны прыгнечаных, якіх натхняе прыклад Совецкага саюза—краіны соцыялізма, дзе рабочы клас у саюзе з працоўным сялянствам, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і правадыра сусветнага пролетарыята таварыша **Сталіна,** будуюць новае, светлае жыццё без капіталістаў, без эксплаатататарскіх класаў.

Совецкі саюз сваім прыкладам паказвае прыгнечаным масам усяго свету, як трэба перамагаць капіталізм і класавых ворагаў, як будаваць новае, шчаслівае жыццё без капіталістаў і паразітаў.

Сярод хаосу непрымірымых імперыялістычных супярэчнасцей, сярод бушуючых хваль эканамічных узрушэнняў, ваенных авантур і агульнага крызісу капіталістычнай сістэмы «СССР стаіць асобна, як уцёс, працягваючы сваю справу соцыялістычнага будаўніцтва і барацьбы за захаванне міру» **(Сталін).**

На XVII партыйным з'ездзе таварыш Сталін заявіў:

> «Наша знешняя палітыка ясна. Яна ёсць палітыка захавання міру... СССР не думае пагражаць каму-б там ні было і—тым больш—напасці на каго-б там ні было. Мы стаім за мір і адстойваем справу міру. Але мы не баімся пагроз і гатовы адказаць ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны. Хто хоча міру і дабіваецца дзелавых сувязей з намі, той заўсёды знойдзе ў нас падтрыманне» .

Гэтыя словы вялікага правадыра партыі і ўсіх працоўных з'яўляюцца асновай нашай знешняй палітыкі і падмацоўваюцца канкрэтнымі мерапрыемствамі па захаванню міру.

Перад тварам небяспекі новых войн Совецкі саюз прымае рад паслядоўных энергічных мер, накіраваных на выкрыццё і зрыў планаў імперыялістычных і фашысцкіх падпальшчыкаў вайны.

Павышаючы сваю рэволюцыйную боездольнасць, міжнародны пролетарыят—саюзнік Краіны советаў у справе зрыву імперыялістычных і антысовецкіх планаў фашысцкай буржуазіі, у справе зрыву планаў ваенных авантур.

Некаторыя з буржуазных краін, следуючы простаму разліку рэальнай абстаноўкі, лічаць тактыку захавання мірных і нармальных адносін з магутнай Совецкай дзяржавай больш выгаднай і разумнай.

Буйнейшым дасягненнем СССР за апошні перыяд, яркім фактарам яго нязменнай палітыкі міру з'яўляецца заключэнне совецка-французскага і совецка-чэхаславацкага дагавораў аб узаемадапамозе.

Другім яркім фактарам, які пацвярджае нязменную палітыку міру нашай краіны, з'яўляецца нядаўна заключаны і апублікаваны дагавор аб узаемадапамозе паміж Совецкім саюзам і Мангольскай народнай рэспублікай.

Акрамя заключаных дагавароў аб ненападзе і ўзаемадапамозе, Совецкі саюз праз сваіх прадстаўнікоў у Лізе нацый з міжнароднай трыбуны высунуў цэлы рад канкрэтных прапаноў і мерапрыемстваў, накіраваных супроць імперыялістычных авантур, за захаванне міру.

Першага сакавіка гэтага года вуснамі свайго правадыра—таварыша Сталіна ў гутарцы з прадстаўніком амерыканскага газетнага аб'яднання «Скрыпс-Говард ньюспейперс» п. Ройем Говардам і 19 сакавіка вуснамі главы Совецкага ўрада тав. Молатава ў гутарцы з галоўным рэдактарам французскай газеты «Тан» п. Шастэнэ—Совецкі саюз яшчэ раз абвясціў усяму свету аб сваёй палітыцы міру, аб сваёй барацьбе за захаванне міру.

Совецкі саюз, апіраючыся на сваю магутнасць, не баіцца пагроз. Капіталістычныя драпежнікі, «якія паспрабуюць напасці на нашу краіну, атрымаюць сакрушальны адпор, каб у далейшым непавадна было ім соваць сваё свіное рыла ў наш совецкі агарод» **(Сталін).**

Праводзячы палітыку міру, мы ні на адну мінуту не павінны і не можам забываць аб далейшым усямерным умацаванні абароназдольнасці краіны.

Сваю гатоўнасць даць рашучы і сакрушальны адпор усякаму, хто паспрабуе напасці на нашу соцыялістычную радзіму, мы павінны падмацаваць неаслабнай барацьбой за далейшае ўмацаванне боездольнасці нашай непераможнай Чырвонай арміі, памятаючы ўказанне таварыша Сталіна, што «вайна можа ўспыхнуць нечакана», што «цяпер войны не абвяшчаюцца, а яны проста пачынаюцца».

Словы правадыра абавязваюць увесь совецкі народ з падзесяцяронай энергіяй і ўпартасцю змагацца за новыя, вышэйшыя тэмпы працы, за выкананне плана чацвертага года другой пяцігодкі, каб яшчэ больш узмацніць абароназдольнасць Совецкага саюза і баявую магутнасць Чырвонай арміі. Яны абавязваюць яшчэ вышэй узняць пачуццё совецкага патрыятызма і гатоўнасць у любы момант узяць у рукі вінтоўку, сесці на танк, у бронемашыну, на аэраплан, на чырвоныя крэйсеры, дрэдноуты, падводныя лодкі, на ліхіх кавалерыйскіх коней і ўліцца ў рады Чырвонай арміі для разгрому ворага, які пасмее пасягнуць на нашу мірную працу.

З асаблівай сілай адносіцца гэта да працоўных ордэнаноснай БССР—фарпоста Совецкага саюза на мяжы з капіталістычным Захадам. Працоўныя Совецкай Беларусі павінны памятаць, што першы ўдар капіталістычных драпежнікаў і падпальшчыкаў вайны на заходніх граніцах прыдзецца сустрэць ім сумесна з гераічнай Чырвонай арміяй. Пагроза вайны, якую рыхтуюць нямецкія і іншыя фашысты супроць Краіны советаў, патрабуе ад працоўных БССР быць заўсёды гатовым рэзервам для нашай непераможнай Чырвонай арміі.

* * *

Першы май Совецкі саюз сустракае, як краіна перамогшага соцыялізма. Пад кіраўніцтвам партыі, яе вялікага стратэга і правадыра—таварыша Сталіна, перамагаючы ў бязлітаснай барацьбе з класавымі ворагамі і іх агентурай усе цяжкасці на сваім шляху, пролетарыят і ўсе працоўныя масы нашай краіны ператварылі ў рэчаіснасць тое, аб чым марылі лепшыя розумы чалавецтва. Соцыялізм перамог у

нашай краіне, соцыялістычныя формы гаспадаркі і вытворчасці з'яўляюцца непадзельна пануючай формай ва ўсіх галінах нашага эканамічнага, культурнага і гаспадарчага будаўніцтва. Назаўсёды ліквідавана эксплаатацыя чалавека чалавекам, галеча, жабрацтва, беспрацоўе, нацыянальны ўціск і прыгнечанне малых нацыянальнасцей—гэтыя неадлучныя спадарожнікі капіталізма.

З года ў год усё больш узрастае і паляпшаецца жыццёвы ўзровень і дабрабыт працоўных мас. Таварыш Сталін, уся партыя і Совецкі ўрад праяўляюць штодзенныя клопаты аб далейшым палепшанні матэр'яльнага і культурнага абслугоўвання працоўных. Усе намаганні партыі і ўрада накіраваны на далейшы ўздым жыццёвага ўзроўню і дабрабыту рабочых, калгаснага сялянства, совецкай інтэлігенцыі і ўсіх працоўных Совецкага саюза.

У нашай краіне людзі, кадры ўсіх спецыяльнасцей і галін разнастайнай народнай гаспадаркі акружаны гонарам, увагай і штодзеннымі клопатамі аб стварэнні найбольш спрыяючых умоў для іх работы і жыцця.

Апублікаваная нядаўна пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб павышэнні зарплаты настаўнікам ніжэйшых і сярэдніх школ з'яўляецца яркай ілюстрацыяй таго, як партыя і совецкі ўрад клапоцяцца аб самым каштоўным капітале—аб жывых людзях, аб кадрах будаўнікоў соцыялізма.

Увесь рабочы клас, калгаснае сялянства і працоўныя масы нашай соцыялістычнай радзімы сустракаюць Першы май—свята міжнароднай пролетарскай салідарнасці—новымі грандыёзнымі перамогамі на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва.

Свята міжнароднай пролетарскай салідарнасці совецкі народ сустракае жыццерадасна і бадзёра. «Жыць стала лепш, жыць стала весялей». Праца з цяжкага ярма, якім яна была пры капіталізме, ператварылася для мільёнаў працоўных нашай краіны ў справу «гонару, славы, доблесці і геройства». З кожным днём усё больш узрастае энтузіязм мас, жаданне змагацца за новыя поспехі і перамогі ў справе пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

У першамайскіх лозунгах Цэнтральны Камітэт ВКП(б) адлюстраваў тыя задачы, якія на аснове ўказанняў геніяльнага правадыра народаў—таварыша **Сталіна** пастаўлены перад усёй партыяй, перад усім совецкім народам у справе барацьбы за далейшыя перамогі соцыялізма, за ператварэнне нашай краіны ў самую багатую і магутную краіну ў свеце.

Адным з важнейшых лозунгаў з'яўляецца барацьба за далейшае авалодванне тэхнікай, за ўздым культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочых мас і калгаснага сялянства да ўзроўню інжынерна-тэхнічных работнікаў, за ператварэнне «навучання тэхмінімуму ва ўсеагульнае і абавязковае для ўсіх рабочых і работніц».

Найбольш яркім прыкладам пераможнай барацьбы працоўных мас за пабудову комунізма з'яўляецца ўзнікненне і магутнае разгортванне стаханаўскага руху, які ўзнімае прадукцыйнасць працы, магутнасць нашай краіны на новую, яшчэ больш высокую ступень, і падрыхтоўвае ўмовы для пераходу ад соцыялізма к комунізму.

Лозунг таварыша Сталіна—«Галоўнае цяпер у людзях, аўладаўшых тэхнікай», «Кадры вырашаюць усё» з вялікім вытворчым энтузіязмам падхоплены рабочымі, калгасным сялянствам і працоўнымі масамі нашай краіны. Словы правадыра выклікалі новы энтузіязм у

барацьбе за ўздым соцыялістычнага спаборніцтва на вышэйшую ступень, за ператварэнне яго ў масавы стаханаўскі рух.

К майскім святам у нашай краіне няма такой галіны народнай гаспадаркі, у якой стаханаўскі рух не пусціў-бы глыбока свае карэнні.

У разгортванні гэтага магутнага руху ордэнаносная БССР ідзе ў нагу з усім вялікім Совецкім саюзам. У БССР ёсць дзесяткі герояў высокай прадукцыйнасці працы, стаханаўцаў, якіх Саюзны ўрад узнагародзіў ордэнам Леніна, Чырвонага працоўнага сцяга, «Знаком пошета». Сярод іх: рабочы-стаханавец запалкавай фабрыкі «Везувій»— Алексей **Лучкоўскі**, калгасніцы і калгаснікі: **Грыгаровіч** Софья Антонаўна, **Башкірава** Ефрасіньня Сільвестраўна, **Зайцаў** Філіп Савельевіч, **Кірмашук** Антаніна і іншыя.

Ордэнаносная БССР сустракае Першае мая з немалымі поспехамі ў разгортванні стаханаўскага руху.

Аднак на гэтым мы ні ў якім разе не можам супакоіцца, бо яшчэ не ва ўсіх прадпрыемствах, калгасах, соўгасах, новабудоўлях і іншых галінах народнай гаспадаркі і соцыялістычнага будаўніцтва разгортванне стаханаўскага руху пастаўлена на належную вышыню. Паасобныя партыйныя, совецкія, профсаюзныя арганізацыі і паасобныя камуністы яшчэ не ўсюды ўзначалілі стаханаўскі рух, як гэтага патрабуюць рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б. Сям-там яшчэ наглядаецца прамое супраціўленне паасобных работнікаў масаваму разгортванню стаханаўскага руху. Не заўсёды класава варожыя элёменты, якія імкнуцца затармазіць развіццё стаханаўскага руху, сустракаюць своечасова адпор ад партыйных і совецкіх арганізацый.

У 1936 годзе не павінна быць ні аднаго адстаючага прадпрыемства. Мы павінны дабіцца рэнтабельнай работы ўсіх нашых прадпрыемстваў на аснове асваення іх поўнай вытворчай магутнасці, выкарыстання тэхнікі да дна, павышэння прадукцыйнасці працы, палепшання якасці прадукцыі і шырокага разгортвання стаханаўскага руху.

Ад стаханаўскіх пяцідзенак і дэкад—да бесперапыннай стаханаўскай работы фабрык, заводаў, шахт, транспарту і новабудоўляў. Новымі нормамі выпрацоўкі даць яшчэ больш высокаякасных харчовых прадуктаў, сітцу, шоўку, трыкатажу, абутку, адзення грамадзянам Совецкай краіны, ператварыць транспарт у перадавую галіну народнай гаспадаркі, выканаць і перавыканаць план стаханаўскага 1936 года.

Партыйныя, совецкія, профсаюзныя і гаспадарчыя арганізацыі, наркаматы і камандзіры прамысловасці і транспарту павінны ўзначаліць ініцыятыву і энтузіязм рабочых мас, каб поўнасцю выканаць задачы, пастаўленыя партыяй і таварышом Сталіным перад прамысловасцю і транспартам.

Нашы калгасы і соўгасы як арганізацыйна, так і гаспадарча, узмацніліся. У соцыялістычнай сельскай гаспадарцы выраслі новыя сталінскія кадры—дзесяткі і сотні тысяч стаханаўцаў, аўладаўшых тэхнікай сельскагаспадарчай вытворчасці.

Пад мудрым кіраўніцтвам правадыра партыя выхавала сярод калгасных мас, рабочых соўгасаў і МТС новыя мільёны да канца адданых справе соцыялістычнага будаўніцтва людзей. Усямерная матар'яльная і арганізацыйная дапамога сельскай гаспадарцы забяспечвае ёй усе магчымасці падняць сваю вытворчасць на новую, больш высокую ступень.

Святкаванне Першага мая супадае з разгарам веснавой сяўбы. Перад сельскай гаспадаркай стаіць задача—забяспечыць высокаякаснае правядзенне ўсіх працэсаў веснавой сяўбы, узняць ураджай на працягу бліжэйшых 3—4 год да 7—8 мільярдаў пудоў зярна, ператварыць кожны саўгас у вядучае прадпрыемства соцыялістычнага земляробства, уцягнуць у стаханаўскі рух усю масу калгаснікаў, рабочых саўгасаў і МТС.

Выканаць задачы, пастаўленыя партыяй і ўрадам перад соцыялістычнай сельскай гаспадаркай і заваяваць пяршынства ў спаборніцтве з Кіеўскай і Чэрнігаўскай абласцямі—першачарговы абавязак усіх партыйных, совецкіх, зямельных арганізацый, МТС, калгасаў і саўгасаў, усёй масы калгаснага сялянства, рабочых саўгасаў і МТС ордэнаноснай БССР.

Перад намі стаіць далейшая важнейшая задача—стварыць у нашай краіне багацце прадуктаў і павялічыць багацце ўсёй Совецкай краіны.

У разгортванні совецкага гандлю за апошнія гады мы маем вялікія дасягненні: значна пашырылася сетка культурных крам і магазінаў, палепшылася абслугоўванне спажыўца і т. д.

Аднак безупынны рост добрабыту і культуры працоўных нашай краіны, рост вытворчасці тавараў і прадуктаў шырокага спажывання прад'яўляюць дзяржгандлю, кааперацыі і ўсім гандлюючым арганізацыям усё новыя і новыя запатрабаванні.

Задача ўсіх гандлюючых арганізацый—шырэй разгарнуць культурны совецкі гандаль. Работнікі гандлюючых арганізацый, работнікі прылаўка павінны памятаць, што партыя і ўрад усклалі на іх выключна адказную задачу—задаволіць поўнасцю і своечасова добраякаснымі таварамі і прадуктамі ўсё больш узрастаючыя запатрабаванні совецкага спажыўца.

У барацьбе за новыя перамогі соцыялістычнага будаўніцтва выключнае значэнне мае кантроль выканання рашэнняў і дырэктыў урада. Кантроль выканання, крытыка і самакрытыка з'яўляюцца магутным рычагом, пры дапамозе якога партыя і ўрад выкрываюць і наносяць удар усім бюракратам і валакітчыкам, ачышчаючы шлях для шырокага разгортвання ініцыятывы мас. Адсюль наша задача—узняць кантроль выканання, шырэй разгарнуць крытыку і самакрытыку, накіроўваючы яе агонь супроць усіх недахопаў, супроць бюракратычнай валакіты ў паасобных совецкіх і гаспадарчых апаратах.

У барацьбе за далейшы ўздым эканамічнай магутнасці нашай краіны нельга забываць, што ў нас яшчэ ёсць рвачы, зладзеі, лодыры, дэкласаваныя элементы, якія працягваюць свае брудныя рукі да дзяржаўнай і грамадскай маемасці. Іншы раз, скарыстаўшы ратазейства і даверлівасць блізарукіх кіраўнікоў, ім удаецца раскрадваць і прысвойваць соцыялістычную маёмасць. Грамадскую соцыялістычную ўласнасць—аснову нашай Совецкай дзяржавы—мы павінны берагчы, як зрэнку вока.

Рэшткі класавага ворага і яго агентуры ў зварынай ненавісці да совецкай улады ўсё яшчэ імкнуцца перашкодзіць нашым перамогам. Наш абавязак—яшчэ больш узмацніць пільнасць, своечасова выкрываючы махінацыі класавага ворага, выкараняючы паследышаў буржуазіі.

Вялікая Окцябрская рэволюцыя ліквідавала спрадвечнае палітычнае і эканамічнае нераўнапраўе жанчын. Жанчына краіны Советаў

побач з мужчынай прымае актыўны ўдзел у барацьбе за пабудову новага, шчаслівага жыцця. Тав. **Сталін,** уся партыя і Совецкі ўрад праяўляюць выключныя клопаты аб совецкай жанчыне. Яе роля ў грамадскім і палітычным жыцці краіны ўзрасла нязмерна. У нас не мала гераінь—стаханавак высокай прадукцыйнасці працы, высокай ураджайнасці соцыялістычных палёў,—узнагароджаных ордэнам Леніна, Чырвонага працоўнага сцягу, «Знаком почета». Сярод іх Дуся **Вінаградава, Марыя Дземчэнка,** Елена **Васільева,** Ольга **Вінаградава,** Марыя **Егорава,** Валенціна **Сініцына,** Марыя **Цынцадзе,** Елена **Гакіелі.** Сярод іх нямала жанчын нашай ордэнаноснай БССР: Елена **Вілетнікава,** Ефрасінья **Башкірава,** Праскоўя **Цэханская,** Анна **Караленка,** Антаніна **Кірмашук, Савельева, Бляхерава** і многа іншых.

Сярод совецкіх жанчын не мала адважных лётчыкаў, парашуцістак, інжынераў, трактарыстак і многіх іншых спецыяльнасцей і кваліфікацый. Радасна і бадзёра совецкія жанчыны ўсіх нацыянальнасцей у дзень Першага мая будуць дэманстраваць сваю міжнародную пролетарскую салідарнасць.

Наша задача—неаслабна змагацца за далейшае ўцягненне працоўных жанчын горада і вёскі ў стаханаўскі рух, смялей вылучаць іх на адказную совецкую, гаспадарчую і грамадскую работу.

У Совецкай краіне ўвагай і клопатамі партыі, урада і вялікага Сталіна акружаны ўсе працоўныя. Выключная ўвага ўдзяляецца выхаванню дзяцей і моладзі ў духу вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, каб падрыхтаваць адважную і дастойную змену барацьбітоў за перамогу комунізма.

Велізарнае значэнне ў справе далейшага палепшання выхавання ўсёй совецкай моладзі мае X з'езд ВЛКСМ, які нядаўна закончыў сваю работу. Прынятыя з'ездам рашэнні, новая праграма і статут комсамола павінны быць пакладзены ў аснову работы ўсіх комсамольскіх арганізацый.

Задача ўсіх партыйных арганізацый—забяспечыць большэвіцкае кіраўніцтва і штодзенную дапамогу комсамольскім арганізацыям у ажыццяўле· ·і рашэнняў X з'езда ВЛКСМ, памятаючы ўказанні снежаньскага ·.енума ЦК ВКП(б) аб тым, што комсамол з'яўляецца адным з асноўных рэзерваў папаўнення радоў партыі. Наша задача—выхаваць комсамольцаў і ўсю совецкую моладзь у духу адданасці да канца справе соцыялістычнага будаўніцтва. Наша моладзь павінна быць пакаленнем храбрых, смелых, адважных барацьбітоў, гатовых да працы і абароны соцыялістычнай радзімы.

Першае мая мы сустракаем пад лозунгамі далейшага ўмацавання брацкага саюза ўсіх нацыянальнасцей вялікай Совецкай краіны, далейшага ўмацавання абароназдольнасці нашай краіны і магутнасці нашай доблеснай Чырвонай арміі—вернага вартавога граніц нашай соцыялістычнай радзімы.

Рабочыя і работніцы, калгаснікі і калгасніцы, усе працоўныя Совецкага саюза ў дні свята міжнароднай пролетарскай салідарнасці яшчэ мацней згуртуюць свае рады вакол партыі Леніна—Сталіна, вакол любімага правадыра і вялікага рулявога—таварыша **Сталіна** і з падзесяцяронай энергіяй будуць змагацца за генеральную лінію партыі, за перамогу комунізма.

Пролетарыят і калгаснае сялянства вялікага Совецкага саюза ў дні першамайскага свята заклікаюць пролетарыят і ўсіх працоўных свету



на барацьбу супроць фашызма і захватніцкай вайны. Рабочыя, калгаснае сялянства і ўвесь совецкі народ поўны інтэрнацыянальнай салідарнасці з пролетарыятам і ўсімі працоўнымі капіталістычных, каланіяльных і поўкаланіяльных краін у іх гераічнай барацьбе за вызваленне з-пад уціску капітала.

Народы Совецкага саюза, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і правадыра ўсіх працоўных—таварыша **Сталіна,** з большэвіцкай энергіяй і настойлівасцю паспяхова прадоўжаць вялікую справу Окцябрскай рэволюцыі і з гонарам выканаюць сваю ролю ўдарнай брыгады сусветнага пролетарыята.

---

А. Шусцін

Упаўнаважаны КПК пры ЦК ВКП(б) па Беларусі

# Да вынікаў III пленума КПК

III пленум КПК вырашыў цэлы рад важнейшых пытанняў партыйнага будаўніцтва. Яго рашэнні маюць велізарнае палітычнае і арганізацыйнае значэнне ў барацьбе за ўмацаванне партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны, за падрыхтоўку кадраў, за шырокае разгортванне стаханаўскага руху на падставе далейшага асваення і авалодвання тэхнікай, за выкананне рашэнняў з'ездаў партыі і яе ЦК.

За гады першай і другой пяцігодак мы дабіліся велізарнейшых поспехаў. Але гэтыя поспехі, гэта перамога генеральнай лініі партыі прышлі не самі па сабе, не самацёкам. Яны «здабыты і заваяваны шляхам сістэматычнай і жорсткай барацьбы з труднасцямі» **(Сталін)**, у барацьбе з бюракратызмам, у барацьбе за жывое, канкрэтнае, аперацыйнае кіраўніцтва на ўсіх участках нашай соцыялістычнай гаспадаркі, у барацьбе за правільны падбор людзей, за правядзенне ў жыццё рашэнняў партыі.

На даным этапе нашага соцыялістычнага будаўніцтва нязмерна вырастае роля сістэматычнай і штодзеннай праверкі, аперацыйнага кантролю за выкананнем рашэнняў партыі і ўрада.

У сваёй прамове на XVII з'ездзе партыі таварыш **Сталін** указаў:

> «Правільная арганізацыя праверкі выканання мае рашаючае значэнне ў справе барацьбы з бюракратызмам і канцэляршчынай. Праводзяцца рашэнні кіруючых арганізацый ці кладуцца пад сукно бюракратамі і канцэлярыстамі? Праводзяцца яны правільна ці скажаюцца? Працуе апарат сумленна і па-бальшэвіцку, ці круціцца на халастым ходу—пра ўсё гэта можна даведацца своечасова толькі ў выніку добра пастаўленай праверкі выканання.
>
> ... Нам патрэбна цяпер такая арганізацыя, якая, не задаючыся універсальнай мэтай інспектавання ўсіх і ўся, магла-б сканцэнтраваць усю сваю ўвагу на рабоце па кантролю, на рабоце па праверцы выканання рашэнняў цэнтральных устаноў Совецкай улады».

Выходзячы з гэтых указанняў таварыша Сталіна, рашэнні III пленума Камісіі Партыйнага Кантроля глыбока прасякнуты пытаннямі: арганізацыі праверкі выканання дырэктыў партыі; умацавання партыйнай дысцыпліны; барацьбы за непахіснасць статута

партыі, як асноўнага закона ўнутрыпартыйнага жыцця, і аховы чыстаты радоў партыі.

Да моманту свайго III пленума Камісія Партыйнага Кантроля ўжо мела двухгадовы вопыт работы інстытута ўпаўнаважаных КПК па раду абласцей, краёў і нацрэспублік, двухгадовы вопыт работы парткалегій і вынікі праверкі партыйных дакументаў. Гэта дало магчымасць пленуму КПК, на аснове багатай і ўсебаковай практыкі, вызначыць новыя канкрэтныя мерапрыемствы па арганізацыйнай перабудове кантрольнай работы, паставіць яе на ўзровень задач партыйнага і савецкага будаўніцтва, якія выцякаюць з рашэнняў XVII з'езда партыі і ўказанняў таварыша Сталіна.

* * *

Двухгадовы вопыт работы ўпаўнаважаных КПК, асабліва ярка адлюстраваны ў дакладах на пленуме Камісіі Партыйнага Кантроля, дазволіў пленуму ў сваіх рашэннях адзначыць і ўказаць, што «створаны пастановай XVII з'езда ВКП(б) інстытут упаўнаважаных КПК, незалежных ад мясцовых партыйных арганізацый, у поўнай меры апраўдваў свае назначэнне, адыграў станоўчую ролю ў справе палепшання ўсёй пастаноўкі праверкі выканання рашэнняў з'ездаў партыі і ЦК ВКП(б)».

Мы маем рад фактаў, калі ўпаўнаважаныя КПК выяўлялі буйнейшыя недахопы ў рабоце мясцовых партарганізацый, выпраўлялі гэтыя недахопы і тым самым ўмацоўвалі работу партыйных арганізацый.

Характэрным фактам з'яўляецца выяўленне недахопаў у рабоце Саратаўскага крайкома партыі. Вывады, якія зрабіў ЦК ВКП(б) з недахопаў Саратаўскай арганізацыі, на падставе праверкі партыйнага кантролю дазволілі ў далейшым не толькі выправіць недахопы, якія мелі месца ў гэтай арганізацыі, але і ўмацаваць яе.

Такое-ж становішча мы мелі і ў Новачэркаскім горсовеце.

Аднак, значэнне праверкі выканання заключаецца не толькі ў гэтым. Самі мясцовыя партыйныя арганізацыі ва многім выкарысталі матар'ялы ўпаўнаважаных, чым забяспечылі лепшае і хутчэйшае выкананне пастаноў ЦК ВКП(б).

Але побач са станоўчымі вынікамі, пленум адзначыў і рад істотных недахопаў у рабоце ўпаўнаважаных КПК.

У чым-жа заключаліся гэтыя недахопы?

Інстытут упаўнаважаных павінен быў накіраваць сваю работу на сістэматычны кантроль і праверку выканання рашэнняў ЦК. Аднак многія ўпаўнаважаныя, замест таго каб канкрэтна правяраць, як выконваецца рашэнне ЦК, збіваліся на інспектаванне. Рад рашэнняў заставаўся неправераным, або правяраўся з вялікім спазненнем, і ўпаўнаважаным прыходзілася толькі канстатаваць факты, абмяжоўваючыся мерамі партыйнага спагнання.

Упаўнаважаныя часта загружаліся рознымі дробязямі, адрываліся ад сваёй непасрэднай работы, ператвараліся ў талкачоў для гаспадарчых арганізацый.

Амаль зусім не правяраліся пытанні партыйнай работы: рашэнні ЦК аб партпрапагандзе, аб рабоце са спачуваючымі, аб вырошчванні і падрыхтоўцы партыйных кадраў і т. д.

Пленум патрабаваў ад сваіх упаўнаважаных не збівацца на інспектаванне, не раскідацца па дробязях, а забяспечыць сістэма-

тычны кантроль важнейшых рашэнняў партыі зараз-жа пасля іх вынясення, каб «партыйны кантроль ведаў і ў любы момант мог паведаміць у ЦК ВКП(б) аб тым, як выконваюцца яго дырэктывы наркаматамі, цэнтральнымі ўстановамі і мясцовымі арганізацыямі».

Партыйны кантроль павінен неадступна наглядаць за выкананнем, папярэджваць зрывы і несвоечасовасць выканання, каб «выхаваць у работніках пачуццё дзяржаўнай адказнасці, дысцыпліны і акуратнасць у выкананні даручанага ім задання».

Глыбокая перабудова работы партыйнага кантроля, вызначаная рашэннямі пленума КПК, патрабуе ад кіраўніцтва партыйных арганізацый, ад кожнага партыйнага і гаспадарчага работніка ўлічыць і зразумець, што кантроль выканання ў першую чаргу важны і неабходны для іх-жа саміх, бо ўпаўнаважаныя КПК у цяснейшай сувязі з мясцовымі арганізацыямі будуць садзейнічаць своечасоваму і хутчэйшаму выкананню імі рашэнняў ЦК партыі.

* * *

Як абстаіць справа па Беларусі?

За кароткі час работы ўпаўнаважанага КПК ужо ёсць факты, якія паказваюць, што рад важнейшых рашэнняў партыі і ўрада выконваецца нездавальняюча, бюракратычна, марудна.

Праверкай выканання ўстаноўлена, што сакавіковы план вывазу гаручага выканан на 68% і за палову красавіка—на 30,5%.

Пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб развіцці тонкарунная аўцагадоўлі ў Бялыніцкім, Дзержынскім і Бярэзінскім раёнах выконваецца нездавальняюча. Завоз і размеркаванне племянных баранаў па калгасах даручаны зоатэхнікам райза, якімі Наркамзем апарацыйна не кіруе. Раённы друк усё яшчэ не апублікаваў гэтага рашэння, калгаснікам не растлумачана яго важнасць, яны не ведаюць аб ільготах у пастаўках.

Не гледзячы на рад напамінанняў і пастанову ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 11 сакавіка г. г. аб падрыхтоўцы да школьнага будаўніцтва, яно праводзіцца без рабочых чарцяжоў (школа ў Менску па Чырвонаармейскай вуліцы), для пяці школ Менска няма ні праектаў, ні каштарысаў на спецработы, фінансаванне ідзе яўна нездавальняюча.

Патрабуецца каласальная ўпартая сістэматычная работа апарата партыйнага кантроля сумесна з усімі рэспубліканскімі партыйнымі арганізацыямі ў барацьбе за рэалізацыю рашэнняў ЦК партыі і III пленума Камісіі Партыйнага Кантроля.

Для таго, каб кантроль пранік ва ўсе галіны нашай соцыялістычнай будоўлі, аднаго апарата Камісіі Партыйнага Кантроля недастаткова.

Тав. Кагановіч на чэрвеньскім пленуме КПК у 1934 годзе гаварыў:

> «Задачы кантроля растуць і ўскладняюцца з ростам нашай гаспадарчай магутнасці, з размахам соцыялістычнага будаўніцтва. Безумоўна, адна Камісія Партыйнага Кантроля, будзь у ёй у дзесяць раз больш членаў, абраных на партыйным з'ездзе, не ў сілах справіцца з усімі аб'ектамі і пытаннямі кантроля. Тым настойлівей стаіць пытанне аб прыцягненні проф-

саюзаў, комсамола, друку, соцень тысяч і мільёнаў рабочых, служачых, калгаснікаў і працоўных да штодзеннай кантрольнай работы».

Гэтыя важнейшыя рычагі недастаткова выкарыстаны ўпаўнаважанымі КПК, як гэта падкрэсліў пленум КПК у сваіх рашэннях.

З выступленняў на сходах менскага раённага партактыва было відаць, што кантрольная работа разгорнута слаба профсаюзамі, советамі, комсамолам і друкам, што сваю функцыю нізавога кантроля яны выконваюць недастаткова.

* * *

Другім важнейшым пытаннем, якое стаяла на пленуме КПК, было пытанне аб рабоце парткалегій і аб накладанні партыйных спагнанняў на членаў і кандыдатаў партыі. Пленум з усёй сілай большэвіцкай самакрытыкі выявіў недахопы і на гэтым участку.

Двухгадовая практыка работы парткалегій і вынікі праверкі партыйных дакументаў паказалі, што ў рабоце парткалегій і мясцовых партыйных арганізацый быў рад буйнейшых недахопаў. Праверка паказала, што многія партыйныя арганізацыі, не гледзячы на неаднаразовыя ўказанні ЦК ВКП(б), не выхоўвалі комуністаў у духу найстражэйшага захавання статута партыі, усямернага павышэння партыйнай пільнасці і дысцыпліны.

Рад арганізацый дрэнна выкрываў прымазаўшыхся, разлажыўшыхся і варожых партыі людзей. Гэта магло здарыцца толькі таму, што партыйныя арганізацыі не адчувалі адказнасці за кожнага свайго члена. Замест вывучэння і выхавання комуніста абмяжоўваліся масавымі партспагнаннямі, прычым адарвана ад мясцовых нізавых партарганізацый, што ў канчатковым выніку не ўзмацняла дысцыпліну, а вяло да абыякавых адносін к тым пакаранням, якія даваліся члену партыі.

Гэта можна праілюстраваць многімі фактамі з практыкі работы на Беларусі.

Сенненскі райком КП(б)Б за дзесяць месяцаў прыцягнуў да партыйнай адказнасці 80 таварышоў або 52,6% усёй сваёй арганізацыі. У агульнай складанасці яны атрымалі 152 партыйныя спагнанні, прычым 28 чал. выключаны з партыі. Падаўляючая большасць (91,2%) прыцягнута да партыйнай адказнасці за зрыў гаспадарча-палітычных кампаній і парушэнне партыйнай дысцыпліны.

Дубровенскі райком КП(б)Б за перыяд з сакавіка 1934 года па студзень 1935 года прыцягнуў да партыйнай адказнасці 74 комуністы або 29% усёй раённай партарганізацыі, з якіх выключаны з партыі 25 чалавек. Характар праступкаў той-жа. Усяго накладзена 110 партспагнанняў—не лічачы выключэння з партыі.

Па Рэчыцкаму, Плешчаніцкаму і Расонскаму раёнах за той-жа перыяд прыцягненне да партыйнай адказнасці хістаецца ад 13 да 14% складу партыйнай арганізацыі.

Ясна, што такую практыку неабходна рашуча змяніць. Партыйныя спагнанні павінны выхоўваць комуніста ў духу найстражэйшай большэвіцкай дысцыпліны, садзейнічаць захаванню чыстаты радоў партыі. А дабіцца гэтага можна только тады, калі праступак члена партыі

будзе абгаварваць у першую чаргу яго пярвічная партарганізацыя і на гэтым прыкладзе вучыць і выхоўваць усіх астатніх сваіх членаў.

Рад партыйных арганізацый, выносячы спагнанне, зусім не сочыць за тым, як яно ўздзейнічала на члена партыі: выпраўляецца ён ці не. Часта адзін і той-жа член партыі мае агромную колькасць партыйных спагнанняў, але не ведае пра іх, бо прымаюцца яны без удзелу абвінавачанага і ў дадатак нідзе не рэгіструюцца.

Метад папярэджання, як паказвае практыка, не выкарыстоўваецца партыйнымі арганізацыямі. А хіба нельга абыйсціся без спагнання, не накладаць яго па ўсякаму і без усякага поваду? Можна выклікаць члена партыі, цярпліва выслухаць яго, зрабіць тое ці іншае ўказанне, пасля чаго ён у поўнай меры можа выправіцца.

Важнейшым пытаннем з'яўляецца размежаванне паміж партыйнымі і адміністрацыйнымі спагнаннямі. Часта гаспадарнікі, каб не «сварыцца» з комуністамі, якія працуюць у іх апараце, самі не накладаюць на іх адміністрацыйнае спагнанне за службовыя праступкі ці парушэнні, а перадаюць гэту функцыю партыйным камітэтам, якія ўслужліва яе выконваюць. Гэтым самым зусім сціраецца грань паміж партыйным і адміністрацыйным спагнаннем. Такая практыка не толькі не выхоўвае членаў партыі, але падрывае асновы працоўнай дысцыпліны, бо вядзе да зніжэння адказнасці як самога адміністратара, так і члена партыі за работу. Падмена адказнасці члена партыі за праступак супроць совецкага закону безумоўна нецярпіма, бо парушае совецкае законадаўства, на што з усёй рашучасцю ўказаў пленум КПК.

Побач з практыкай масавага накладання партыйных спагнанняў, мы недастаткова выяўлялі і выкрывалі класава чуждых і варожых партыі людзей, контррэволюцыянераў і прымазаўшыхся. Аб гэтым красамоўна гаворыць рад фактаў з нашай беларускай рэчаіснасці.

Не малая доля віны за выяўленыя праверкай партыйных дакументаў недахопы ў нашай партыйнай рабоце падае і на парткалегіі, бо не раз у практыцы разгляду апеляцый абмяжоўваліся ўжо сфармуляванымі пунктамі абвінавачання, без глыбокага вывучэння чалавека і яго праступку, што нярэдка прыводзіла да няправільных рашэнняў.

Каб знішчыць адзначаныя недахопы, пленум КПК патрабуе:

> «У рабоце па разгляду апеляцый парткалегіі павінны не толькі ўважліва разбірацца ў прычынах праступку, зробленага членам партыі, і ўстанаўляць факты, звязаныя з гэтым праступкам, але і падрабязна правяраць самога члена партыі з тым, каб забяспечыць індывідуальны падыход да кожнага комуніста».

Гэта рашэнне паказвае, што парткалегіі не выкарысталі сродкаў прафілактыкі і папераджальных мер, не вучылі зжываць недахопы ў рабоце партыйных арганізацый на яркіх прыкладах таго, як часам скажаецца імі статут партыі.

У рашэннях пленума ясна ўказана:

> «Парткалегіі КПК павінны зразумець, што апеляцыйная работа партыйных калегій з'яўляецца важнейшай работай і што, правільна праводзячы яе, парткалегіі могуць выпраўляць не толькі канкрэтныя памылкі і праступкі паасобных членаў партыі, але

> і памылковую, парушаючую статут нашай партыі, практыку пасобных партыйных арганізацый і бюракратычныя скажэнні ў рабоце партыйнага апарата».

Нярэдка былі выпадкі, калі парткалегія разбірала апеляцыю без прысутнасці прадстаўніка партыйнай арганізацыі, якая наклала партыйнае спагнанне. Такая практыка прыводзіла да павярхоўнага разгляду пытанняў і спрыяла таму, што нярэдка за ворахам усемагчымых даведак і водзываў пакідаліся ў партыі яе кроўныя ворагі.

Таму пленум у сваіх рашэннях указаў:

> «Пры разборы справы ў вышэйстаячых партыйных органах побач з членам партыі, на якога накладзена спагнанне, павінен быць выклікан і прадстаўнік наклаўшай гэта спагнанне партыйнай арганізацыі з тым, каб абмеркаванне праступку члена партыі не было аднабаковым».

Аднак, максімальную чуткасць і ўвагу, праяўленыя ў рашэннях пленума да кожнага члена партыі, ні ў якім разе нельга разумець як «амністыю». Пленум КПК патрабуе ўзмацнення большэвіцкай пільнасці, бязлітаснасці да варожых і чуждых элементаў, сапраўднага ўзмацнення партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны.

Рашэнні пленума КПК—дакумент велізарнай палітычнай важнасці. Іх павінен вывучыць кожны член партыі, а партыйным арганізацыям неабходна перагледзець сваю работу пад кутом погляду гэтых рашэнняў.

---

І. Лейзер

Сакратар парткалегіі КПК Беларусі

# Рашэнні III пленума КПК аб рабоце парткалегій і выхаванні комуністаў

III пленум Камісіі Партыйнага Кантроля пры ЦК ВКП(б) вырашыў рад важнейшых пытанняў партыйнага будаўніцтва. Яго рашэнні маюць велізарнае палітычнае і арганізацыйнае значэнне для далейшай работы ўпаўнаважаных КПК і парткалегій, а таксама для ўсіх партыйных арганізацый.

Рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб выніках праверкі партыйных дакументаў далі магчымасць паглыблена і па-новаму паставіць пытанне аб рабоце парткалегіі КПК, аб парадку накладання спагнанняў і выхаванні членаў партыі.

Падведзеныя пленумам вынікі работы ўпаўнаважаных КПК паказалі, што за мінулыя два гады была праведзена значная кантрольная работа па праверцы выканання рашэнняў партыі.

III пленум КПК у сваіх рашэннях адзначыў:

«... Інстытут упаўнаважаных КПК, незалежных ад мясцовых партыйных арганізацый, у поўнай меры апраўдаў сваё назначэнне, адыграў станоўчую ролю ў справе палепшання ўсёй пастаноўкі праверкі выканання пастаноў з'ездаў партыі і ЦК ВКП(б) і тым самым спрыяў павышэнню якасці арганізацыйна-практычнага кіраўніцтва ў рабоце абкомаў, крайкомаў, ЦК нацкомпартый і мясцовых совецкіх і гаспадарчых органаў».

У рабоце раду партыйных арганізацый упаўнаважаныя выявілі буйнейшыя недахопы і своечасова сігналізавалі аб іх Цэнтральнаму Камітэту ВКП(б). Выкрыўшы памылкі Саратаўскага крайкома, Нова-чэркаскага горсовета і рад іншых, упаўнаважаныя дапамаглі партыйным арганізацыям забяспечыць лепшае і хутчэйшае выкананне пастаноў ЦК нашай партыі.

Але побач са станоўчым вопытам упаўнаважаныя дапусцілі ў сваёй рабоце за мінулыя два гады і буйныя недахопы. Праверка выканання рашэнняў з'ездаў і ЦК нашай партыі не заўсёды займала ў іх рабоце патрэбнае месца.

Таварыш **Сталін** у сваёй прамове на XVII з'ездзе партыі ўказаў:

«Правільная арганізацыя праверкі выканання мае рашаючае значэнне ў справе барацьбы з бюракратызмам і канцэляршчынай. Праводзяцца рашэнні кіруючых арганізацый ці кладуцца пад сукно бюракратамі і канцэлярыстамі? Праводзяцца яны правільна ці скажаюцца? Працуе апарат сумленна і па-большэвіцку, ці кру-

ціцца на халастым хаду,—пра ўсё гэта можна даведацца своечасова толькі ў рэзультаце добра пастаўленай праверкі выканання. Добра пастаўленая праверка выканання—гэта той пражэктар, які дапамагае асвятляць становішча работы апарата ў любы час і выводзіць на свет божы бюракратаў і канцэлярыстаў. Можна з упэўненасцю сказаць, што дзевяць дзесятых нашых прарэх і прарываў тлумачыцца адсутнасцю правільна пастаўленай праверкі выканання. Не можа быць сумнення, што пры наяўнасці такой праверкі выканання прарэхі і прарывы былі-б напэўна папярэджаны».

Гэта ўказанне таварыша Сталіна ўпаўнаважанымі не заўсёды выконвалася. Нярэдка яны адцягваліся ад гэтых важнейшых задач і бралі на сябе вырашэнне такіх спраў, якія ўпаўне маглі быць вырашаны і выкананы мясцовымі партыйнымі, гаспадарчымі і совецкімі арганізацыямі.

Партыйны кантроль, як гэтага патрабуе пленум, павінен заўсёды ведаць і ў любы момант мець магчымасць паведаміць Цэнтральнаму Камітэту нашай партыі аб тым, у якім становішчы знаходзіцца выкананне мясцовымі арганізацыямі данай дырэктывы партыі.

Асноўная задача ўпаўнаважаных—сачыць за тым, ці правільна мясцовыя партыйныя арганізацыі выконваюць пастановы Цэнтральнага Камітэта нашай партыі. А гэта магчыма толькі пры сістэматычным упартым кантролі. Толькі сістэматычны кантроль здолен выканаць тую функцыю, аб якой таварыш Сталін у сваёй рэпліцы па дакладу тав. Кагановіча на XVII з'ездзе партыі сказаў: «Кантроль папярэджвае». Гэта папераджальная роля кантролю эфектыўней усякіх рэпрэсій, бо яна забяспечвае выкананне пастановы ў тэрмін.

У нас звычайна бывала так, што пасля пастановы Цэнтральнага Камітэта партыі праходзіць 3—4 месяцы, але ніхто за гэты час не пацікавіцца, як яна выканана. Калі ўрэшце высняецца, што яе нават не пачыналі выконваць, то партыйнаму кантролю застаецца адно—караць вінаватых. Тым часам своечасовы кантроль і праверка маглі-б папярэдзіць рэпрэсію, бо выхавалі-б у работнікаў пачуццё дзяржаўнай адказнасці, дысцыпліны і акуратнасці ў выкананні пастаноў Цэнтральнага Камітэта партыі.

III пленум КПК даў канкрэтныя і вычарпальныя ўказанні аб тым, як знішчыць выяўленыя дэфекты і палепшыць усю работу ўпаўнаважаных. Гэтыя рашэнні павінны быць пакладзены ў аснову далейшай работы ўсіх упаўнаважаных КПК.

Другая пастанова пленума КПК яднае два пытанні: «аб парадку накладання партспагнанняў на членаў і кандыдатаў партыі» і «аб рабоце парткалегій». Абодва яны цесна звязаны з тымі вывадамі, якія партыя зрабіла на снежаньскім пленуме ЦК па дакладу тав. Ежова аб выніках праверкі партыйных дакументаў:

«Члены партыі і партыйныя арганізацыі ўсё яшчэ дрэнна засвоілі неаднаразовыя ўказанні ЦК ВКП(б) аб неабходнасці ўсямернага павышэння большэвіцкай пільнасці і дысцыпліны сярод членаў партыі».

Выходзячы з гэтага, III пленум КПК у сваім рашэнні ўказаў:

«У рабоце па разгляду апеляцый парткалегіі павінны не толькі ўважліва разбірацца ў прычынах праступку, зробленага членам партыі, і ўстанаўляць факты, звязаныя з гэтым праступкам, але і падрабязна правяраць самога члена партыі з тым, каб забяспечыць індывідуальны падыход да кожнага комуніста».

Чаму выносіцца такая пастанова? Таму, што парткалегії ў абласцях, краях і нацрэспубліках пры разглядзе апеляцый звычайна абмяжоўваліся разборам зместу абвінавачання і правільнасці накладзенага на апелюючага райкомам ці пярвічнай партарганізацыяй партспагнання. Калі прад'яўленыя абвінавачанні не пацвярджаліся або былі недастатковымі для выключэння ці накладання партыйнага спагнання, то парткалегія змяняла рашэнне райкома ці гаркома, не імкнучыся ўзяць комуніста, як ён ёсць, і праверыць, што ён сабою прадстаўляе. Тым часам практыка паказала, што, правяраючы комуніста па сутнасці, а не фармальна, пры разборы апеляцыі выяўляецца рад дадатковых матар'ялаў, якія даюць магчымасць устанавіць сапраўдны твар апелюючага.

Парткалегія пры ўпаўнаважаным КПК па Беларусі мае ў практыцы сваёй работы рад прыкладаў, якія цалкам пацвярджаюць вышэйадзначанае.

Вельмі павучальна справа Сільвестрава—члена партыі з 1928 года. Сын буйнага кулака, сельскага старасты, Сільвестраў у 1918 г. разам з бацькам выдаваў нямецкім акупантам чырвоных партызан і совецкі настроеных людзей. Пазней дэзертаваў з радоў Чырвонай арміі, прадставіўшы атрыманы за ўзятку падложны дакумент аб годзе нараджэння. Потым, шляхам ашуканства прабраўшыся ў партыю, пралез на кіруючую совецкую работу: у радзе раёнаў быў старшынёю РВК, далей намеснікам наркома аховы здароўя, членам ЦВК БССР, а ў апошні час—старшынёю клімавіцкага райвыканкома.

Выкарыстоўваючы сваё службовае становішча, Сільвестраў увесь час актыўна абараняў свайго бацьку-кулака, якога не раз выключалі з калгаса і які падлягаў раскулачванню і высылцы. Акружыў сябе класава чуждым элементам і актыўна абараняў яго, заціскаючы крытыку і самакрытыку, займаўся самаснабжэннем.

Пытанне аб соцыяльным паходжанні Сільвестрава ўзнімалася пры чыстках партыі ў 1929 і 1933 гг., але кожны раз заглушалася нагласцю і зваротлівасцю Сільвестрава. Гэты-ж метад прымяніў ён і пры расследванні справы парткалегіяй. Аднак, прыціснуты дакументамі і фактамі, пасля доўгіх запіранняў прымушан быў ва ўсім прызнацца. Парткалегіяй Сільвестраў выключан з партыі, пасля чаго быў выведзен са складу ЦВК БССР і пазбаўлен атрыманага ад яго ордэна «Працоўнага сцягу».

Адначасова парткалегія паставіла пытанне перад КПК Іванаўскай вобласці аб партыйнасці сястры Сільвестрава, якая таксама скрыла сваё соцыяльнае паходжанне і трымала сістэматычную сувязь з бацькам-кулаком.

Другі прыклад—справа Жухавіцкага, члена партыі з 1925 года, дырэктара Водасвета ў гор. Бабруйску.

У 1933 годзе раённая камісія па чыстцы выключыла Жухавіцкага з партыі за сувязь з польскай жандармерыяй у перыяд белапольскай акупацыі, аднак рэспубліканская камісія на падставе даведак трох членаў партыі, якія адмаўлялі высунутыя абвінавачанні, ён быў адноўлен у партыі з выняткай усіх кампраметуючых матар'ялаў з яго партсправы.

У 1935 годзе ў парткалегію паступіла заява, расследваннем якой устаноўлена, што Жухавіцкі ў перыяд белапольскай акупацыі са праўды быў цесна звязаны з польскай ахранкай, актыўна садзейнічаў ёй у барацьбе з большэвікамі і што комуністы Аллер, Пільман



і Фернік далі рэспубліканскай камісіі па чыстцы ложныя заявы, чым увялі яе ў зман.

За контррэволюцыйную дзейнасць парткалегія выключыла з партыі Жухавіцкага, а таксама Ферніка за выдачу Жухавіцкаму ложнай характарыстыкі, астатнія атрымалі суровыя партспагнанні.

Трэці прыклад—справа Лізурчыка М. М., які лічыўся членам партыі з 1918 г. Будучы дырэктарам соўгаса «Усце», Оршанскага раёна, Лізурчык прыцягваўся парткалегіяй да адказнасці за безгаспадарчасць і развал соўгаса.

Пры разглядзе справы Лізурчыка парткалегія ўзяла пад сумненне правільнасць яго партдакументаў у сувязі з памаркамі ва ўліковай картцы у графах: соцстановішча і час уступлення ў партыю. Лізурчык упарта даказваў, што ён член партыі з 1918 года і што, моў, ніякіх сумненняў у гэтым быць не можа.

Але варта было глыбей пакапацца ў архіве, як выяснілася, што Лізурчык сапраўды член партыі з 1923 года, з такой адзнакай праходзіў чыстку ў 1929 годзе, а чыстку ў 1933 годзе праходзіў ужо як член партыі з 1918 года. Выявілася, што ў 1933 годзе, будучы ў магілеўскай партарганізацыі, Лізурчык згубіў партбілет, а можа і сімуляваў згубу, падрабіў ва ўліковай картцы партстаж і соцыяльнае становішча і атрымаў дублікат партбілета са стажам з 1918 года.

Парткалегія выключэнне Лізурчыка з партыі пацвердзіла.

Чацверты прыклад—справа Файнберга, члена партыі з 1932 года, пераведзенага ў 1933 г. за палітняграматнасць у кандыдаты. Пры праверцы выявілася, што Файнберг—сын уласніка пяцікватэрнага дому і шавецкай майстэрні са сталай наёмнай рабочай сілай, за што ў 1925 г. быў разам з бацькам пазбаўлен выбарчых праваў.

Аднавіўшыся ў 1928 г. у выбарчых правах, Файнберг зрабіўся на некаторы час рабочым фабрыкі імя 8-га сакавіка і пад маскай рабочага пранік у рады партыі. Стаўшы комуністам, ён пакінуў станок, прабраўся на кааперацыйную работу, дзе і заняўся сістэматычным раскрадваннем тавараў, п'янкай і карцёжнай гульнёй. У апошні час загадваў магазінам Горспажыўсаюза № 14. Файнберг выключан з радоў партыі.

Паданыя прыклады наглядна паказваюць, як з-за няўважлівасці можна пакінуць у партыі класавага ворага, а часта і прагледзець яго злачынную дзейнасць.

Праверка партыйных дакументаў выявіла людзей, якія не мелі ніводнага партыйнага спагнання, лічыліся сумленнымі, аднак аказаліся сынкамі кулакоў, прамымі ворагамі партыі і пролетарыята.

Адметнаю рысай праверкі партдакументаў і важнейшым яе вынікам з'яўляецца тое, што галоўны ўдар быў накіраван на выкрыццё і ачыстку партыі ад шпіёнаў, трацкістаў, зіноўеўцаў, кулацкіх і іншых класава варожых элементаў, якія прымазаліся да партыі. Такім чынам праверка партдакументаў ударыла па найбольш небяспечных элементах, пралезшых у нашу партыю, і разам з тым паказала, што партыйныя арганізацыі і парткалегіі не выконвалі свайго абавязку вывучаць склад партарганізацыі, не праяўлялі сапраўднай большэвіцкай пільнасці, многае прашляпілі, хоць і не скупіліся на вынясенне партспагнанняў.

Але былі факты і адваротнага парадку. Рад партарганізацый з-за фармальнага падыходу да разбору справы па абвінавачанню таго ці іншага комуніста незаслужана выключалі з партыі.

Прывядзем некалькі прыкладаў несур'ёзных адносін да праверкі паступаючых матар'ялаў і ўстанаўлення сапраўднай вінаватасці камуніста.

Тав. Мельнікаў Л. І.—член партыі з 1925 года, старшыня РК саюза работнікаў лесу і сплаву ў Клічаўскім раёне—20 лістапада 1934 г. быў выключан з партыі лельчыцкім РК за дэзерцірства з раёна.

Парткалегія, куды апеляваў тав. Мельнікаў, устанавіла, што апошні, з'яўляючыся прарабам па падсочцы, 1 лютага 1934 г. у сувязі са скончэннем работ на лельчыцкім участку, быў вызвален ад работы прараба трэстам Белхімлес і са згоды лельчыцкага РК адпушчан у двухмесячны водпуск. Па сканчэнні водпуску трэст Лесбел накіраваў Мельнікава на работу ў леспрамгас Клічаўскага раёна, дзе яго абралі старшынёю РК саюза работнікаў лесу і сплаву. Адначасова трэст звярнуўся з просьбай у промаддзел ЦК КП(б)Б аб афармленні пераводу Мельнікава з Лельчыцкага ў Клічаўскі раён. Сам тав. Мельнікаў таксама неаднаразова пісаў заявы ў промаддзел ЦК і лельчыцкі РК з просьбай аформіць яго перавод па партлініі. Нарэшце, 9 студзеня 1935 г. ён атрымаў выпіску з пастановы лельчыцкага РК аб выключэнні яго з партыі за дэзерцірства.

Улічваючы ўсё гэта, парткалегія 25 красавіка 1935 г. аднавіла тав. Мельнікава ў членах партыі, указаўшы на недапушчальнасць у далейшым выезду з адной арганізацыі ў другую без афармлення па партлініі, і паслала лельчыцкаму РК выпіску са свайго рашэння.

Не гледзячы на зусім правільнае і абгрунтаванае рашэнне парткалегіі, лельчыцкі РК не выслаў уліковую картку Мельнікава клічаўскаму РК і ў лістападзе 1935 года, пры праверцы партдакументаў, выклікаўшы Мельнікава з Клічаўскага раёна, зноў выключыў яго з радоў партыі.

Характэрна фармуліроўка лельчыцкага РК:

«Мельнікаў Л. І. у 1934 г. выключаўся з партыі за дэзерцірства з раёна. Адноўлен у 1935 г. КПК пры ЦК КП(б)Б. Выяўлена і ўстаноўлена, што дэзерцірстваваў з раёна ў 1934 г. і знаходзіўся невядома дзе да праверкі партдакументаў. Па асабістай заяве працуе старшынёй РК саюза ў Клічаўскім раёне.

Сакратар Лельчыцкага РК КП(б)Б Осінскі».

Прыведзеная фармуліроўка выключэння Мельнікава з партыі, пасля рашэння парткалегіі, у якім вельмі ясна і дакладна падаецца сутнасць справы, месца работы Мельнікава і іншыя моманты, настолькі няверна, неабгрунтавана і абсурдна, што каментарыі лішнія.

Парткалегія паставіла перад ЦК КП(б)Б пытанне аб пераглядзе гэтай справы, і Мельнікаў у партыі адноўлен.

Такія выключэнні з партыі дзёргаюць чалавека, прымушаюць яго перажываць цяжкія гадзіны і ўсё толькі з-за таго, што паасобныя партыйныя арганізацыі павярхоўна аднесліся да праверкі прад'яўленага члену партыі абвінавачання. Падобных фактаў можна было-б прывесці дзесяткі.

Не мала і такіх выпадкаў, калі комуніст, моцна, па-большэвіцку ставячы пытанне аб выкананні дырэктыў партыі і ўрада, сустракае класава варожых элементаў, якія ўсяляк хлусяць на такога члена партыі. Таму большэвіцкая пільнасць павінна быць тут асабліва вострай. Мы павінны пільна сачыць за тым, каб класавы вораг не пралазіў у партыю і, з другога боку,—не дапусціць, каб ён сваёй дзейнасцю дабіваўся выключэння нашых лепшых людзей, адданых членаў партыі.

Нельга не сказаць таксама і пра тое, як рад партарганізацый падыходзіў да накладання партспагнанняў. Многія партарганізацыі займаліся масавым накладаннем спагнанняў, што нічога агульнага не мае з выхаваннем, а прыводзіць толькі к таму, што партспагнанні перастаюць быць мерай уздзеяння і перавыхавання як партыйных арганізацый, так і комуніста, які правініўся.

У Віцебскім раёне на адным і тым-жа паседжанні гаркома старшыня сельсовета, член партыі з 1932 года, атрымаў два партыйныя спагнанні: суровую вымову з папярэджаннем за зрыў мясапаставак і суровую вымову з папярэджаннем за зрыў лесапаставак.

Сенненскі РК КП(б)Б за 10 месяцаў (сакавік—снежань 1934 г.) прыцягнуў да партыйнай адказнасці 80 комуністаў або 52,6% усёй райпартарганізацыі, з якіх выключыў з партыі 28. Па сацыяльнаму становішчу найбольшую групу прыцягнутых складаюць сяляне-калгаснікі—58,7%; па роду заняткаў—старшыні калгасаў і сельсоветаў 48,7% і па партстажу—члены партыі з 1931-1930 гг. і кандыдаты. Пераважная большасць (91,2%) прыцягнута за зрыў гаспадарча-палітычных кампаній і парушэнне партдысцыпліны. Усе прыцягнутыя, не лічачы выключаных, атрымалі ад райкома у агульнай суме 124 партспагнанні: ад вымовы і больш. Пяць таварышоў атрымалі па 5 вымоў, адзін—4 вымовы, сем—па 3 вымовы, восем—па 2 вымовы, астатнія атрымалі партспагнанні ўпершыню.

Дубровенскі РК КП(б)Б за гэты перыяд прыцягнуў да партадказнасці 74 комуністаў або 29% усёй райпартарганізацыі, з якіх выключыў з партыі 25 таварышоў. Кантынгент прыцягнутых і характар партпраступкаў той-жа, што і па Сенненскаму раёну. Прыцягнутыя, не лічачы выключаных, атрымалі 110 партспагнанняў; па чатыры—4 таварышы, па тры—5 таварышоў і па два—18 таварышоў.

Або вось яшчэ прыклад.

Бюро петрыкаўскага РК КП(б)Б і прэзідыум РВК выносяць такую пастанову:

«За адсутнасць аперацыйнага кіраўніцтва інструктару па сеназагатоўках тав. Лук'яновічу абвясціць суровую вымову з папярэджаннем.

За злачынную бяздзейнасць і зрыў сеназагатовак зняць з работы старшыню Пцічскага сельсовета тав. Антанішына і выключыць яго з партыі. Абвясціць суровую вымову з папярэджаннем сакратару пцічскай парт'ячэйкі тав. Шаблінскаму і абвясціць вымову ўпаўнаважаным РК і РВК па гэтаму сельсовету тт. Качароўскаму і Дубіне.

За зрыў сеназагатовак адабраць пераходны чырвоны сцяг імя РК КП(б)Б ад камаровіцкай парт'ячэйкі і сельсовета і абвясціць суровую вымову з папярэджаннем сакратару парт'ячэйкі тав. Брайну і старшыні гэтага сельсовета тав. Пінько.

За поўную бяздзейнасць у сеназагатоўках абвясціць суровую вымову з папярэджаннем сакратарам парт'ячэек і старшыням сельсоветаў: Белкаўскага (тт. Курда і Царун), Капцэвіцкага (тт. Антоніку і Касінскаму), Колкаўскага (т. Ткачу) і рашуча папярэдзіць сакратароў парт'ячэек і старшынь сельсоветаў—Чалюшавіцкага (тт. Кудравец і Маркавец), Лескавіцкага (тт. Шаболтас і Пабылава) і Капаткевіцкага (тт. Мацюха і Філіповіча).

Папярэдзіць усіх сакратароў парт'ячэек, сельсоветаў і ўпаўнаважаных РК і РВК, што ў выпадку, калі яны не скончаць поўнасцю

выкананне сеназагатовак да 15 жніўня,—да іх будуць прыняты самыя жорсткія меры партыйнага пакарання.

Даручыць РВК зараз-жа камандзіраваць свайго прадстаўніка ў зарэчныя сельсоветы для выяўлення прычын і канкрэтных віноўнікаў у невыкананні планаў сеназагатовак і прыцягнення вінаватых да адказнасці».

У выніку гэтай пастановы 1 выключан, 11 атрымалі вымовы, 6 рашуча папярэджаны, і ўсе ўпаўнаважаныя райкома і РВК па сельсоветах таксама атрымалі вымовы, прычым прозвішчы гэтых таварышоў нават не патурбаваліся ўказаць.

Паўстае пытанне: які ўплыў на ўмацаванне партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны могуць мець вынесеныя ў такім агульным парадку партыйныя спагнанні, не абгавораныя пярвічнай партарганізацыяй у прысутнасці правініўшыхся? Адказ ясны: яны не толькі не выхоўваюць членаў партыі, але расхістваюць дысцыпліну.

Гэту нягодную практыку адміністравання і прамога парушэння статута партыі пры накладанні партспагнанняў дапусціў рад гаркомаў і райкомаў партыі.

Без разгляду ў пярвічных партарганізацыях прыцягнута да партыйнай адказнасці: віцебскім гаркомам 93 члены партыі са 161 або 57%, магілеўскім—83 са 110 або 75%, дубровенскім райкомам 69 з 74 або 93%, сенненскім—78 з 80 або 97%.

У рэзалюцыі III пленума КПК указана:

«Толькі неразуменнем мэты і значэння партыйных спагнанняў, як сродку ўмацавання партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны, можна растлумачыць шматлікія факты завочных спагнанняў, якія выносяцца без выкліку членаў партыі пры разборы іх справы і без дасканалага расследвання іх праступкаў».

Выключэнне з партыі і вынясенне партспагнанняў комуністам, а таксама спагнанняў комсамольцам і беспартыйным на аб'яднаных паседжаннях бюро РК і прэзідыума РВК практыкавалась у Магілеўскім, Сенненскім, Дубровенскім і іншых раёнах. Тым часам статут, прыняты на XVII з'ездзе нашай партыі, прама гаворыць:

«Пытанне аб выключэнні каго-небудзь з партыі вырашаецца агульным сходам толькі той арганізацыі, членам якой даная асоба з'яўляецца».

Статут партыі мае на ўвазе, што партыйнае спагнанне з'яўляецца сур'ёзным урокам не толькі для члена партыі, які парушыў статут, таму яно павінна абгаварвацца ўсёй партыйнай арганізацыяй. Зняць партыйнае спагнанне можна таксама толькі пасля таго, як яно будзе абгаворана ўсёй партарганізацыяй. Партыйнае спагнанне ёсць мера-прыемства калектыўнага папярэджання, якое выхоўвае ў члена партыі дысцыпліну, большэвіцкі дух, тым часам як метады масавага спагнання толькі ўмаляюць яго значэнне.

Нельга забываць слоў Леніна на II з'ездзе партыі аб тым, што **«кожны член партыі адказны за партыю і партыя адказна за кожнага члена партыі».**

У пастанове III пленума КПК сказана:

«Толькі неразуменнем мэты і значэння партыйных спагнанняў, як сродку выхавання членаў партыі ў духу партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны, можна растлумачыць той факт, што многія пяр-

вічныя партыйныя арганізацыі перасталі дасканала разбіраць на агульных сходах праступкі членаў партыі, а звялі сваю задачу толькі да абмеркавання на вузкім пасяджэнні партыйнага камітэта меры спагнання, накладаемай на правініўшагася члена ці кандыдата партыі.

... Пярвічныя партыйныя арганізацыі абавязаны абмяркоўваць праступкі членаў партыі на агульных сходах з тым, каб у рэзультаце абмеркавання пытання выхоўваўся не толькі зрабіўшы праступак член партыі і кандыдат, але і сама партыйная арганізацыя».

Райком і пярвічныя партарганізацыі абавязаны цікавіцца тым, як член партыі выпраўляе свае памылкі, своечасова дапамагчы яму. Калі партарганізацыя бачыць, што таварыш па-большэвіцку выпраўляе дапушчаны ім праступак ці памылку, яна можа і без яго заявы паставіць пытанне аб тым, каб зняць партспагнанне.

Важнае значэнне пры разборы апеляцый мае фармуліроўка праступку члена партыі. Аднак да парткалегіі нярэдка даходзяць голыя пастановы райкомаў аб партспагнанні, вынесеныя толькі на падставе неправеранай інфармацыі інструктара. Некаторыя з фармуліровак даходзяць проста да смешнага. Нядаўна парткалегія разбірала адну апеляцыю. Праступак таварыша быў сфармуляваны так:

«За недаацэнку кулака ў буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі 1905 года—з партыі выключыць».

У кожным рашэнні павінна быць выразна адзначана, за што чалавек выключан з партыі або панёс партспагнанне, каб даць яму магчымасць выправіцца ў далейшай практычнай рабоце. Інакш ён будзе абыякава адносіцца да вымоў. Калі ўчора комуніст атрымаў адну суровую вымову, а заўтра ці паслязаўтра будзе мець яшчэ дзве, то такі падыход не выхавае ў ім пачуцця адказнасці.

Партыйная калегія з 15 мая па 15 лістапада 1934 года разгледзела апеляцыі 567 чалавек, з якіх пацвердзіла 241 справу—гэта значыць толькі 43% і змяніла партспагнанні на 316 чалавек або 56%. Неабгрунтаваных партспагнанняў адменена на 105 чалавек або 18%. За 7½ месяцаў, па ліпень 1935 года, было падана 657 апеляцый. Пацверджаны рашэнні на 207 чал. або 31%, зменены 450 або 68%. Неабгрунтаваных спагнанняў адменена 19%.

Такія вынікі мы мелі ў старой практыцы работы. У далейшым гэтага ўжо не павінна быць.

Факты неабгрунтаванага выключэння і накладання партыйных спагнанняў часта суправаджаліся нездавальняючым афармленнем спраў аб партпраступках комуністаў.

Так, у віцебскім гаркоме зусім не аказалася пасланай партгрупай калгаса «Іскра», Віцебскага сельсовета, праз палітаддзел МТС партыйнай справы Раздрабенка, выключанага з партыі яшчэ ў пачатку 1934 года, справы Пулярава—з фабрыкі «Дзвіна», Смушкіна—з фабрыкі «Клары Цэткін». Абураючая безадказнасць праяўлена да справы Палякова, выключанага з партыі завочна. Палякоў падаў ў гарком апеляцыю, якая без усякай рэгістрацыі перадана была інструктару Остроўскай і праляжала ў яе стале без руху 9 месяцаў. Тав. Палякоў хадзіў, пісаў, прасіў паскорыць разбор справы, але ніхто не ведаў, у каго яна знаходзіцца. І толькі выпадкова, калі Остроўская пакінула работу ў гаркоме, знашлі справу ў яе стале.

У сенненскім райкоме ніяк нельга было ўстанавіць, калі і хто выключаўся з партыі або меў спагнанні, бо справы афармляліся выключна неахайна. Цэлы рад пастаноў прышлося браць з раённай газеты.

Рашэннем III пленума Камісіі Партыйнага Кантроля ўскладаецца выключна сур'ёзная адказнасць на ўсе партыйныя арганізацыі і ў тым ліку на парткалегію за неабгрунтаваныя выключэнні з партыі.

«Ва ўсіх выпадках, калі парткалегіі ўстановяць, што пакаранне члена партыі ці выключэнне яго з радоў ВКП(б) вынесена адпаведнай партыйнай арганізацыяй няправільна, яны павінны, не абмяжоўваючыся толькі адменай гэтага рашэння, дасканалым чынам высветліць, чаму іменна вынесена такое няправільнае рашэнне, і ў тых выпадках, калі будуць выяўлены наўмысныя, неаб'ектыўныя ці павярхоўныя адносіны да справы, пакараць вінаватых, давёўшы аб гэтым да ведама як той арганізацыі, якая вынесла гэта рашэнне, так і вышэйстаячых партыйных органаў».

Трэба памятаць, што член партыі—прадстаўнік самай свядомай, самай адданай часткі рабочага класа, калгаснікаў і працоўнай інтэлігенцыі совецкай дзяржавы, што права насіць высокае званне члена партыі мае не ўсякі. Але разам з тым рашэнне пленума КПК нельга разумець так, што справа ідзе аб нейкім аслабленні ці амністыі для членаў партыі, парушаючых партыйную дысцыпліну. Наадварот, пленум КПК і партыя ставяць пытанне аб усямерным умацаванні дысцыпліны сярод членаў партыі і партыйных арганізацый.

У рашэннях Камісіі партыйнага кантроля ясна сказана:

«Апеляцыі, якія паступаюць ад членаў і кандыдатаў партыі, павінны разглядацца на парткалегіі абавязкова ў прысутнасці апелюючага і ў прысутнасці прадстаўніка той арганізацыі, якая вынесла пастанову аб выключэнні ці пакаранні таго ці іншага члена партыі».

Гэта рашэнне мае велізарнае значэнне. Уся справа абвінавачанага будзе зусім яснай у прысутнасці людзей, якія добра ведаюць усе яе акалічнасці.

Некалькі слоў трэба сказаць аб тым, што ў нас вельмі часта лічылі непатрэбным аддаваць пад суд комуніста, калі ён дапусціў нават злачынства ці растрату, а накладаць на яго спагнанне ў партыйным парадку.

Пленум КПК лічыць гэту практыку няправільнай. Кожны комуніст за злачынства і праступкі супроць совецкай дзяржавы адказвае перад законам, як і ўсякі совецкі грамадзянін, які парушае закон. Розніцы не павінна быць. Комуніст які парушыў совецкія законы, павінен прыцягвацца да суда, і толькі пасля судовага разбору мы будзем судзіць, варты гэты чалавек быць членам партыі ці не.

Часта бывае, што партыйныя арганізацыі механічна накладаюць партыйныя спагнанні на члена партыі, атрымаўшага спагнанне ў адміністрацыйным парадку за службовыя праступкі. Такая практыка няверна. Толькі ў тых выпадках, калі партыйная арганізацыя лічыць, што спагнанне ў адміністрацыйным парадку з'яўляецца недастатковым, ставіцца пытанне аб партыйным спагнанні

Па гэтаму пытанню III пленум КПК вынес наступнае рашэнне:

... «Партыйныя арганізацыі і парткалегіі КПК павінны строга размяжоўваць партыйныя спагнанні, накладаемыя на комуністаў за

парушэнне статута партыі, партыйнай дысцыпліны і партыйнай этыкі, ад спагнанняў, якія накладаюцца на комуністаў за тыя ці іншыя парушэнні совецкага закона».

* * *

Праведзеная па ініцыятыве таварыша **Сталіна** праверка партыйных дакументаў ачысціла нашу партыю ад класава чуждых, варожых, разлажыўшыхся элементаў, падонкаў трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі і побач з гэтым значна ўзняла і палепшыла ўсю партыйна-арганізацыйную і палітыка-выхаваўчую работу сярод усіх партыйных арганізацый.

У выніку праверкі партдакументаў нязмерна ўзрасла актыўнасць і цяга комуністаў да вучобы і аўладання ленінска-сталінскай тэорыяй. Узнялася большэвіцкая рэволюцыйная пільнасць, значна ўмацавалася партыйная дысцыпліна, члены партыі яшчэ больш згуртаваліся вакол ленінска-сталінскага ЦК ВКП(б) і вакол свайго любімага правадыра—таварыша **Сталіна.**

Абмен партыйных дакументаў павінен замацаваць станоўчыя вынікі праверкі і яшчэ вышэй узняць званне і аўтарытэт усёй партыі і кожнага яе члена, бо права на новы партбілет мае толькі той, хто сапраўды варты высокага звання члена большэвіцкай партыі.

Рашэнні III пленума КПК аб рабоце ўпаўнаважаных, парткалегій і аб парадку накладання партспагнанняў на членаў і кандыдатаў партыі цалкам і поўнасцю накіраваны на ўсямернае павышэнне і палепшанне партыйна-арганізацыйнай і выхаваўчай работы, на ўмацаванне непарушнасці статута партыі, партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны.

Трэба дабіцца таго, каб кожны комуніст няўхільна выконваў запатрабаванні другога пункту статута партыі, у якім гаворыцца:

Член партыі абавязан:

а) захоўваць найстражэйшую партыйную дысцыпліну, актыўна ўдзельнічаць у палітычным жыцці партыі і краіны, праводзіць на практыцы палітыку партыі і рашэнні партыйных органаў;

б) няўстанна працаваць над павышэннем сваёй ідэйнай узброенасці, над засваеннем асноў марксізма-ленінізма, важнейшых палітычных і арганізацыйных рашэнняў партыі і растлумачваць іх беспартыйным масам;

в) як член кіруючай партыі ў Совецкай дзяржаве,—быць узорам захавання працоўнай і дзяржаўнай дысцыпліны, авалодваць тэхнікай сваёй справы, безупынна павышаючы сваю вытворчую, дзелавую кваліфікацыю».

Рашэнні III пленума КПК—магутная зброя ў барацьбе за ўмацаванне партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны, за выхаванне сярод членаў партыі пачуцця адказнасці перад партыяй, за ўздым рэволюцыйнай пільнасці і непрымірымасці да класавых ворагаў, за яшчэ большае ўмацаванне маналітнасці і адзінства радоў партыі Леніна—Сталіна.

---

**С. Кержакевіч**

Сакратар парыцкага РК КП(б)Б

# Як парыцкая партарганізацыя рыхтуецца да абмену партдакументаў

Паспяховае правядзенне абмену партдакументаў залежыць ад сур'ёзнасці падрыхтоўчай работы. Галоўную ўвагу наша партарганізацыя ўдзяліла таму, каб давесці да свядомасці кожнага комуніста палітычнае значэнне абмену партдакументаў. Гэта важнейшая работа пачалася з распрацоўкі на бюро РК, на сходзе партактыва, на сходах пярвічных партарганізацый і двух райпартсходах рашэнняў снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК аб выніках праверкі партдакументаў. Значная работа праведзена ў сеці партасветы, дзе для глыбокага вывучэння матар'ялаў пленумаў адведзена было двое заняткаў.

Пасля спецыяльнай нарады сакратароў РК, склікаАай ЦК КП(б)Б 13 лютага г. г., Парыцкі райком партыі абгаварыў пытанне падрыхтоўкі да абмену на бюро, правёў інструкцыйную нараду парторгаў пярвічных партарганізацый разам з інструктарамі райкома па пытанню правядзення адзінага партдня і абмеркаваў з імі парадак абмену партдакументаў і тэхніку запаўнення рэгістрацыйнага бланка.

22 лютага раённы партсход заслухаў, як паасобныя пярвічныя партарганізацыі і комуністы рыхтуюцца да абмену партдакументаў, прычым рад членаў і кандыдатаў партыі быў падвергнуты суровай крытыцы.

Кандыдат партыі тав. Дворкін выкрыў контррэволюцыйную вылазку члена партыі з 1919 г., скончыўшага ў 1936 г. ВКСГШ,—Радчука, які за некалькі дзён да райпартсходу выступіў на сходзе калгаснікаў з трацкісцкай тэорыяй аб немагчымасці пабудовы соцыялізма і комунізма ў адной краіне. Гэты факт зараз-жа пасля сходу быў праверан і пацвердзіўся. Радчук, які ўжо да гэтага адзін раз выключаўся з партыі за падобную трацкісцкую вылазку ў ВКСГШ, пастановай бюро РК з партыі выключан.

Адным з буйнейшых недахопаў нашай работы было адставанне ў палітычным росце і слабая актыўнасць некаторых кандыдатаў партыі. Сакратар райкома правёў з імі гутарку і высвятліў, што прычына—у недастатковай чуласці, а падчас і няўважлівых адносінах як пярвічных партарганізацый, так і райкома, да малаграматных, асабліва многасямейных жанчын-комуністак, у недыферэнцыяваным падыходзе да іх пры залічэнні ў партшколу, пры партнагрузках і т. п.

Гэты прабел у нашай рабоце цяпер выпраўлены. Да ўсіх кандыдатаў і малаграматных членаў партыі прымацаваны настаўнікі па мове, арыфметыцы і геаграфіі. Створаны гурткі чыткі мастацкай літаратуры і газетнай інфармацыі, якія працуюць раз у пяцідзенку пад кіраўніцтвам падрыхтаваных таварышоў, спецыяльна вылучаных бюро РК.

У 6 буйнейшых пярвічных партарганізацыях па пастанове бюро РК парторгі зрабілі справаздачы аб сваёй рабоце і аб падрыхтаванасці партарганізацыі да абмену партдакументаў. Ва ўсіх сходах прымалі ўдзел члены бюро РК. Гэта мерапрыемства дапамагло выясніць, што партарганізацыі МТС і НКВД слаба падрыхтаваліся да абмену. Партарганізацыя МТС да 3 красавіка не прапрацавала нават інструкцыі аб запаўненні партдакументаў. У партарганізацыі НКВД член партыі Дубкоў праявіў грубейшае парушэнне партдысцыпліны і арганізацыйную распушчанасць, перадрукаваўшы на машынцы рэгістрацыйны бланк для сябе і членаў сваёй партарганізацыі.

Парторг Чыркавіцкай тэрытарыяльнай партарганізацыі Белы нічога не зрабіў для выяўлення, выхавання і ўцягнення ў групу спачуваючых лепшых людзей калгаснага актыва. Больш таго, ніякай выхаваўчай работы не вядзе з наяўнымі трыма спачуваючымі, пераведзенымі ў час чысткі 1933 г.

Усё гэта сведчыць аб дрэннай рабоце не толькі нізавых партарганізацый, але аб слабым кіраўніцтве і дапамозе ім райкома і ў першую чаргу яго інструктароў. Райком партыі прыняў меры для неадкладнага выпраўлення ўсіх слабых месц арганізацыйна-партыйнай і выхаваўчай работы ў падрыхтоўцы да абмену партдакументаў.

За перыяд праверкі і падрыхтоўкі да абмену партдакументаў у нашай партарганізацыі выраслі новыя актывісты.

Тав. **Краўчанка**—старшыня калгаса «1 Мая», Чэрненскага сельсовета, сваёй выхаваўчай работай сярод калгаснага актыва дабіўся таго, што калгас летась значна павысіў ураджай зернавых, сёлета добра падрыхтаваўся да веснавой сяўбы і ў барацьбе за стаханаўскі ўраджай ідзе ў передавых радах.

Тав. **Лёгкі**—старшыня калгаса «Савецкая Беларусь», Раманішчанскага сельсовета, прыняў вельмі адсталы калгас, але за год работы выхаваў нядрэнны актыў. У калгасе рэгулярна працаваў аграгурток. Зараз арганізаваны стаханаўскія звенні, гурток па чытцы мастацкай літаратуры. Тав. Лёгкі ўпарта працуе над павышэннем свайго тэарэтычнага ўзроўню, каб быць вартым высокага звання члена ленінска-сталінскай большэвіцкай партыі.

Тав. **Дворкін**—старшыня рабачкома парыцкага леспрамгаса актыўна наведвае партшколу, добрасумленна рыхтуецца да заняткаў, вядзе вялікую выхаваўчую работу сярод рабочых свайго ўчастка. Гэты кандыдат партыі выкрыў контррэволюцыйную трацкісцкую вылазку члена партыі Радчука.

Бюро РК сур'ёзнейшую ўвагу ўдзяляе тэхніцы абмену партдакументаў. У якасці рэгістратараў вылучаны 4 члены партыі, правераныя і тэхнічна граматныя. Усе рэгістратары прашлі пяцідзенныя курсы пры ЦК КП(б)Б. Акрамя таго, сакратар райкома правёў з імі 3—4 практычныя заняткі па тэхніцы запаўнення бланкаў і іншых дакументаў, тлумачыў палітычнае значэнне абмену партдакументаў і ролі рэгістратара ў гэтай партыйнай справе.

Рыхтуючыся да абмену партдакументаў, наша партарганізацыя дабілася значнага ўздыму актыўнасці і дысцыпліны кожнага члена і кандыдата партыі. Ажывілася арганізацыйна-партыйная і выхаваўчая работа, разгарнуўся стаханаўскі рух у барацьбе за добраякаснае правядзенне веснавой сяўбы, за высокі ўраджай.

Абмен партыйных дакументаў яшчэ вышэй узніме большэвіцкую пільнасць і боездольнасць нашай партарганізацыі і кожнага комуніста, шчыльней згуртуе нашы рады вакол ленінска-сталінскага ЦК і правадыра нашай партыі—вялікага **Сталіна.**

---

**А. Геўрасёў**

Сакратар чавускага РК КП(б)Б

# Першыя вынікі абмену партыйных дакументаў

Рашэнні снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б ляглі ў аснову ўсёй работы чавускай партыйнай арганізацыі па абмену партыйных дакументаў.

Падрыхтоўку да абмену мы пачалі з глыбокага вывучэння гэтых рашэнняў усімі пярвічнымі партарганізацыямі і кожным членам і кандыдатам партыі паасобку.

Праверка дапамагла нашай партарганізацыі вызваліцца ад класава варожых элементаў: калчакоўцаў, бандытаў, эсэраў, шпіёнаў, кулакоў. Яна ўзняла на палітычную вышыню ўсю нашу ўнутрыпартыйную работу. Партыйныя сходы, якія раней праходзілі без належнай падрыхтоўкі і пры слабой актыўнасці, зараз становяцца магутным сродкам усебаковага выхавання комуністаў. За некалькі дзён да сходу кожны парторг паведамляе членам і кандыдатам партыі абвестку дня. На партсходах пры прапрацоўцы рашэнняў пленумаў ЦК выступілі ўсе члены і кандыдаты нашай партарганізацыі, нават тыя, якія ніколі не выступалі і лічыліся пасіўнымі.

Вялікае значэнне мелі два райпартсходы, прысвечаныя абмену партыйных дакументаў. Яны прашлі ў выключна дзелавой абстаноўцы. Падкрэсліваючы важнасць абмену партдакументаў, комуністы адзначылі недахопы сваёй работы.

Вывучэнне кожнага комуніста і дапамога пасіўным далі станоўчыя рэзультаты. Значна падцягнулася раней пасіўная, палітычна няграматная калгасніца тав. **Звакарова**—кандыдат партыі. Цяпер яна добра займаецца на курсах трактарыстаў і вядзе за сабою астатніх тавярышоў. Па сканчэнні курсаў яна будзе вылучана брыгадзірам трактарнай брыгады. Кандыдат партыі тав. **Лешчакова** была таксама палітычна няграматнай і пасіўнай. Пры дапамозе пярвічнай партарганізацыі райсаюза яна пачала выконваць партыйныя даручэнні, рэгулярна наведвае кандыдацкую школу і прымае актыўны ўдзел у партыйным жыцці. Зараз вылучана ў дырэктары чавускага продмага. З работай спраўляецца добра.

За апошні час бюро РК заслухала індывідуальныя справаздачы 10 членаў і кандыдатаў партыі. Са справаздачы дырэктара ільназавода тав. **Юшкевіча**—члена партыі з 1918 года—выявілася, што ён адстаў ад палітычнага жыцця, не наведвае партзаняткаў, нерэгулярна чытае газеты і зусім не цікавіцца мастацкай літаратурай. Бюро РК канкрэтна ўказала, як ліквідаваць адставанне, і зараз тав. Юшкевіч лепш займаецца ў гуртку па гісторыі партыі, чытае мастацкую літаратуру.

Выключную ўвагу райком удзяліў павышэнню ідэйна-палітычнага ўзроўню комуністаў. У раёне працуюць 3 кандыдацкія школы, 10 гурткоў па гісторыі партыі і 1 вячэрняя партыйная школа. Школамі і гурткамі ахоплена 86 членаў і 37 кандыдатаў партыі. Усе школы і гурткі забяспечаны кваліфікаванымі прапагандыстамі. Прапагандысты рэгулярна займаюцца ў двух пропсемінарах, якімі кіруюць сакратары райкома. Адчуваецца цяга комуністаў да мастацкай літаратуры, рост палітычнага і культурнага іх узроўню.

Пры прапрацоўцы рашэнняў пленумаў ЦК паасобныя парткіраўнікі дапусцілі парадчасць, слаба мабілізуючы комуністаў, недастаткова дапамагаючы адстаючым і спачуваючым. Аб усіх гэтых недахопах правільна сігналізавала «Звязда», і мы іх выправілі на-хаду.

Абмен партыйных дакументаў пачаўся ў нас 3 красавіка. Для чакання абсталявана ўтульная зала. На сталах—свежыя газеты, часопісы, кнігі, розныя гульні. Працуе буфет. З чакаючымі праводзяцца гутаркі. Устаноўлена дзяжурства членаў бюро РК. Кожная партыйная арганізацыя прыязджае для абмену партдакументаў ва ўсім сваім складзе ў вызначаны ёй па плану дзень.

За першыя 10 дзён абменена 59 білетаў і 14 кандыдацкіх картак. У дзенніку райкома партыі вядзецца запіс лепшых комуністаў і партыйных арганізацый. За час абмену выяўлен рэзерв актывістаў, якія высока нясуць званне комуніста.

Парторг Антонаўскага сельсовета тав. Пісараў—выдатны арганізатар. Ён павёў за сабою ўвесь беспартыйны актыў сельсовета на барацьбу за сталінскі ўраджай, за ўздым соцыялістычнай жывёлагадоўлі. У гэтым сельсовеце партыйная арганізацыя стаіць у авангардзе кіраўніцтва і разгортвання стаханаўскага руху. Калгаснікі 23 звенняў узялі на сябе абавязацельства дабіцца з гектара не менш тоны валакна, 500 цэнт. бульбы і 20—25 цэнт. зернавых. Уся падрыхтоўка да сяўбы праведзена на добра. Партыйная арганізацыя была ініцыятарам разгортвання агратэхвучобы. І зараз увесь беспартыйны калгасны актыў на чале з партарганізацыяй і парторгам тав. Пісаравым здае тэхэкзамен па агразоамінімуму.

Старшыня калгаса «XV Окцябр» кандыдат партыі тав. **Аржаны**, ліквідаваўшы сваю палітычную няграматнасць, вывеў калгас, які ўвесь час адставаў, у перадавыя.

Пярвічная партарганізацыя Сухараўскага сельсовета па-большэвіцку ўключылася ў барацьбу за ажыццяўленне лозунга таварыша **Сталіна** аб павышэнні ўраджайнасці. Комуніст **Самулін**—старшыня буйнейшага ў раёне калгаса «Комманіфест»—асабістым прыкладам павёў за сабой беспартыйную масу калгаснікаў. Гэту стаханаўскую вясну калгас сустракае лепш падрыхтаваным, чым у мінулым годзе. Шырыцца стаханаўскі рух.

Комуніст **Баранаў** узначальвае разгортванне стаханаўскага руху у Жаліўскім сельсовеце. Спіс лепшых людзей расце.

За першыя 10 дзён абмену партыйных дакументаў выяўлены людзі, выпадкова трапіўшыя ў рады партыі. Зоатэхнік **Бухта** ніколі не цікавіўся партыйным жыццём. Райком спецыяльна заняўся ім. Але не дапамагло і гэта. Бухта не чытаў газет, 5 месяцаў не плаціў партыйных узносаў. Выступаў супроць стаханаўскага руху. Маючы вышэйшую спецыяльную асвету, Бухта—палітычна няграматны чалавек, не ведае нават, хто такі тав. Калінін. Упарта адмаўляўся наведваць партзаняткі.

**Анішчанка** Гаўрыла, пераведзены пры чыстцы ў 1933 годзе з членаў партыі ў кандыдаты, не ўлічыў гэтага ўрока. Сваю палітычную няграматнасць не ліквідаваў, зусім адарваўся ад партыйнага жыцця, ніколі не наведваў партыйных сходаў, разлажыўся ў быце—наладжваў п'янкі з класава варожым элементам.

Пры абмене партдакументаў выяўлен таксама былы член эсэраўскай арганізацыі **Авілаў**—рабочы МТС. Пры ўступленні ў партыю, пры чыстцы і праверцы ён свядома скрыў сваю прыналежнасць да партыі эсэраў, у якой знаходзіўся з 1904 да 1906 г. з перарывам і пасля да 1918 года.

Абмен партыйных дакументаў—гэта важнейшае палітычнае мерапрыемства партыі—дае райкому і кожнай пярвічнай партарганізацыі дасканалы матар'ял аб рабоце і жыцці кожнага комуніста. Увесь гэты багацейшы матар'ял павінен быць у далейшым выкарыстаны кожнай партарганізацыяй.

Павышаючы большэвіцкую пільнасць, рашуча і бязлітасна расправаўляючыся з ворагамі партыі, падымаючы ідэйна-палітычную ўзброенасць і авангардную ролю кожнага комуніста, чавуская райпартарганізацыя пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і тав. **Гікало** выканае тыя велізарныя задачы, якія пастаўлены перад ёю партыяй.

---

**Т. Бурдзілаў**

**Сакратар чырвона-слабодскага РК КП(б)Б**

# Як мы павышаем ідэйна-палітычны ўзровень комуністаў

Праверка партдакументаў у чырвона-слабодскай партарганізацыі паказала, што пытанні арганізацыйна-партыйнай работы, большэвіцкага выхавання членаў і кандыдатаў партыі на практыцы адсоўваліся на другое месца. Значная частка партарганізацыі, у тым ліку і некаторыя адказныя работнікі, мелі зусім нізкі палітычны ўзровень. Так, дырэктар МТС тав. Петрусевіч, дырэктар райзага тав. Бялецкі не маглі адказаць камісіі ЦК КП(б)Б па прыёму партгаспадаркі на пытанне: «Хто ў нас сакратар ЦК ВКП(б)», не маглі назваць членаў Палітбюро ЦК ВКП(б), не адказалі і на цэлы рад іншых пытанняў, якія павінны быць вядомы кожнаму комуністу.

Райком партыі не ўдзяляў належнай увагі прапагандысцкай рабоце, слаба дапамагаў комуністу ў павышэнні ідэйна-палітычнага ўзроўню. У выніку паасобныя комуністы з калгасаў і сельсоветаў (Броўка, Усовіч, Аляшкевіч і інш.), а таксама і раённыя работнікі (Бялецкі) не здолелі ўзначаліць кіраўніцтва масамі ў барацьбе за выкананне важнейшых пастаноў партыі і ўрада.

Нізкі палітычны ўзровень партыйнай арганізацыі, вялікая засмечанасць яе радоў класава чуждымі і выпадковымі людзьмі прывялі к таму, што яна на дзень праверкі партдакументаў не была баявым калектывам, здольным у пагранічных умовах мабілізоўваць партыйныя масы на выкананне важнейшых задач партыі.

Райком партыі за апошні час дабіўся таго, што ўсе члены партарганізацыі ахоплены тым ці іншым відам партвучобы, рэгулярна 3 дні ў месяц з адрывам ад вытворчасці ўсе члены і кандыдаты партыі працуюць у партшколах па 8 гадзін у дзень.

У праграме партыйных школ адведзены 2 гадзіны ў дзень на выкладанне агульнаадукацыйных прадметаў (белмовы, матэматыкі). Арганізавана сталая сетка партыйнай вучобы. У раёне працуюць 5 партыйных школ па вывучэнню гісторыі ВКП(б), 6 партшкол працуюць па новаму падручніку Воліна і Інгулава, адна партшкола для палітычна малападрыхтаваных працуе па падручніку Карпінскага і школа па гісторыі партыі павышанага тыпу для райпартактыва вывучае па першакрыніцах працы Маркса, Леніна, Сталіна.

Кожная партшкола мае свае вучэбныя планы і праграмы з указаннем тэрмінаў праходжання курсу, чыста і ўтульна абсталяваную аўдыторыю, поўнасцю забяспечана неабходнымі падручнікамі, пісь-

мовымі прыладамі, картамі СССР і БССР. Пры кожнай партшколе ёсць бібліятэчкі з неабходнай палітычнай і мастацкай літаратурай: «Пытанні ленінізма», двухтомнік, шасцітомнік і паасобныя творы Леніна, хрэстаматыя Быстранскага, выбраныя творы Леніна і Сталіна, і т. д., з мастацкай літаратуры—«Ціхі Дон» Шолахава, творы Горкага і беларускіх пісьменнікаў. Бібліятэчкі сістэматычна папаўняюцца літаратурнымі навінкамі.

Кожная пярвічная партарганізацыя выпісала часопіс «Партстроительство» і «В помощь партучебе». Пры школах арганізавана грамадскае харчаванне. Для дапамогі комуністам, якія маюць вельмі нізкі агульнаадукацыйны ўзровень (Корзун, Янушкевіч і інш.), прымацаваны настаўнікі. Больш падрыхтаваныя дапамагаюць слабейшым распрацоўваць заданні партыйных школ.

Бюро РК рэгулярна заслухоўвае справаздачы прапагандыстаў і слухачоў аб тым, як яны рыхтуюцца да заняткаў, як засвойваюць праграму партшколы і па кожнай справаздачы выносіць канкрэтнае рашэнне. За апошні час заслуханы тт. Галоўчанка, Жыжко, Усовіч, Сплендзер, Даўгалевец і інш. Пярвічныя партарганізацыі ў сваю чаргу заслухоўваюць самасправаздачы комуністаў аб засваенні пройдзеных тэм і наведванні партыйных школ.

Канкрэтная дапамога як партарганізацыям, так і паасобным комуністам, узняла інтарэс да партвучобы, да павышэння свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню. Таварышы, якія ў мінулыя гады лічылі вучобу непатрэбнай справай, не наведвалі партшколу, амаль не чыталі газет, пасля праверкі партдакументаў і падрыхтоўкі да абмену не прапускаюць ні аднаго занятку, рэгулярна чытаюць газеты, палітычную і мастацкую літаратуру.

Значна вырас як палітычны, так і агульнаадукацыйны ўзровень тт. Галоўчанкі, Жыжко, Сякерыча, Іскрыцкага, Шэйкман. Тав. Жыжко гаворыць: «Я раней не разбіраўся ў самых элементарных палітычных пытаннях, а зараз адчуваю сябе даволі моцна. Чытаю паасобныя артыкулы з твораў Леніна і Сталіна і разумею іх вялікія словы. Раней я не цікавіўся ні палітычнай, ні мастацкай літаратурай, а зараз купіў шмат кніг. Вельмі хачу набыць поўны збор твораў Леніна».

Пры партыйных школах пад кіраўніцтвам прапагандыстаў і інструктароў райкома праводзіцца калектыўнае чытанне і разбор паасобных артыкулаў і вытрымак з твораў Леніна—Сталіна. Арганізавана чытка мастацкай літаратуры. У Бучацінскай партшколе калектыўна прачытаны: «Дрыгва» Я. Коласа, «Паднятая цаліна» Шолахава, «Маці» Горкага і «Як гартавалася сталь» Астроўскага. Пры праходжанні тэмы «1905 год» зачытвалі адпаведныя вытрымкі з мастацкай літаратуры.

У прасоўванні палітычнай і мастацкай літаратуры вялікую ролю адыгрывае партгабінет. Ён улічвае чытаемасць і жаданне комуністаў набыць уласную бібліятэчку. Са 129 членаў партарганізацыі 82 падпісаліся на «Роман-газету» да канца года. Набыты 63 экземпляры кнігі Астроўскага «Як гартавалася сталь» і інш. Зараз няма ніводнага комуніста, які-б не меў «Пытанняў ленінізма», паасобных твораў Леніна, многія маюць двух і шасцітомнікі Леніна і іншую літаратуру. Цяга да партвучобы і чытання палітычнай літаратуры значная.

Райком асаблівую ўвагу звярнуў на падбор прапагандыстаў і стварэнне для іх работы адпаведных умоў, каб выканаць указанне таварыша Сталіна на XVII з'ездзе партыі:

1) Узняць тэарэтычны ўзровень членаў партыі на належную вышыню;
2) Узмацніць ідэалагічную работу ва ўсіх звеннях партыі;
3) Весці нястомную прапаганду ленінізма ў радах партыі;
4) Выхоўваць партарганізацыі і акружаючы іх беспартыйны актыў у духу ленінскага інтэрнацыяналізма».

Прапагандыстамі вылучаны больш падрыхтаваныя і праверaныя таварышы з райпартактыва: 3 члены бюро і 3 члены райкома партыі, 4 інструктары, райпрапагандыст, заг. парттабінета і 4 адказныя работнікі раёна. Тры разы ў месяц праводзіцца пропсемінар прапагандыстаў, на якім яны распрацоўваюць творы Леніна—Сталіна і рыхтуюцца да чарговых заняткаў. Для дапамогі і кантролю за якасцю выкладання ў партшколах бюро РК сістэматычна заслухоўвае справаздачы прапагандыстаў аб іх падрыхтоўцы да заняткаў. Усе прапагандысты поўнасцю забяспечаны неабходнай палітычнай літаратурай. Партгабінет падбірае і рэкамендуе літаратуру да чарговых заняткаў, наглядныя дапаможнікі, геаграфічныя карты і інш.

Вялікая ўвага ўдзяляецца ідэйна-палітычнаму выхаванню спачуваючых. Пад непасрэдным кіраўніцтвам парторгаў і інструктароў райкома спачуваючыя вывучаюць статут і праграму партыі, усе яны ахоплены палітшколамі, або вячэрнімі школамі для дарослых. Да некаторых спачуваючых (Сапляк Дашы, Есманчык Мані, Грыгаровіч Зосі—ордэнаноска) прымацаваны настаўнікі, якія займаюцца з імі на кватэрах. Акрамя таго, вучоба са спачуваючымі праводзіцца пры партгабінеце, дзе яны збіраюцца раз у месяц для азнаямлення з рашэннямі партыі і ўрада і для больш глыбокай прапрацоўкі статута і праграмы партыі. Члены бюро РК праводзяць са спачуваючымі гутаркі на паасобныя тэмы.

У нашай рабоце ёсць яшчэ і рад недахопаў. Пры камплектаванні некаторых школ, разам з малаграматнымі членамі і кандыдатамі партыі былі залічаны палітычна падрыхтаваныя (ВСПШ—малаграматныя Гарбач і Міснік). Гэта памылка была выпраўлена пры канкрэтнай дапамозе інструктара культпропа ЦК КП(б)Б тав. Екельчыка, на аснове ўказанняў оргбюро КП(б)Б па Слуцкай акрузе.

Вывучэнне гісторыі партыі недастаткова ўвязваецца з распрацоўкаю пытанняў бягучай палітыкі. Не выкарыстоўваецца поўнасцю мясцовы матар'ял і наглядныя дапаможнікі.

Партгабінет не наладзіў як след кансультацыі для дапамогі прапагандыстам у іх рабоце, не арганізаваў узорных заняткаў для абмену вопытам і перанясення ў партшколы лепшых метадаў работы.

Зараз райпартарганізацыя ўзмоцнена рыхтуецца да абмену партдакументаў. Ва ўсіх яе звеннях адчуваецца ўздым партыйна-масавай работы, глыбокі інтарэс да вывучэння арганізацыйных прынцыпаў, як асновы большэвізма, гісторыі нашай партыі.

Падрыхтоўка да абмену, як і праверка партдакументаў, узніме ідэйна-палітычны ўзровень нашай партарганізацыі, згуртуе яе вакол ідэй Леніна—Сталіна, зробіць баявым калектывам, здольным ва ўмовах пагранічнага раёна выканаць пастаўленыя перад ёю задачы.

# З ВОПЫТУ РАБОТЫ ПАРТОРГАЎ-СТАХАНАЎЦАЎ

(уступны артыкул і скарочаныя стэнаграмы выступленняў на нарадзе пры ЦК КП(б)Б — сакавік 1936 г.)

**Л. Готфрыд**

# Комуністы на чале стаханаўскага руху

У прамысловасці і на транспарце БССР на 159 тысяч рабочых мы маем 15 тысяч комуністаў, у тым ліку ў прамысловасці—10 тысяч чалавек, з іх каля станка толькі 3 тысячы. Гэтыя лічбы тлумачацца тым, што большасць прадпрыемстваў у БССР пабудавана нядаўна, г. зн. у перыяд, калі прыём у партыю быў закрыты. Нават вельмі буйныя новыя прадпрыемствы маюць партарганізацыі з невялікай колькасцю комуністаў (гомельскі шклозавод імя Сталіна, Крычаўскі цэментны завод і т. д.). Большасць членаў і кандыдатаў партыі працуе на камандных пасадах. Сярод комуністаў, рабочых ад станка,— 80% стаханаўцаў.

Усе гэтыя асаблівасці накладаюць выключную адказнасць на партарганізацыі прадпрыемстваў БССР за іх авангардную ролю ў стаханаўскім руху, за асваенне новых норм усімі рабочымі. Барацьба за асваенне новых тэхнічных магутнасцей і ператварэнне прадпрыемстваў ў стаханаўскія патрабуе ад партарганізацый напружання ўсіх сіл для агітацыйнай работы і тэхнічнай вучобы, каб дапамагчы ўсім комуністам, рабочым ад станка, стаць стаханаўцамі.

Ніжэй друкуюцца справаздачы на нарадзе ў пачатку сакавіка г.г. лепшых парторгаў-стаханаўцаў, сабраных на кароткатэрміновыя курсы пры ЦК КП(б)Б. Справаздачы гэтыя вельмі цікавы і павучальны. Яны гавораць аб тым, як парторгі-стаханаўцы забяспечылі авангардную ролю партгруп у цэхах, як здолелі дабіцца, каб комуністы, рабочыя ад станка, сталі стаханаўцамі. Яны сведчаць аб тым, што праверка партдакументаў, якая моцна ўскаланула кожную партарганізацыю, прывяла да ўздыму партыйнай работы і на прадпрыемствах, бо яшчэ больш дапамагла комуністу стаць у авангардзе стаханаўскага руху.

Возьмем буйнейшыя гарады БССР. Напрыклад, Менск. На прадпрыемствах Варашылаўскага раёна налічваецца 164 члены і кандыдаты партыі, якія працуюць за станком, з іх стаханаўцаў 103 чалавекі. Значыць, у сярэднім, 33—34% яшчэ не з'яўляюцца стаханаўцамі.

Колькасць стаханаўцаў сярод комуністаў, рабочых ад станка, на паасобных прадпрыемствах Варашылаўскага раёна: на заводзе імя Молатава—20 з 23, у трамвайным трэсце—5 з 20, у друкарні імя Сталіна—5 з 25, на электрастанцыі—6 з 26, на фабрыцы «КІМ»—30 з 31, на заводзе малочных кіслот—1 з 6, на заводзе стандартных дамоў—2 з 4, на шклозаводзе «Пролетарый» 2 з 6. Гэтыя лічбы гавораць аб тым, што раду заводаў трэба неадкладна падцягнуцца.

У Сталінскім раёне комуністаў, рабочых ад станка, 123, з іх стаханаўцаў—98. У Кагановіцкім раёне на 8 прадпрыемствах комуністаў, рабочых ад станка,—173, з іх стаханаўцаў—145.

Па ўсіх прадпрыемствах Варашылаўскага раёна налічваецца 1660 стаханаўцаў, Кагановіцкага—2400, Сталінскага—2000. Такім чынам, мы маем каля 6000 стаханаўцаў на прадпрыемствах горада Менска. Гэта значная колькасць людзей, з якімі трэба ўзмоцнена працаваць, каб ажыццявіць велізарныя задачы, пастаўленыя перад намі партыяй.

Менская партарганізацыя з'яўляецца застрэльшчыкам і дала рад добрых узораў партыйна-масавай работы сярод рабочых, стаханаўцаў. Тт. Галубінскі, Батылёў і многія іншыя парторгі-стаханаўцы паказалі выдатныя прыклады арганізацыі партмасавай работы і авангарднай ролі комуніста. Аднак трэба прама сказаць, што справа ў нас зацягнулася і асабліва востра стаіць у сувязі з тым, што зараз трэба прасоўваць некаторыя новыя пытанні, новыя нормы. Комуністы павінны стаць ініцыятарамі перавыканання новых норм, выяўлення новых тэхнічных магутнасцей.

Галінныя канферэнцыі тэкстыльшчыкаў, скуранікаў, абойнікаў, швейнікаў, цагельнікаў, будаўнікоў, дражджовай прамысловасці прарабілі дзве работы: выявілі новыя тэхнічныя магутнасці прадпрыемстваў на аснове вышэйшых дасягненняў стаханаўцаў і вызначылі новыя нормы. Задача комуністаў—ісці разгорнутым фронтам на штурм новых тэхнічных магутнасцей. Нажаль, у шырокім маштабе гэта справа ў нас яшчэ не арганізавана ні ў Гомелі, ні ў Віцебску, ні ў Менску.

У Гомелі асноўнымі метадамі партыйнага кіраўніцтва стаханаўскім рухам і комуністамі-стаханаўцамі з'яўляюцца: пастаноўка індывідуальных справаздач комуністаў на парткоме, партсходах; канкрэтная дапамога ім у павышэнні тэхнічнага ўзроўню; прапрацоўка на партсходах важнейшых дакументаў па пытаннях разгортвання стаханаўскага руху; правядзенне гутарак, палітдзён; арганізацыя групавой і індывідуальнай агітацыі; сустрэча стаханаўцаў з нестаханаўцамі; стаханаўскія вечары, прымацаванне стаханаўцаў да нестаханаўцаў для дапамогі ў барацьбе за дасягненні, наведванне на-даму і т. д.

Адной з асноўных форм масава-вытворчай работы на гомельскім заводзе імя Кірава з'яўляюцца брыгадныя вытворчыя нарады па прафесіях, дзе заслухоўваюцца самасправаздачы стаханаўцаў аб метадзе іх работы, выяўляюцца недахопы, якія на заўтра-ж знішчаюцца адміністрацыяй цэха. У гэтых вытворчых нарадах прымаюць удзел усе члены брыгады і прымацаваныя інжынерна-тэхнічныя работнікі.

На фабрыцы «Комінтэрн» праведзены нарады рабочых паасобных лент (швейнай, ручнай, пінжачнай, талстовак і інш.) аб далейшым разгортванні стаханаўскага руху. У выніку па бручнай ленце зменшылася колькасць неабходных рабочых з 40 чалавек да 35, тое-ж самае дасягнута на ленце папяровых і суконных талстовак і брук.

Як правіла, на вытворчых нарадах, склікаемых па лентам, удзельнічала 70—80% усіх рабочых, прычым вядучую ролю адыгрывалі стаханаўцы. Вельмі жыва абгаварваліся даклады стаханаўцаў Гефтэрда, Флірэра і інш. аб метадах іх работы. У выніку нарад павялічылася колькасць рабочых-стаханаўцаў. Палітбяседчыкі ў сваіх брыгадах і групах сістэматычна праводзяць гутаркі па газетных матэр'ялах, аб унутрыфабрычным жыцці, аб вопыце работы лепшых стаханаўцаў прадпрыемства.

У друкарні «Палесдруку» паасобныя комуністы переведзены на іншыя вытворчыя працэсы, дзе яны могуць сябе лепш праявіць. Тав. Шэр, якая працавала на швейнай машыне і не магла справіцца з гэтай работай па стану свайго здароўя, на другой рабоце ў першыя-ж дні паказала добрыя ўзоры і стала стаханаўкай. На кватэры комуніста-стаханаўца Зельдзіна партком правёў злёт стаханаўцаў. Тав. Зельдзін падзяліўся вопытам сваёй работы. Такія-ж нарады надаму праведзены і ў іншых рабочых.

Партком завода «Пролетарый» імя Кірава на кожным сваім паседжанні заслухоўвае індывідуальныя справаздачы комуністаў. За апошні час заслухана 8 індывідуальных справаздач: майстроў Адамовіча і Терахава, стаханаўцаў Сергеенкі і Ліўшыца, Кажэмякіна і Шыфрына.

На цэхавых партсходах абгаварваліся пытанні падрыхтоўкі да стаханаўскай змены, пяцідзенкі, дэкады і падводзіліся іх вынікі.

Палепшанне партмасавай і палітычнай работы спрыяла таму, што за апошні месяц-паўтара па ўсіх прадпрыемствах Беларусі вырасла колькасць спачуваючых. У кожным цэху прынята ў спачуваючыя 2—4 стаханаўцы. Але работа з імі пастаўлена яшчэ дрэнна. На гэты ўчастак сур'ёзнейшую ўвагу павінны звярнуць як гомельскі, так і ўсе іншыя гаркомы партыі.

Вялікае значэнне мае практыка прымацавання на гомельскіх прадпрыемствах стаханаўцаў да нестаханаўцаў для абмену вопытам і дапамогі. Так, стаханавец камбіната імя Гікало тав. Пахомаў узяў шэфства над тт. Глаковым і Такуновым, перадаў ім свой вопыт работы, і яны сталі стаханаўцамі. Тав. Рыўкін узяў шэфства над тав. Рэзнікавым і дабіўся таго, што ён выконвае норму на 200%.

Стаханаўскі рух выклікаў рад новых форм масава-палітычнай і вытворчай работы. Сотні новых людзей прынялі актыўны ўдзел у агульным вытворчым жыцці прадпрыемства. Аднак не ўсе партарганізацыі здолелі замацаваць гэту вытворчую і палітычную актыўнасць. У Гомелі ганебна адстаюць у разгортванні стаханаўскага руху ложкавая фабрыка, завод «Рухавік рэволюцыі». Яны сарвалі стаханаўскую пяцідзенку з-за слабой масава-палітычнай работы.

У Гомелі яшчэ ні адно прадпрыемства не перашло цалкам на стаханаўскую работу, хоць усе ўмовы для гэтага ёсць. Патрэбна толькі ўменне трыкутнікаў прадпрыемстваў і партарганізацый добра паставіць гэту работу. Неабходна ўважліва прыглядацца да кожнага рабочага, выяўляць і знішчаць прычыны, якія перашкаджаюць яму стаць стаханаўцам.

Галоўная задача гомельскіх арганізацый—замацаваць узросшую палітычную актыўнасць перадавых рабочых, узняць стаханаўскі рух на вышэйшы ўзровень, выканаць на практыцы рашэнні вытворчых канферэнцый.

Стаханаўская дэкада ў Віцебску паказала, што вузкае месца большасці прадпрыемстваў—рамонтна-механічныя цэхі і дапаможныя абслугоўваючыя рабочыя, чаго да апошняга часу не ўлічвае ні дырэкцыя, ні фабрычна-заводскія партыйныя і профсаюзныя арганізацыі.

У эканоміі сыравіны некаторыя прадпрыемствы Віцебска дабіліся сур'ёзных вынікаў. Шчацінны камбінат з'эканоміў звыш 10% сыравіны, ёсць эканомія ў швейнікаў. Аднак партарганізацыі большасці прадпрыемстваў усё яшчэ слаба змагаюцца за эканомію сыравіны.

Вельмі нізкі процант комуністаў—рабочых ад станка. Нярэдка комуніста, добрага вытворцу, «вылучаюць» на трэцеступенную пасаду (кладаўшчыком і інш.), аслабляючы асноўную лінію вытворчага фронту барацьбы за выкананне рашэнняў снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК аб стаханаўскім руху.

Віцебская партарганізацыя, якая нядрэнна арганізавала разгортванне стаханаўскага руху на большасці прадпрыемстваў, не звярнула ўвагі на нероўнамернае разгортванне яго на такіх важнейшых прадпрыемствах, як ільнапрадзільная фабрыка імя Кагановіча.

Няма сумнення ў тым, што віцебскія большэвікі, своечасова выправіўшы дапушчаныя ў сваёй рабоце недахопы, маюць усе магчымасці заняць першае месца ў спаборніцтве трох гарадоў: Менска, Віцебска і Гомеля.

На прадпрыемствах Бабруйска—2800 стаханаўцаў, з іх на Лесакамбінаце—834, фанерным заводзе імя Кірава—335, швейнай фабрыцы імя Дзержынскага—204.

Непасрэдна на вытворчасці працуе 135 комуністаў, з якіх 120 стаханаўцаў. На Лесакамбінаце, на фанерным заводзе імя Кірава, на фабрыцы імя Дзержынскага і інш. усе комуністы вытворчасці з'яўляюцца стаханаўцамі.

На парткоме і агульных партсходах заслухоўваюцца індывідуальныя справаздачы комуністаў.

Бабруйскі райком партыі ўдзяляе вялікую ўвагу комуністам нестаханаўцам, канкрэтна кіруе іх работай, каб дапамагчы ім у бліжэйшы час стаць стаханаўцамі.

У Бабруйску, так сама як і ў іншых гарадах, далёка недастатковая праслойка комуністаў, занятых непасрэдна на вытворчасці. Таму райком і пярвічныя партарганізацыі вялікую ўвагу ў разгортванні стаханаўскага руху ўдзяляюць авангарднай ролі комуністаў, якія займаюць адміністрацыйна-тэхнічныя пасты.

Партарганізацыя швейнай фабрыкі імя Дзержынскага правяла партыйны дзень па пытанню аб авангарднай ролі комуністаў у стаханаўскім руху на канкрэтных участках іх работы.

На сходзе партарганізацыі завода імя Сталіна выявілася, што член партыі Іваноў, не гледзячы на дапамогу, аказаную яму партыйнай групай, не стаў стаханаўцам, не паказаў прыкладу на сваім участку работы. Пасля гэтага даклад Іванова слухаўся на бюро райкома.

Райком партыі перыядычна склікае сакратароў парткомаў і парторгаў, высвятляе ў гутарцы з імі, чым жыве партыйная група, як яна працуе, і дае ім канкрэтныя ўказанні ў практычнай рабоце.

Некаторая колькасць стаханаўцаў на прадпрыемствах Бабруйска ўступіла ў спачуваючыя і зараз актыўна ўдзельнічае ў партыйным жыцці.

Бабруйская партарганізацыя пачынае шырока прымяняць у сябе вопыт Донбаса, дзе стаханавец бярэ на сябе абавязацельства навучыць некалькі рабочых працаваць па-стаханаўску. На Лесакамбінаце 78 стаханаўцаў абавязаліся падрыхтаваць 159 рабочых; на фанерным заводзе імя Кірава стаханавец Плотнік навучыў рабочага Гольдштэйна даваць 180—200% плана. Стаханавец Нікалайчык дапамагае рабочаму Гурэвічу і т. д.

Райком партыі праводзіць нарады па прафесіях: будаўнікоў, рамшчыкаў, работнікаў хлебапячэння, прылаўка і т. д. Праведзены дзве раённыя канферэнцыі жонак рабочых і інжынерна-тэхнічных работ-

нікаў. Першая канферэнцыя прапрацавала прамову таварыша Сталіна на ўсесаюзнай нарадзе стаханаўцаў прамысловасці і транспарту; удзельнічала 600 чалавек. Другая—рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб рабоце прамысловасці і транспарту ў сувязі са стаханаўскім рухам; удзельнічала 950 чалавек. Канферэнцыі дапамаглі прыцягнуць жонак рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў да грамадскага жыцця, грамадскай работы. На Лесакамбінаце арганізаваўся і працуе ўжо гурток палітграматы для жонак рабочых, створаны па іх ініцыятыве.

Паліт'інфармацыі, гутаркі, чытка газет праводзяцца на прадпрыемствах, у інтэрнатах і на кватэрах у рабочых. Па дакладах тт. Молатава і Мікаяна на другой сесіі ЦВК партарганізацыя Лесакамбіната правяла 149 гутарак з удзелам 3.690 чалавек; на швейнай фабрыцы праведзена 180 гутарак з удзелам 960 рабочых; на фанерным заводзе імя Кірава—70 гутарак з удзелам 750 рабочых і т. д.

Вельмі важна адзначыць ролю комсамольскай арганізацыі Бабруйска ў стаханаўскім руху. Многія пярвічныя комсамольскія арганізацыі прадпрыемстваў з'яўляюцца суцэльна стаханаўскімі. З 450 комсамольцаў, якія працуюць на вытворчасці, 307 стаханаўцаў.

Комсамольская лёгкая кавалерыя правяла рэйд праверкі выканання рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб стаханаўскім руху. На Лесакамбінаце, швейнай фабрыцы, фанерным заводзе і іншых прадпрыемствах брыгады лёгкай кавалерыі выявілі рад недахопаў у разгортванні стаханаўскага руху. У рэйдзе ўдзельнічалі 523 комсамольцы.

Бабруйскі райком партыі паказвае прыклад добрага кіраўніцтва стаханаўскім рухам. Сакратар райкома тав. Чэрнышоў ведае літаральна кожнага стаханаўца. Рад узораў яго работы пераносіцца на іншыя прадпрыемствы Беларусі.

Праведзеныя менскай партарганізацыяй галінныя нарады кіраўнікоў і стаханаўцаў прамысловасці выявілі вялікае жаданне амаль усіх рабочых стаць стаханаўцамі. Задача партыйных арганізацый раённых і гарадскіх прадпрыемстваў—дапамагчы кожнаму рабочаму ў гэтым яго імкненні.

Кожнае прадпрыемства павінна мець адзіны стаханаўскі план работы і сачыць за кожнай часткай вытворчага працэсу, каб нідзе не было малейшых затрымак у рабоце. Стаханаўцы павінны вызначаць тэмп работы ўсіх звенняў прадпрыемства.

Разгортванне стаханаўскага руху на прадпрыемствах нельга планаваць, не ведаючы прычын тармажэння. Іменна для гэтага ЦК КП(б)Б даў установку выявіць у бліжэйшы час і неадкладна ліквідаваць усе тормазы, якія перашкаджаюць рабочаму стаць стаханаўцам. Гэта, вядома, не значыць, што кожны рабочы, з якім правялі гутарку, адразу стане стаханаўцам. У аднаго прычыны адставання будуць лёгка знішчальны (непаладкі ў станку, няправільная падача сыравіны і т. п.), і такі рабочы праз тыдзень—два зможа стаць стаханаўцам. У другога—прычыны больш сур'ёзныя, і ён, з дапамогай заводскіх арганізацый, зможа ліквідаваць сваё адставанне праз месяц—паўтара. З трэцім прыдзецца папрацаваць яшчэ больш з-за недастатковай кваліфікацыі, няўмення авалодваць тэхнікай і т. п.

У кожным разе задача партыйнага, прафесіянальнага, гаспадарчага кіраўніцтва, задача кожнага комуніста і комсамольца адна—упар-

таю працай уцягнуць усіх рабочых у стаханаўскі рух, каб ператварыць прадпрыемства ў суцэльна стаханаўскае.

На-жаль такой мэтанакіраванасці і паслядоўнасці няма яшчэ ў большасці фабрычна-заводскіх партарганізацый Беларусі. Іменна таму і прадстаўляе вялікую цікавасць вопыт парторгаў-стаханаўцаў, справаздачы якіх ніжэй друкуюцца.

Кожная партыйная арганізацыя прадпрыемстваў Беларусі павінна ўважліва і паслядоўна праводзіць крапатлівую работу па далейшаму выкананню ўказанняў снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, па засваенню і перавыкананню ўстаноўленых на галінных канферэнцыях новых норм, па заваяванню выяўленых у сувязі са стаханаўскім рухам новых тэхнічных магутнасцей.

Дапамагчы кожнаму рабочаму стаць стаханаўцам—вялікая і складаная задача. Уся КП(б)Б павінна накіраваць свае сілы на тое, каб выканаць гэту задачу з гонарам.

---

**І. Бацвінік**

**Парторг менскага завода імя Варашылава**

Я з'яўляюся парторгам двух цэхаў: рамонтнага і струментальнага.

Прачытаўшы ў газеце артыкул аб рэкордах тт. Бусыгіна і Сметаніна, я задумаўся над тым, што трэба правесці нам, каб дабіцца такіх-жа рэкордаў у сябе на вытворчасці. Прапрацаваўшы старанна гэты артыкул, я на другі дзень сабраў партгрупу, зачытаў яго ўсім і паставіў пытанне аб тым, як прымяніць у нашым цэху стаханаўскі рух, хто павінен быць застрэльшчыкам.

Партыйная група даручыла комуністу тав. Глушэцу прапрацаваць гэты артыкул у цэху сярод беспартыйных рабочых. Знаёмства з вопытам лепшых стаханаўцаў узняло энтузіязм рабочых. У хуткім часе з'явіліся першыя комуністы-стаханаўцы—тт. Печ і Лейхенгауз.

Я сабраў рэдактароў нашых насценгазет (іх у нас трое—адзін комсамолец і двое беспартыйных) і дагаварыўся аб тым, каб яны штодзённа асвятлялі выпрацоўку гэтых рабочых.

У хуткім часе ў нас з'явіліся і першыя стаханаўцы з беспартыйных рабочых.

Што прадстаўляюць сабой нашы стаханаўцы?

Тав. **Печ**—добры кваліфікаваны рабочы. Вучыць маладых рабочых працаваць так, каб усім стаць стаханаўцамі. Узяў шэфства над комсамольцам Чэрновым. Перадае яму свае метады, паказвае, як трэба хутка і з высокай якасцю выконваць работу. У выніку комсамолец Чэрноў—стаханавец.

Першыя пяць дзён работа рухалася, а потым заціхла. Я адразу-ж склікаў партыйную групу і паставіў справаздачу начальнікаў цэхаў і праforгаў. У працэсе спрэчак аказалася, што начальнік цэха не падрыхтаваў графіка для тэрміновага рамонту станка.

Стаханаўскі рух зрываўся ў нас толькі з-за недастатковай падрыхтоўкі. Бывалі моманты, што з-за адсутнасці пусцяковай справы спынялася работа, не выконваўся план. Майстар цэха ў стаханаўскую дэкаду не вышаў на работу. Партыйная група выявіла, што ён п'янствуе, ігнаруючы стаханаўскі рух. Начальнік цэха пры нашай садзейнасці зняў за гэта майстра з работы.

Як я стаў стаханаўцам? Наша брыгада з 8 чалавек працуе на аварыйнай рабоце. У нас прэміяльна-здзельная аплата. Я склікаў брыгаду і сказаў, што калі мы разаб'емся па станках і папрацуем так тыдні два, то даб'емся работы па-стаханаўску. Прапанова апраўдалася. На вытворчасці я працую 6 год. Здаў дзяржтэхэкзамен на выдатна, засвоіў тэхніку, пачаў працаваць па-стаханаўску, своечасова забяспечваючы выкананне аварыйных работ. Унёс рацыяналізатарскую прапанову, якая дала вялікі эфект. Пасля гэтага атрымаў павышэнне разраду.

Як дапамагае партыйны камітэт? Партыйны камітэт збірае парторгаў і дае ўказанні, як трэба кіраваць стаханаўскім рухам у цэху. Дырэкцыя таксама праводзіць нарады інжынерна-тэхнічнага персанала сумесна з парторгамі. Вялікую дапамогу ў рабоце аказвае тав. Дзяткова—другі сакратар райкома. Яна часта прыходзіць да нас і дае практычныя ўказанні.

---

**П. Ершоў**

**Парторг віцебскага завода „Чырвоны металіст“ імя Кірава**

У ліцейным цэху нашага завода працуе 135 рабочых. Комуністаў у маёй партгрупе 5 чал. (на адміністрацыйна-гаспадарчай рабоце 3 і за станком 2), кандыдатаў—6 (на адміністрацыйнай рабоце 1 і за станком 5), спачуваючых—1, комсамольцаў—10. Усе члены партыі, кандыдаты і спачуваючыя—стаханаўцы. Сярод рабочых, разам з абслугоўваючым персаналам, 17 чал.—нестаханаўцы.

Што дапамагло нам у развіцці стаханаўскага руху? Асноўнае—гэта глыбокая прапрацоўка матар'ялаў Першай усесаюзнай нарады стаханаўцаў. Кожны комуніст добра ўсвядоміў з прамовы таварыша **Сталіна**, што стаханаўскі рух ёсць вышэйшая форма соцыялістычнай працы, шлях пераходу ад соцыялізма к комунізму.

Нашы комуністы знаходзяцца ў авангардзе стаханаўскага руху.

Тав. **Балаболаў**, які раней ніяк не мог арганізаваць сваёй работы, змяніўшы ўвесь працэс, выконвае план на 200%. У апошні час вылучан майстрам абрубачнага цэха і з работай спраўляецца добра.

Кандыдат партыі тав. **Немчанка** выконвае норму больш як на 170%. Яна працуе ў шышачным аддзяленні і адначасова з'яўляецца палітбяседчыцай у групе стаханаўцаў, якіх падрыхтоўвае ў спачуваючыя.

Кандыдат партыі тав. **Навіцкі**, які працуе на вагранцы, уключыўся ў стаханаўскі рух і дае вялікую эканомію цэглы.

Вялікі зрух у развіцці стаханаўскага рух дала прапрацоўка рашэнняў снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б і прамовы тав. Андрэева аб нормах і расцэнках.

Я працаваў у цэху сельскагаспадарчых машын, а потым перашоў на болтарэзку і адразу пачаў ажыццяўляць лозунг таварыша **Сталіна** аб тым, што трэба выкарыстаць тэхніку да дна. Дэталёва вывучыў свой станок, зрабіў некаторыя спрашчэнні ў ім, што палегчыла працэс работы на 50%. У выніку я даваў больш як дзве нормы. Таварышы, якія працавалі поплеч, зацікавіліся маёй работай і ўзялі з мяне прыклад.

Інжынерна-тэхнічныя работнікі дапамагаюць нам недастаткова. Вельмі рэдка іх можна бачыць у цэху.

Сакратар партыйнага камітэта тав. Палей трымае з парторгамі сталую сувязь, праводзіць нарады з лепшымі стаханаўцамі і ўказвае, як працаваць далей. Дырэктар завода таксама цікавіцца работай, карыстаецца вялікім аўтарытэтам, рабочыя яго любяць.

Задача парторга—праводзіць штодзенна палітмасавую работу, часцей практыкаваць вытворчыя нарады, бо рабочыя даюць многа каштоўных прапаноў.

З рабочым месцам у ліцейным цэху справа дрэнная з-за недастатковай плошчы. Трэба зняць некаторыя прыбудовы ўнутры цэха, і тады рабочае месца будзе ў поўным парадку.

Выкарыстоўваючы вопыт лепшых перадавых стаханаўцаў і ініцыятыву мас, мы змагаемся за далейшыя поспехі ў разгортванні стаханаўскага руху і выкананне задач, пастаўленых перад намі рашэннямі пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б.

---

## Е. Каган

**Парторг магілеўскага скурзавода імя Сталіна**

У маім цэху працуе 95 чалавек, з іх 11 комуністаў, 9 кандыдатаў, 6 комсамольцаў і 10 спачуваючых.

Як у нас пачаўся стаханаўскі рух?

Мы прачыталі ў газеце «Праўда» ліст Стаханава. Пасля гэтага я адразу-ж сабраў партыйную групу і паставіў на абгаварэнне пытанне аб тым, як разгарнуць у сябе стаханаўскі рух. Рабочыя ўказвалі, што ім прыходзіцца насіць матар'ялы на сабе. Яны прапанавалі зрабіць спецыяльныя сталы і скрынкі, каб кожны рабочы меў скуры пад рукамі.

Адразу-ж пасля партгрупы я пашоў на кватэру тав. Барада і разам з ім абмеркаваў, як арганізаваць у яго брыгадзе стаханаўскі рух. Тав. Барада абяцаў заўтра-ж паказаць, як трэба працаваць па-стаханаўску, і запатрабаваў, каб да месца работы паднеслі скуры, а таксама паправілі рэмень, які ўвесь час рваўся.

На заўтра а 6 гадзіне раніцы я пашоў на работу і праверыў, ці ўсё ў парадку.

Тав. Барада ў першы дзень даў 160% выпрацоўкі, на заўтра—180% і ў апошнія дні давёў выпрацоўку да 280%.

Следам за ім пашлі рабочыя, якія раней выконвалі план на 100%. Яны пачалі даваць 160—180% выпрацоўкі, а некаторыя і 200%.

Стаханаўскія метады работы мы імкнуліся пашырыць на ўвесь цэх. У парадку рацыяналізацыі вытворчага працэса паставілі пытанне аб правільным размеркаванні рабочай сілы, каб даць кожнаму поўную нагрузку. Пасля гэтага рабочыя Гроднер, Дэвін, Пагуляеў і Ганчароў сталі стаханаўцамі.

На дошку выпрацоўкі рэгулярна, з дня ў дзень, заносіліся дасягненні стаханаўцаў, што стымулявала развіццё стаханаўскага руху.

Цяпер 77 рабочых з 95 з'яўляюцца стаханаўцамі. Усе члены партыі—стаханаўцы. Адзін час адставаў ад руху тав. Каган. Да ўзнікнення стаханаўскага руху ён даваў 100% выпрацоўкі, а потым знізіў яе да 60%. Калі я спытаў яго, у чым прычына, ён заявіў, што нормы няправільныя. На партгрупе мы паставілі справаздачу тав. Кагана. Я пашоў на дом да тав. Кагана і ўбачыў, што ў яго дрэнная кватэра. Мы рашылі яму дапамагчы. Дасталі цэглы, адрамантавалі кватэру, купілі дзецям абутак і т. п. Пасля гэтага Каган пачаў працаваць лепш і стаў даваць да 200% плана.

Другім прыкладам таго, як адстаючы рабочы вырас у стаханаўца, з'яўляецца тав. Авербах, які стаяў на дапаможнай рабоце. Я за-

цікавіўся, чаму Авербах адстае. Пашоў да яго дамоў і выявіў, што хлопец жыве ў дрэнных умовах. Я паставіў пытанне перад адпаведнымі арганізацыямі. Авербаху дапамаглі, выдалі 100 руб. грашыма. Пасля аказання дапамогі і праведзенай з ім работы ён пачаў выконваць план на 180%.

Лепшыя стаханаўцы нашага прадпрыемства—Барада, Ганчароў, Гролнер, Пагуляеў, Левін і іншыя—прэміяваны рознымі каштоўнымі падарункамі.

Масавую работу праводзяць у нас пяць паліт'інфарматараў. Доўгі час яны не мелі неабходных па плану сваёй работы матар'ялаў, але сёе-тое здолелі зрабіць. Прапрацавалі рашэнні снежаньскага пленума і іншыя пытанні бягучай палітыкі.

Партгрупа цікавілася тым, як вучацца ў школе дзеці рабочых. Некаторыя з іх навучаюцца музыцы. Аднаму мы купілі скрыпку за 100 рублёў.

Я ўзяў на сябе задачу вывучаць бытавыя ўмовы стаханаўцаў і выявіць, у чым яны адчуваюць патрэбу, каб знішчыць перашкоды ў іх рабоце.

Не малую дапамогу аказала нам лёгкая кавалерыя. Яна выявіла, што нарміроўшчык даваў няправільныя нормы рабочым, дапамагла ліквідаваць несвоечасовую падачу матар'ялаў, шырэй разгарнуць стаханаўскі рух.

Пэмехай у далейшым разгортванні стаханаўскага руху служыць нестандартнасць матар'ялаў, дрэнная якасць тлушчаў і дзёгцю.

Дырэктар завода тав. Фрэйдзін многа дапамагае нам у рабоце, чула адносіцца да патрэб стаханаўцаў. Дапамагае і партком. Сакратар парткома часта бывае ў цэху, цікавіцца работай.

Мы ўпарта будзем змагацца за далейшыя дасягненні і ўцягненне ўсіх рабочых цэха ў стаханаўскі рух.

**Д. Каўзаневіч**

Парторг барысаўскага камбіната „Комінтэрн“

У маёй партыйнай групе 20 комуністаў, 3 спачуваючыя і 13 комсамольцаў. Я з'яўляюся парторгам усіх трох змен. Калі пачаўся стаханаўскі рух, я быў у арміі. Да майго прыходу ў цэх там ужо былі стаханаўцы: адзін рабочы перашоў з 2 станкоў на 4 і выконваў норму на 140—150%.

Нашы станкі маюць тры хуткасці, але мы працуем на самай ціхай, бо жаночыя калодкі з вялікім пад'ёмам ламаюцца пры большай хуткасці. Нашы інжынеры спрабавалі ўдасканаліць станкі, але пакуль што не дабіліся вынікаў.

Комсамольцы Чарнух, Панкавец, Паўлоўскі, якія працуюць на точцы шахмат, у першыя дні стаханаўскага руху, замест нормы ў 2,5 давалі 6 камплектаў, а некаторыя—8 і 10 камплектаў.

Усе комсамольцы ў нас стаханаўцы. Раней яны працавалі ў дзве змены, а цяпер пераведзены ў адну стаханаўскую брыгаду.

Комуністаў, якія працуюць непасрэдна за станком, 3 чалавекі, астатнія—начальнікі змен, цэхаў тэхнарукі, механікі і т. д. З трох комуністаў, рабочых ад станка, адна нестаханаўка.

Як прашоў у нас першы стаханаўскі дзень? З самай раніцы ўстанавілі нагляд за тым, як хто працуе, і рэзультаты асвятлялі ў насценнай газеце. Пасля абеду каля кожнага станка вывесілі таблічку, якая паказвала колькасць выпрацоўкі і суму заработку кожнага рабочага. Па сканчэнні работы вядома была выпрацоўка і заработак за ўвесь дзень.

У трэцяй змене справа спачатку пашла было горш, бо з абслугоўваючага персаналу застаўся толькі зменны майстар. Каб падняць настрой рабочых, запрасілі баяніста. У час абедзенага перапынку рабочыя танцавалі, а некаторыя чыталі газеты. Урэшце трэцяя змена перакрыла нормы выпрацоўкі першай.

Наш цэх прыняў цяпер культурны выгляд. Каля кожнага станка стаяць кветкі, чыста вымыта падлога.

Да разгортвання стаханаўскага руху на камбінаце было многа перашкод у рабоце. Рабочаму прыходзілася адрывацца ад сваёй непасрэднай работы і хадзіць за матар'яламі, дзе ён прастойваў доўгі час. Зараз матар'ял падносіцца да станка. Спецыяльны рабочы наколвае калодкі. У рэзультаце ў нас няма такога рабочага, які-б выконваў план менш як на 150%. Шліфоўшчыкі **Варфман, Балагуро, Бараноўская** даюць 300% нормы.

Вучобай ахоплены ўсе комуністы. Комвуз наведваюць 4 чалавекі, некалькі чалавек—агульнаадукацыйную школу і двое—лікбез. Але ёсць у нас адзін недахоп: лепшы стаханавец тав. Свердловец мае прагулы па вучобе. Гэта звязана з тым, што, канчаючы работу а

5 гадзіне, ён не паспявае к 7 гадзіне прыйсці ў школу, бо жыве далёка.

Я вучуся ў агульнаадукацыйнай школе пры заводзе. Комсамольцы ўсе ахоплены вучобай. Некаторыя вучацца ў комвузе, а некаторыя пры заводзе.

За гэты перыяд стаханаўцы ўнеслі некалькі каштоўных рацыяналізатарскіх прапаноў. Тав. **Бакун** прапанаваў станок для шліфоўкі калодак. Некаторыя прапановы, звязаныя з перабудовай памяшкання, капітальным рамонтам з-за адсутнасці сродкаў не рэалізаваны. Рацыяналізатарскія прапановы спачатку абгаварваюцца ў вузкім коле, а потым выносяцца на абгаварэнне ўсіх рабочых.

У адным цэху ў нас працуе 30 рабочых, а ў другім 45. Усе рабочыя ад станка з'яўляюцца стаханаўцамі, занятыя на дапаможных работах і вучні—нестаханаўцы.

Мы прапрацавалі з рабочымі пытанне аб задачах стаханаўскага руху і аб выпрацоўцы новых норм. Рабочыя гаварылі, што калі яны да стаханаўскага руху шліфавалі 40—60 пар, то цяпер могуць зрабіць многа больш.

Ад партыйнага камітэта і райкома партыі я атрымліваю дапамогу тады, калі сам іду да іх. Сакратары парткома і райкома звычайна рэдка наведваюць нас, але ў час стаханаўскіх сутак набывалі ў цэхах.

У калодачным цэху была вылазка класавага ворага. Рабочы Гусеў, асуджаны за хуліганства і крадзеж, свядома рабіў брак, каб сарваць стаханаўскую пяцідзенку. Гэты факт мы абгаварылі на рабочых сходах і выгналі Гусева з цэха.

Недахопы ў нас яшчэ ёсць. Нехапае рэмняў, энергіі. У сувязі з павелічэннем выпуску прадукцыі неабходна пашырыць сушыльню. Знішчаючы недахопы, павышаючы энергію ў рабоце партгрупы і кожнага комуніста, мы даб'емся далейшых поспехаў у росце прадукцыйнасці працы і разгортванні стаханаўскага руху.

**В. Крайко**

**Парторг менскага з-да імя Варашылава**

Парторгам я працую ўсяго два месяцы, а да гэтага тры гады быў праформгам цэха.

У мяне ў цэху 116 чалавек. Партыйная праслойка: 10 членаў партыі, 1 кандыдат, 4 спачуваючыя і 8 комсамольцаў.

Мая работа, як стаханаўца, выражаецца ў тым, што адначасова з абавязкамі парторга, я ўзначальваю адну з брыгад ліцейнага цэха. У сваёй брыгадзе 10 чалавек.

Асноўная мая задача—зрабіць стаханаўцамі ўсіх рабочых маёй брыгады. Для гэтага я павінен забяспечыць брыгаду ўсімі неабходнымі прыладамі, сачыць за тым, каб было ў парадку рабочае месца і т. п. Трэба сказаць, што паколькі работа ў нас больш ручная, то часта бывае, што чалавек спяшыць, пацее, а толку мала. Прыходзіцца тлумачыць рабочым аб рацыяналізацыі, абдуманым і разумным выкарыстанні часу.

Па выкананню нормы мая брыгада, у нараўнанні з іншымі, ідзе ўперадзе процантаў на 15—20.

Як парторг, я канкрэтна дапамагаю рабочым стаць стаханаўцамі. Узяць к прыкладу тав. Быкоўскага, які пры ўсім старанні не мог дабіцца добрых вынікаў у рабоце. Калі-ж мы стварылі яму адпаведныя ўмовы,—пачаў перавыконваць норму і ў хуткім часе вышаў на другое месца па выкананню плана.

Спачатку мы ўзялі было ўстаноўку лічыць стаханаўцам рабочага, які выконвае норму вышэй 162%, але на аснове ўказанняў партыйнага камітэта і райкома партыі змянілі яе. Прыглядаючыся бліжэй да работы кожнага стаханаўца, мы заўважылі выпадкі, калі чалавек стараецца, хоча працаваць па-стаханаўску, але процант выканання ў яго нізкі, а другі, працуючы з прахладцай, перавыконвае норму. Значыць у першага нормы завышаны, у другога—заніжаны.

Прышлося налегчы на адміністрацыю, каб яна пераразмеркавала работу. Такім чынам мы ўцягнулі ў стаханаўскі рух старога рабочага тав. Ліпніцкага.

Трэба таксама ўлічваць і бытавыя ўмовы рабочага. Калі ў чалавека няма дроў, у кватэры холадна, дзеці хварэюць, то ён натуральна, прыходзіць на работу стомленым, нервуецца, што адбіваецца на якасці і колькасці прадукцыі. Я ведаю матар'яльнае становішча ўсіх рабочых, бо працую на гэтым заводзе з 1928 года. Дрывамі мы забяспечылі ўсіх рабочых.

Сярод моладзі ліцейнага цэха 8 чалавек нестаханаўцаў. Каб усе яны сталі стаханаўцамі, трэба паставіць правільны ўлік работы.

Развіццю стаханаўскага руху перашкаджае перш за ўсё бессістэм-

насць у рабоце. Калі абвяшчаецца стаханаўская пяцідзенка, падрыхтоўчая работа кіпіць, а скончылася пяцідзенка—наступае зацішша. З такой з'явай у далейшым мы будзем змагацца. Перашкаджае палітычная і тэхнічная нягграматнасць некаторай часткі рабочых.

Большасць комуністаў у нашым цэху расстаўлена на дапаможнай рабоце, ад іх залежыць поспех рабочых, якія стаяць на асноўных працэсах. Мы зараз перавялі дапаможных рабочых на прагрэсіўную здзельшчыну.

Комуністы і комсамольцы ў кожным новым пачыне з'яўляюцца ініцыятарамі. У нас ёсць дошка, на якую заносяцца вынікі і дасягненні кожнага рабочага дня, падведзеныя на невялікай вытворчай нарадзе.

Начальнік цэха працуе нядрэнна, але ў яго адзін недахоп: зацягвае рацыяналізатарскія прапановы рабочых. У яго рабоце няма гібкасці і паваротлівасці. Прапановы, якія не патрабуюць папярэдняга абгаварэння, мы вывешваем на дошцы і зараз-жа рэалізуем. Вельмі часта збіраем старыкоў-стаханаўцаў для абмену вопытам. Работу вядзем, але патрэбнага ўздыму ў рэалізацыі прапаноў яшчэ не маем.

Сярод беспартыйнага актыва ў радзе гурткоў праводзіцца культурная работа. На кватэрах у стаханаўцаў практыкуецца чытка мастацкай літаратуры за чашкай чаю.

Спецыяльны работнік профпартгабінета кіруе вылучанымі цэхавымі, агітатарамі, якія праводзяць чытку мастацкай і палітычнай літаратуры, вядуць з рабочымі гутаркі па пытаннях бягучай палітыкі.

Многа прыходзіцца займацца пытаннямі сямейнага парадку і культурна-бытавымі.

У нашай рабоце ёсць яшчэ рад недахопаў. Лічу вялікім недахопам тое, што многія з нас, захапляючыся колькаснымі паказчыкамі, забывалі пра якасныя.

Як павінен ў далейшым працаваць парторг?

Ён павінен штодзенна дапамагаць стаханаўцам, як лепшым рабочым нашага соцыялістычнага будаўніцтва, клапаціцца аб палепшанні іх матар'яльных і культурна-бытавых умоў. Побач з высокімі колькаснымі паказчыкамі штодзенна змагацца і за якасныя, ўсямерна павышаючы тэхнічны і палітычны ўзровень рабочых-стаханаўцаў. Дасягнутыя ў стаханаўскія пяцідзенкі і дэкады высокія тэмпы прадукцыйнасці працы на аслабляць, а, замацоўваючы іх, садзейнічаць далейшаму разгортванню стаханаўскага руху на вышэйшую ступень.

**Г. Ліўшыц**

**Парторг бабруйскага фанернага завода імя Кірава**

Скажу пару слоў аб рабоце завода з першага дня яго існавання. Пабудаваны па апошняму слову тэхнікі, завод быў пушчаны ў 1929 годзе.

На гэты завод прыслалі нас 60 чалавек з завода імя Томскага. Гэта было ў 1930 годзе. З 1931 да 1934 года завод быў у глыбокім прарыве. У 1934 годзе мы ледзь-ледзь вышлі ў колькасных адносінах, а ў якасных далёка адсталі: недадалі дзяржаве на некалькі мільёнаў рублёў экспартнай прадукцыі. Праўда, наша раённая арганізацыя часта рабіла оргвывады: знімала дырэктара, сакратара. У 1935 годзе да нас прыслалі дырэктарам даволі добрага гаспадарніка—тав. Мальчыка з Віцебска. Сакратар парткома таксама аказаўся моцным комуністам. Яны і паставілі завод на ногі.

У 1935 годзе наш завод вышаў на першае месца сярод астатніх фанерных заводаў Беларусі і Украіны і атрымаў прэмію ў 16.000 рублёў.

Я з'яўляюся парторгам змены лушчыльнага і клеевага цэхаў. Лушчыльны цэх увесь час падводзіў, сістэматычна не выконваў план. Стаханаўскі рух прымусіў падумаць аб тым, як арганізаваць работу. Лепшым ударнікам у нас быў малады рабочы Цэйтлін, які ўвесь час выконваў план. Мы звярнуліся да яго з прапановай даць яшчэ больш высокія паказчыкі работы. Ён ахвотна згадзіўся, калі яму стварылі адпаведныя ўмовы.

У першы-ж дзень тав. Цэйтлін выканаў сваё заданне на 201%. Так пачалі з'яўляцца першыя стаханаўцы ў лушчыльным цэху. Але пашлі гутаркі аб тым, што ўлік няверны, што такіх паказчыкаў нельга дасягнуць. Мы пачалі выяўляць, адкуль ідуць гэтыя гутаркі. Аказалася, што яны выходзяць ад загадчыка вытворчасці. Калі аб гэтым давялі да ведама партыйнага камітэта і дырэкцыі завода, то загадчыка вытворчасці ўбралі. На другі дзень Цэйтлін перакрыў свой першы рэкорд, даўшы 240%, а потым і 318% нормы.

Праўда, за апошні час пачала зніжацца якасць. Трэба прызнацца, што мы першы час націскалі больш на колькасць. Але, ведаючы, што колькасць без якасці нікуды не варта, склікалі сход лушчыльшчыкаў і паставілі пытанне аб якасці.

У першыя дні перадавымі вышлі тт. Цэйтлін і Нарадаў. Адстаючым таварышам Костка і Яхнесу гаварылі: «Умовы работы ў вас аднолькавыя, станкі аднолькавыя. Чаму-ж у вас розная выпрацоўка і розная якасць?» Да гэтых таварышоў прымацавалі дзяжурнага слесара тав. Гарэліка, але вынікі былі слабыя.

У нас нехапала аднаго станкавога, а станкавы другой змены, **Малькевіч,** не меў работы. Калі ўзялі яго к сабе, то ў першы-ж

дзень ён даў 150% плана, на другі 180%, а потым пачаў даганяць Цэйтліна. Бачачы, што лушчыльны цэх своечасова забяспечвае завод поўфабрыкатамі, мы пераключылі ўсю сваю ўвагу на клеявое аддзяленне, у якім я сам працую. У клеявым аддзяленні работа пашла трудней, бо прышлося мець справу з падвозчыкамі поўфабрыкатаў. Папрацаваўшы з імі, мы перашлі да клейшчыкаў. Ёсць у нас старая работніца тав. **Брыткевіч**. Яе брыгада адставала ад брыгады тав. Шэлег, хоць і працавала ў роўных умовах. Мы ўмацавалі яе комсамолкай тав. Эдзінбург, і брыгада тав. Брыткевіч пачала даваць да 180% плана. Я ўвесь час сачыў за таблічкай, якая вісіць у Брыткевіч у клеявых вальцах. Цяпер Брыткевіч ідзе ўперадзе стаханаўкі Шэлег.

Стаханаўская пяцідзёнка дала нам добрыя вынікі. Значна вырасла колькасць стаханаўцаў.

Я сам працаваў на гідраўлічных насосах 3 гады. Калі ўзнік стаханаўскі рух, дырэктар распарадзіўся перакінуць мяне на іншую работу: прызначыў грамадскім брыгадзірам брыгады з 9 чалавек, дзе раней стаяў чалавек, які не спраўляўся з работай. У першую стаханаўскую пяцідзенку я вышаў на другое месца. У стаханаўскую дэкаду мы вышлі на першае месца ўсёй зменай. Праўда, ёсць у нас адно «але»: з'явіўся брак. У гэтым доля маёй віны, але вінаваты таксама клейшчыцы і клееварь. Мы пачалі думаць, як знішчыць брак. У нас на клеевых прэсах кандэнсатар часта не адкачвае ваду, і ціск пары зніжаецца. Акрамя таго, клееварка ўстроена па-варварску. З-за няправільнага ўхілу труб і нізка апушчаных бакаў мы не маглі атрымаць выстаяны клей. У апошні час недахопы знішчаны.

Цяпер уся наша брыгада стаханаўская. Усе рабочыя зразумелі, што стаханаўскі метад работы—вялікая справа.

У маёй змене 3 члены партыі і 2 кандыдаты. Адзін кандыдат працуе на лушчыльным станку, другі на падачы чуракоў у парыльнай камеры. Усе яны добра ведаюць, што комуністы павінны адыгрываць авангардную ролю ў стаханаўскім руху.

Як мне дапамагаюць партыйны камітэт, дырэкцыя завода і інжынерна-тэхнічныя работнікі? Майстар нашай змены з'яўляецца членам ІТР і паліт'інфарматарам. Часта праводзіць гутаркі на розныя тэмы, дае ўказанні ў рабоце. Дырэктар завода па 3—4 разы ў змену прыходзіць да нас, пытаецца, як ідзе работа і дае розныя ўказанні. Тэхнарук завода тав. Шэйдзін таксама штодзенна дапамагае ў рабоце. Інструктар райкома па прамысловасці цікавіцца кожнай дробяззю работы завода, бывае на тэхнічных нарадах і т. д.

У нас адзін комуніст нестаханавец. Мы з ім працуем многа, але ён хворы. У мінулым годзе мне было прадастаўлена месца на курорт. Я адмовіўся ад пуцёўкі і перадаў яму. Нядаўна ў яго дзеці былі хворыя—мы яму аказалі дапамогу.

Мы прынялі ў спачуваючыя двух чалавек і вызначылі яшчэ трох. Трое з маёй змены прыняты ў комсамол.

Сам я не вельмі развіты і граматны чалавек. Хваліцца няма чым. Але газеты чытаю штодня, часта праводжу гутаркі. Прапрацаваў даклад тав. Молатава, у інтэрнаце правёў чытку.

Наведаў дома 10 стаханаўцаў маёй брыгады. У стаханаўца тав. Сарокіна кватэра запушчаная. На пасяджанні членаў дэпутацкіх груп я прасіў паставіць перад горсоветам пытанне аб забяспечанні Сарокіна кватэрай. Быў у Новікава. Ён працуе нядаўна ў маёй брыгадзе. Жыве разам з жонкай. За апошні час купіў сабе касцюм.

Дома зрабіў сёе-тое. Гаворыць, што хоча купіць добрыя бацінкі і галошы. Быў я і ў многасямейных. У аднаго жонка хворая, дзеці ляжаць у больніцы. Я дагаварыўся, каб заўком выдаў яму ссуду з касы ўзаемадапамогі. Прэміравалі яго парасём. З маёй групы прэміравалі 4-х чалавек па 100 руб. Так што мы вядзем сякую-такую работу. Але асабліва пахваліцца няма чым, бо трэба зрабіць значна больш, чым зроблена

---

**Д. Магін**

**Парторг гомельскага шклозавода імя Сталіна**

Я працую на будаўніцтве шклозавода імя Сталіна ўсяго месяцаў 10. Спачатку—брыгадзірам-штукатурам, потым дзесятнікам, а зараз парторгам.

На нашым будаўніцтве развіццё стаханаўскага руху праходзіла значна горш, чым на прадпрыемствах. Тав. Молатаў на нарадзе стаханаўцаў гаварыў, што на будоўлях справа стаіць астрэй таму, што да нас прыбываюць людзі свежыя, якіх трэба апрацаваць.

На Донбасе, дзе я працаваў да шклозавода, пытанне з кадрамі стаяла інакш, бо там цяжкая індустрыя пачала будавацца даўно і вырасціла моцны касцяк рабочых-будаўнікоў. А на нашым касцяк асноўных кадраў, якія-б штодзенна хварэлі душой за будаўніцтва, зусім слабы.

Пачуўшы пра рэкорды Стаханава, я пачаў прымяняць яго метад у рабоце па сваёй спецыяльнасці штукатура. Раней у пакоі працавала па 3—4 штукатуры. Я паставіў на рыштаванні па аднаму чалавеку, вызваліў яго ад лішняй чарнавой работы, і ў выніку штукатуры дабіліся росту прадукцыйнасці працы да 200 і болей процантаў. Гэта была наша першая перамога.

Па-стаханаўску мы пачалі працаваць і на іншых участках. Напрыклад, пры каменнай кладцы сцяны замест ранейшага максімума ў 800 штук цэглы выкладаем да 2.500 штук.

Але гэтыя нашы дасягненні яшчэ далёка недастатковы. Вялікім мінусам у нашай рабоце з'яўляецца тое, што ў нас з 325 чалавек рабочых толькі 75 стаханаўцаў.

Што перашкаджае нам працаваць па-стаханаўску? Асноўнае—дрэнная арганізацыя справы і другое—недахоп будматар'ялаў, перабоі ў снабжэнні. Калі нам патрэбна 100 кубаметраў лесу, то прысылаюць 15—20. Былі выпадкі, калі нам прыходзілася перакокваць тэхнічны персанал у неабходнасці працаваць па-стаханаўску, а некаторым, як сказаў тав. **Сталін,** і лёганька даць па зубах. Так было, напрыклад, з прарабам Бараноўскім, якога мы не раз спрабавалі перакананць і на агульных сходах і на тэхнічных нарадах, але станоўчых вынікаў не дабіліся. Урэшце ён сам адмовіўся ад работы і атрымаў разлік.

Не мала мы зрабілі для арганізацыі работы 75 стаханаўцаў. Я не толькі быў дзесятнікам над 50 рабочымі, якія выконвалі план на 140%, а і як парторг кіраваў усім будаўніцтвам (электрычным, сантэхмантажным, жыллёва-будаўнічым і прамыслова-будаўнічым цэхамі).

Партарганізацыя наша складаецца з 6 чалавек: 3 членаў партыі і 3 кандыдатаў. Акрамя таго мы маем 2 спачуваючых, 12 чалавек бес-

партыйнага актыва і 5 комсамольцаў. Гэта занадта малая партыйная праслойка сярод той масы рабочых, якая прыбывае да нас з вёсак.

Адзін з комуністаў з'яўляецца начальнікам цэха і выконвае свае абавязкі на выдатна, але бывае вельмі часта заняты на будаўніцтве. Другі комуніст—загадчык склада, прымацаваны да комсамола, працуе добра. Трэці член партыі—рэдактар заводскай шматтыражкі, кіруе прапрацоўкай пытанняў бягучай палітыкі. Адзін з кандыдатаў партыі з'яўляецца дзесятнікам і, акрамя таго, членам горсовета, членам цэхавага камітэта і рэдактарам цэхавай газеты. Другі кандыдат партыі праводзіць заняткі з беспартыйным актывам.

Значная работа праведзена сярод беспартыйнага актыва, для вучобы якога выдзелены 4 дні ў месяц плюс заняткі па бягучай палітыцы.

У беспартыйны актыў у нас залічаны правераныя стаханаўцы, перадавікі ў грамадскім жыцці і на рабоце. Частку беспартыйнага актыва мы прымем у групу спачуваючых.

Што ў нас зроблена для таго, каб людзі сталі стаханаўцамі? Ёсць у нас, напрыклад, плотнік тав. Баскоў. Ён спачуваючы, але яму ніяк не ўдавалася стаць стаханаўцам. Я выявіў прычыну. Аказалася, што яго брыгада з чатырох чалавек не мае поўнай нагрузкі. Я зараз-жа дамовіўся з начальнікам цэха, каб брыгаду Баскова забяспечвалі неабходным матар'ялам і поўнасцю нагружалі. У выніку брыгада выконвае план больш як на 200 процантаў.

Перад стаханаўскай пяцідзенкай і дзесяцідзенкай партком склаў план палепшання ўсёй партыйна-масавай і палітыка-выхаваўчай работы, каб яна садзейнічала шырокаму разгортванню стаханаўскага руху. Арганізавалі паход стаханаўцаў з жонкамі ў кіно, выпускалі насценныя газеты, праводзілі сходы са справаздачамі комуністаў і інш.

У прымяненні стаханаўскіх метадаў нам перашкаджаюць перабоі з матар'яламі і няўдалая расстаноўка інжынерна-тэхнічных сіл. У нас дзесятнік нагружан не так, як гэта павінна быць. Ён з'яўляецца адначасова і экспедытарам. Акрамя работы на сваёй пляцоўцы, яму яшчэ прыходзіцца хадзіць на склад, у розныя аддзяленні, каб здабываць будматар'ялы. Хіба гэта парадак? Калі мы хочам арганізаваць работу як след, неабходна мець загадзя падрыхтаваныя будматар'ялы на пляцоўцы. Пры ўзмоцненай рабоце гэтыя недахопы будуць зжыты, і тады мы значна павялічым колькасць стаханаўцаў нашай будоўлі.

---

**А. Малец**

**Парторг гомельскага станкабуд ў-нічага завода імя Кірава**

Я з'яўляюся парторгам механазборачнага цэха, дзе працуе 318 рабочых, з якіх комуністаў 24, комсамольцаў 34 і спачуваючых 17. Непасрэдна за станком працуе 15 і на кіруючай рабоце 9 комуністаў.

Стаханаўцаў у нашым цэху 300 чалавек. Напрыклад, тт. **Брусавальнікаў,** які выконвае норму на 400%, **Еўтухоў**—600%, **Громаў**—400%, **Агуркоў**—500%, **Ліфшыц**—300%, **Ткач**—297%, **Гамбург**—400% і рад іншых. Тут трэба агаварыцца, што проценты прыведзены па нормах 1935 года. Зараз мы выконваем план па новых нормах і даем 116% агульнацэхавага задання.

Як наш цэх дабіўся такіх паказчыкаў?

Трэба сказаць, што спачатку быў сумны малюнак. Вяліся размовы, што ў нас не Донбас, і стаханаўскі рух не можа прывіцца. Аб гэтых настроях сігналізавала газета «Рабочий». Па рашэнню гаркома партыі ў нас адабралі пераходны сцяг за тое, што кіруючыя работнікі недаацанілі стаханаўскага руху. Пасля гэтага ўсё закруцілася інакш.

Па заданню XVII партыйнага з'езда наш завод павінен быў асвоіць два віды станкоў: адзін нямецкага тыпу—былы калава-абдзірачны для авіяцыйнай і трактарнай прамысловасці, а другі—правільна-паліравальны. Апошні не выпускаўся паўтара гады з-за таго, што тэхнічны персанал не хацеў падумаць, як перакантруяваць цапфы. У канцы мінулага года мы атрымалі з трэста адносіну аб тэрміновым выкананні праграмы па выпуску правільна-паліравальных станкоў. Склікалі партыйны цэхавы сход, на які запрасілі тав. Пірогава, тэхнічнага дырэктара нашага завода, і паставілі перад ім пытанне: чым тармозіцца выпуск станкоў і якія меры прымаюцца для таго, каб выканаць праграму. Узнялі хадайніцтва перад парткомам (паколькі тэхдырэктар быў не ў нашай партгрупе) аб тым, каб заслухаць яго на партыйным камітэце. Дырэктар завода тав. Добкін даў яму чоткае заданне выканаць пастаўленую задачу. У выніку—15 станкоў было выпушчана к канцу 1935 года.

Як у нас раслі стаханаўцы?

Тав. **Бальшакоў,** якога цяпер мы паслалі ў школу лейтэнантаў, яшчэ не ведаючы метадаў стаханаўскай работы, рабіў два насосы пры норме 1¾. Калі яму былі створаны патрэбныя ўмовы, то на трэці дзень ён даў чатыры насосы. Партыйна-комсамольскі сход са спачуваючымі заслухаў даклад тав. Бальшакова. Ён нам расказаў, як рыхтаваў рабочае месца, якія прымяняў метады, што яшчэ тармозіць работу і абяцаў выпускаць 6 насосаў, калі мы забяспечым яго дэталямі патрэбнай якасці. Мы задаволілі патрабаванні тав. Баль-

шакова і стварылі ўсе ўмовы для таго, каб ён выпрабляў 6 насосаў. Пасля гэтага зноў сабралі агульнацэхавы сход з яго дакладам. На другі дзень за тав. Бальшаковым пашоў тав. Лейкін, які заявіў: «пастаўце мяне працаваць на двух стругальных станках, і я дам высокую прадукцыйнасць працы». Атрымаўшы на гэта дазвол, ён даў 285% промфінплана.

У нашым цэху працуюць пазменна 13 брыгад. З кожнай зменай палітбяседчык праводзіць гутаркі на тэмы, якія просяць растлумачыць самі рабочыя. Нядаўна была праведзена палітгутарка аб падзеях на Далёкім Усходзе. Гутарка праводзілася пры дапамозе карты.

12 студзеня пачалі рыхтавацца да стаханаўскіх сутак і дэкад. Прапрацаваўшы артыкул з «Правды» аб падрыхтоўцы завода імя Орджанікідзе да стаханаўскай дэкады, мы рашылі ўзяць для вопыту адзін участак і падрыхтаваць яго, як кажуць, з ног да галавы. Абгледзелі ўсе станкі, адрамантавалі некаторыя, падрыхтавалі струмант, ключы розных калібраў і перавялі комсамольска-стаханаўскую брыгаду на стаханаўскія суткі. У выніку суткі далі добрыя паказчыкі, не гледзячы на тое, што да гэтага часу некаторыя рабочыя недавыконвалі промфінплан.

На наступны дзень мы рашылі перавесці другую брыгаду і такім чынам да 20 студзеня ахапілі ўсе 13. Уключыўшыся ў стаханаўскую дэкаду ўсім цэхам, мы выклікалі на соцспаборніцтва астатнія цэхі.

У мінулым годзе мы зусім не мелі рацыяналізатарскіх прапаноў, а за студзень гэтага года сабралі 275, з якіх 170 прапаноў рэалізавалі.

На спецыяльнай дошцы прапаноў указваюцца меры павышэння прадукцыйнасці працы і рацыяналізацыі рабочага працэсу, а таксама паведамляецца рабочым аб руху іх прапаноў.

Трэба сказаць, што наш інжынер-канструктар мала ўвагі ўдзяляў гэтай важнейшай справе. Склікалі пленум заўкома і паставілі справаздачу інжынера. Такі метад даў лепшыя рэзультаты.

У нас вырабляюцца шпількі для насосаў. Рабочыя ўнеслі прапанову зрабіць на станку задні і пярэдні хады, каб у тры разы павялічыць выпуск шпілек. Прапановы гэтай адразу не хацелі прымаць. Цяпер яна рэалізавана, і рабочыя даюць вышэйшыя паказчыкі ў выкананні плана.

Я, начальнік цэха і яшчэ адзін комуніст абышлі ўсе тры змены і пыталіся ў кожнага рабочага, што, па яго думцы, патрэбна для лепшай арганізацыі працэсу яго работы. Такім метадам было сабрана 270 прапаноў.

Ці ўсё ўжо зроблена? Бясспрэчна не. Вось я ва ўсіх выступаўшых таварышоў пытаўся, як у іх працуюць насценныя газеты. У нас яны працуюць кепска.

Каб палепшыць якасць сваёй прадукцыі, мы арганізавалі спаборніцтва паміж стаханаўцамі ў цэхах. З аддзелам механікі заключылі дагавор на пастаўку добраякаснага струменту.

Комсамольцаў у мяне 34 чалавекі, з іх 30 стаханаўцаў.

Спачуваючых у нас 17 чалавек, з якіх 7 прыняты ў апошні час з ліку лепшых стаханаўцаў. Са спачуваючымі непасрэдна займаецца партком. Для ўцягнення спачуваючых у актыўную работу даецца нагрузка па іх здольнасці. Паасобныя спачуваючыя (тт. Жолудава, Гатфан) з'яўляюцца добрымі палітбяседчыкамі ў брыгадах. Некаторыя спачуваючыя падрыхтаваны ўжо для прыёму ў партыю.

Наведванне школ я правяраю сам. Акрамя таго заслухоўваю справаздачы аб рабоце і вучобе. Большасць нашых стаханаўцаў прымацавана да інжынераў і тэхнікаў. Многія закончылі ўжо другі тур вучобы і хочуць павысіць свае як тэхнічныя, так і агульнаадукацыйныя веды.

Сам я—завочнік тэхнічнай вучобы. Да мяне прымацавалі тэхніка, але займаюся не вельмі добра. З мастацкай літаратуры за апошні час прачытаў тры кнігі: «Ціхі дон» Шолахава, «Дрыгву» Я. Коласа, «Я люблю» Аўдзеенкі.

Я быў у стаханаўцаў на даму, цікавіўся іх бытавымі ўмовамі і жыццём. Але чаму не наведваюць стаханаўцаў праформгі, брыгадзіры, начальнікі цэхаў? Чаму ім не пайсці на-дом, не вывучыць людзей? Гэта яны абавязаны рабіць, бо калі ў стаханаўца брудна дома, то і да станка ён будзе адносіцца неахайна, а калі ў яго дома чыстата і парадак, то і да станка будуць беражлівыя адносіны. Я цікавіўся бытам тт. Абрамава, Шклявера, Кажамякіна. У кватэры Кажамякіна, які жыве з маткай, вісеў абраз, але потым яго знялі.

Што я зрабіў, каб самому стаць стаханаўцам? Я строга размеркаваў работу паміж кваліфікаванымі і некваліфікаванымі рабочымі, нарыхтаваў патрэбны струмант і дабіўся таго, што выконваю заданне за $2\frac{1}{2}$ замест $6\frac{1}{2}$ дзён і зарабляю 500 руб. у месяц замест ранейшых 200.

Побач з дасягненнямі, у маёй рабоце ёсць і недахопы. Я больш займаўся вытворчымі пытаннямі, чым партыйна-выхаваўчымі. Калі праверка партдакументаў праведзена ў нас добра, то да абмену наша партгрупа падрыхтавалася слаба, бо я ўпусціў гэта пытанне. Партарганізацыя нашага цэха недастатковую ўвагу ўдзяляла пытанню палепшання якасці прадукцыі і эканоміі метала.

Што нам перашкаджае ў павышэнні прадукцыйнасці працы? Адсутнасць рэмняў на шліфавальных і стругальных станках, адсутнасць электраматораў, несвоечасовая дастаўка шарыкападшыпнікаў, гатунковай сталі. Гэтыя недахопы неабходна ліквідаваць у бліжэйшы час.

---

**Ф. Русецкая**

**Парторг гомельскай фабрыкі „Комінтэрн"**

Партыйна-комсамольская група, якою я кірую, складаецца з 5 членаў, 6 кандыдатаў партыі і 5 комсамольцаў. Рабочых у цэху ўсяго 60 чалавек.

Калі пачаўся стаханаўскі рух,—комуністкай, рабочай ад станка, аказалася адна я ва ўсім цэху, бо пры праверцы партыйных дакументаў 4 комуністаў выключылі. Партыйны камітэт вылучыў яшчэ 2 комуністаў, і мы разам прапрацавалі на партыйнай групе пастанову аб стаханаўскім руху, вынеслі рашэнне, якое потым абгаваралася агульнацэхавым сходам рабочых.

У выніку стаханаўскіх метадаў работы, у нас вызвалілася 10 чалавек, якіх перакінулі ў іншыя цэхі. З двух змен створана адна; яна цалкам забяспечвае сыравінай 1.200 рабочых фабрыкі. Комуністы майго цэха дапамагаюць рабочым іншых цэхаў.

У нашым цэху ёсць такія комуністы, якія атрымалі вялікія прэміі за эканомію сыравіны. Напрыклад, тав. **Кантараў** атрымаў 700 руб. Эканомія сыравіны—добры паказчык работы. За 3 месяцы работы мы атрымалі эканоміі: па сукну—836 метраў, баваўнянапапяровых вярхах—468 метраў, ардзінарнаму матар'ялу—19 тыс. метраў.

Калі іншыя цэхі мелі перавыдаткі па зарплаце, то наш цэх даў 15.000 руб. эканоміі.

Як я дапамагаю комуністам і беспартыйным рабочым у справе ажыццяўлення стаханаўскіх метадаў работы?

Тав. Кантараў вельмі адставаў у грамадскай рабоце, мала ўвагі ўдзяляў сваім дзецям: у школе яны вучыліся дрэнна, хадзілі бруднымі. Мы паставілі яго самасправаздачу аб выхаванні сваіх дзяцей, што ўздзейнічала на бацьку. Дзеці пачалі лепш займацца.

Абследвала жыллёвыя ўмовы комуністаў. Кватэры амаль ва ўсіх рабочых добрыя.

Прышлося падумаць, як рацыяналізаваць метады работы. Былі сабраны 32 рацыяналізатарскія прапановы, якія трыкутнік цэха абгаварыў і вынес канкрэтныя рашэнні. Член партыі тав. Крайноўская ўнесла прапанову, па якой з рэштак матар'ялу выходзіць 7 шапак замест 6.

У развіцці стаханаўскага руху нам перашкаджаюць перабоі ў снабжэнні сыравінай. Наш цэх амаль кожную пяцідзенку прастойвае два дні з-за гэтых перабояў, што шкодна адбіваецца на стаханаўскім руху.

Як мы дапамагаем нестаханаўцам? Часта праводзім палітгутаркі, вытворчыя нарады, на якіх стаханаўцы абменьваюцца вопытам сваёй

работы. Многім рабочым адрамантавалі кватэры. Зараз наша задача— зрабіць усіх рабочых стаханаўцамі. Рабочыя нашага цэха гавораць: «Не дапусцім, каб у нас забралі пераходны сцяг». З новых рабочых у нашым цэху трое ўжо сталі стаханаўцамі. Нам неабходна наладзіць сувязь з іншымі фабрыкамі для абмену вопытам.

Тормазам у нашай рабоце была вялікая засмечанасць фабрыкі класава чуждым элементам. На фабрыцы 9 год працавала работніца, якая аказалася шпіёнкай. Выкрыты Бас і Гаравы, як былыя трацкісты. Стаханаўскі дэкаднік у касцюмным цэху сарваўся па віне начальніка цэха Сорына, які ў час стаханаўскага руху вывесіў новыя заніжаныя нормы і за п'янкай падгаварваў майстроў звольніцца з фабрыкі, каб падарваць работу. Зараз Сорын і майстра Янковіч зняты з работы. Цэх пачаў працаваць па-новаму.

Я працую рэзервніцай. У нашай дырэкцыі быў такі погляд, што рэзервніца не можа стаць стаханаўкай, бо яе часта перакідаюць на розныя аперацыі. Але я даказала адваротнае: у першую-ж стаханаўскую дэкаду выканала план на 216%.

Па эканоміі сыравіны наш цэх стаіць на першым месцы. Да нашай партгрупы прымацован сакратар парткома, бо цэх лічыцца вельмі важным у сэнсе забяспечання нармальнай работы іншых цэхаў. Дырэктар часта заходзіць да нас і дае ўказанні ў рабоце.

Кожную пяцідзенку партком праводзіць кансультацыю з паліт-бяседчыкамі і парторгамі. Я заўсёды наведваю гэтыя кансультацыі, часам і сама праводжу ў цэху гутаркі.

Быў у нас такі выпадак. Комуніст Міркін, чалавек граматны, ніколі не праяўляў сябе, і аб ім стаяла пытанне аб выключэнні з партыі за пасіўнасць. Я сказала яму на закрытай партгрупе: «Ты дрэнна працуеш, у цябе дрэнная якасць». Я яму дала заданне зрабіць даклад на партгрупе аб міжнародным становішчы. І трэба сказаць, што даклад быў вельмі добры. Зараз мы яго вылучылі паліт-бяседчыкам.

Маркіроўшчыца Чумакова ўвесь час настойвала, каб яе прынялі ў спачуваючыя, але працавала дрэнна. Я ёй абяцала задаволіць просьбу, калі будзе лепш працаваць і стане стаханаўкай. Зараз яна працуе выдатна. Кантараў, які раней не ўдзельнічаў у грамадскім жыцці,—цяпер адзін з перадавых. Выдатна працуе таксама і комсамолец Ганюшко.

**Ц. Ульяноўская**

**Парторг гомельскай кандзіцерскай ф-кі „Спартак"**

Я была вылучана парторгам карамельнага цэха ў пачатку кастрычніка пры праверцы партыйных дакументаў. У гэтым цэху працуе 350 рабочых, з іх 11 комуністаў, 4 спачуваючыя і 22 комсамольцы.

Карамельны цэх праводзіў стаханаўскія суткі першым па камбінату. Паказчыкі былі добрыя. Першая пяцідзенка стаханаўскай дэкады прашла добра, другая дала зніжэнне выпрацоўкі з-за няспраўнасці машын, недахопу пары і тары. Лічу, што ў гэтым вінаваты мы самі.

У гэты час я выкрыла брыгадзіра сталінскай брыгады карамельнага цэха—Марголіна, які тармазіў прадукцыйнасць працы, груба абыходзіўся з рабочымі, выкінуў з цэха адну работніцу і дапусціў нетактычны ўчынак у адносінах рэдкалегіі брыгаднай насценгазеты. Марголін аказаўся былым гаспадарчыкам. Калі мы яго знялі з работы і на яго месца паставілі стаханаўца тав. Ефіма, брыгада пачала выконваць план на 227%.

Сярод рабочых я пачала праводзіць гутаркі аб уключэнні ў стаханаўскі рух.

Спачуваючы тав. **Рэсін**, на наступны-ж дзень пасля гутаркі, выканаў план на 215% і ўзначаліў брыгаду з 8 чалавек.

Комсамолец тав. **Лемперт—**адзін з ініцыятараў стаханаўскага руху на камбінаце—пабіў усесаюзны рэкорд па рабоце на вакуум-апараце. Раней Лемперт быў вялікім бузацёрам, два разы ставілася пытанне аб выключэнні яго з комсамола. Сам дрэнна працаваў і другім не даваў.

У дзень, калі праводзілася гутарка аб стаханаўскім руху, Лемперт падышоў да мяне і сказаў, што хоча перайсці на 3 вакуум-апараты. Я папрасіла яго азнаёміць мяне з гэтым апаратам і абяцала адстойваць яго просьбу. Перадала аб гэтым начальніку цэха тав. Гольману, які падтрымаў мяне, але механік завода Лазараў і механік цэха Палікарповіч (абодва члены партыі) не зразумелі палітычнага значэння прапановы і пачалі супярэчыць. Я рашуча патрабавала, каб далі магчымасць Лемперту працаваць па-новаму. Назаўтра тав. Лемперт, працуючы на 3 вакуум-апаратах, выканаў норму на 280%. Потым перашоў на 4 апараты і дабіўся 400,9% нормы. Пераходам на 4 вакуум-апараты тав. Лемперт перакрыў рэкорд маскоўскіх і ленінградскіх кандзіцерскіх фабрык. Тав. Лемперт зараз дэталёва вывучае апарат, рацыяналізуе працэсы работы і нават дапамагае іншым брыгадам працаваць.

Бацька і маці тав. Лемперта—старыя рабочыя. Бацька піў, але сямейная сустрэча з сынам на заводзе ўздзейнічала на старога. Стаханавец Лемперт купіў сабе ложак, боты і часта прыходзіць да

мяне за парадай: што купіць? Цяпер намеціў купіць сабе касцюм за 300 рублёў.

За стаханаўцам Лемпертам пашоў тав. Драбышэўскі і інш. Зараз у нашым цэху 125 стаханаўцаў, з іх 8 комуністаў і 15 комсамольцаў.

У нас стаханаўцы працуюць па бальнай сістэме.

Тав. Мікаян на снежаньскім пленуме ЦК ВКП(б) сказаў, што цукерак павінен сам ісці ў рот. Мы зараз афармляем новыя гатункі і дабіваемся таго, каб нашы цукеркі бралі.

Я асабіста асвойваю зараз усе працэсы работы, бо да гэтага 19 год была швачкай і 11 год парфюмершчыцай.

Вялікую ўвагу ўдзяляю партыйнай рабоце. На кіруючай рабоце і непасрэдна за станком у цэху заняты 11 членаў і кандыдатаў партыі. З іх—8 стаханаўцаў вытворчасці і 3 нестаханаўцы. Акрамя таго, да маёй партгрупы прымацаваны 7 членаў і кандыдатаў партыі з іншых галін заводскай работы.

4 комуністы вучацца ў комвузе, у тым ліку і я, 6—у вячэрняй соўпартшколе пры фабрыцы і двое—у кандзіцерскай школе. Больш падрыхтаваныя члены партыі прымацаваны да слабых для дапамогі ім у вывучэнні праграмы, статута партыі і бягучай палітыкі. На сходах партгрупы ставім індывідуальныя справаздачы комуністаў. Я асабіста хаджу па школах і правяраю, як даспяваюць і наведваюць іх комуністы маёй групы.

Дзве работніцы, члены партыі, да майго прыезду не займаліся. Я з імі пагаварыла і пераканалася, што гэта людзі нашы, што з імі неабходна працаваць. Яны цяпер нядрэнна засвойваюць гісторыю партыі. Вучацца на даму, бо адна мае трое дзяцей, другая—у 4-месячным водпуску.

Да мяне парторгам быў нехта Ліўшыц. У час праверкі партыйных дакументаў ён выключан. Гэты Ліўшыц травіў члена партыі тав. Старчанка, якога падпайвалі. Калі тав. Старчанка перадалі ў маю партгрупу, ён сам стаў добрым стаханаўцам і зрабіў стаханаўскай ўсю брыгаду. Вучыцца выдатна ў школе.

У маёй партыйнай групе былі факты страты класавай пільнасці. Комуністка Славіна пасля прапрацоўкі закрытага ліста ЦК ВКП(б) аб пільнасці ў хаванні сваіх партыйных дакументаў пашла на рынак, дзе ў яе ўкралі партбілет. Яе выключылі з партыі. Таксама выключылі з партыі аднаго комуніста, які ў 1921 г. гандляваў валютай. На вытворчасці ведалі аб гэтым, але ніхто не паведаміў партгрупу.

Некалькі слоў аб спачуваючых. У стаханаўскую пяцідзенку да мяне прыбыў тав. Анціпенка, так што ў мяне зараз 4 спачуваючыя. Кожны комуніст, даўшы рэкамендацыю спачуваючаму, дапамагае і правярае яго работу. Усе спачуваючыя вучацца, за выключэннем адной, якая скончыла 3 курсы рабфака і мае малое дзіця.

Палітбяседчыкі праводзяць гутаркі з рабочымі. У мяне тры змены. Я часта прыходжу з комвуза на трэцюю змену, каб даглядзецъ за тым, што робіцца ў цэху.

У мяне быў такі факт. Бачу, што адна стаханаўка здае тэмпы. Падыходжу да яе і пытаюся: што здарылася? Яна заплакала і гаворыць, што муж б'е, але баялася сказаць пра гэта, каб зусім не забіў.

Мы разам з начальнікам цэха пашлі да яе дамоў, агледзелі абстаноўку, пакой. Пакой малы, абстаноўка няважная. Параілі аддаць дзіця ў яслі.

Мужа выклікалі ў фабзаўком і як след ўзялі ў работу.

А ён гаворыць: «Дзе-ж вы бачылі, каб жонку муж не меў права біць? Я-ж гаспадар. Але-ж я вучу яе добраму! Мой бацька біў матку, і я буду біць жонку».

Ён—беспартыйны, доўгі час знаходзіўся на вёсцы. Пасля нашай гутаркі больш не чапае жонку.

Райком партыі цікавіцца нашай работай і дапамагае нам. Асабіста мне многа дапамагае партыйны камітэт і асабліва тэхнічны кіраўнік. Мы ўзялі пяршынства ў стаханаўскім руху на камбінаце.

---

**Е. Фрыдман**

**Парторг віцебскага з-да „Чырвоны металіст“ імя Кірава**

Хваля стаханаўскага руху, якая шырока разлілася па ўсяму Савецкаму саюзу, не магла не захапіць і прадпрыемстваў горада Віцебска, у тым ліку і нашага завода «Чырвоны металіст». Першыя стаханаўцы па гораду Віцебску, лепшыя людзі нашага завода тт. **Лін, Вірукоў, Латышэўскі** і інш., паказалі высокія ўзоры работы на прадпрыемстве.

Я з'яўляюся партарганізатарам рамонтнага цэха № 1, які павінен забяспечваць бесперабойную работу стаханаўцаў. У гэтым цэху 80 чалавек рабочых, з якіх 9 членаў, 3 кандыдаты партыі і 9 камсамольцаў.

Я вырас на гэтым заводзе, працую на ім 16 год і ведаю ўсіх рабочых завода.

Як я стаў стаханаўцам? Сам я слесар-водаправодчык. Як прымацаваны да кузні, я сачыў за тым, каб усе фарсункі былі ў спраўнасці, імкнуўся выявіць, што перашкаджае кавалю ў рабоце і як знішчыць перашкоду, стараўся забяспечыць свой участак работы так, каб не было прастояў. У выніку стаханаўскія суткі былі праведзены сапраўды па-стаханаўску, не было ніводнага прастою па маёй віне.

Трэба сказаць, што ў нас усе комуністы, за выключэннем Тычыніна, з'яўляюцца стаханаўцамі. Па віне Тычыніна матор вялікага прадольнага станка з-за перагрузкі ў час стаханаўскіх сутак вышаў са строю. Пры выяўленні прычыны аварыі ўстаноўлена, што Тычынін за апошні час зрабіўся пасіўным у грамадскім жыцці завода і 4 разы прапусціў палітзаняткі. Тычынін сам прызнаўся, што з-за яго неахайных адносін да справы матор вышаў са строю. Мы прапанавалі яму вучыцца. Ён згадзіўся, і зараз ужо значна падцягнуўся.

У нашым цэху нельга ўлічыць процанта выканання плана, бо цэх з'яўляецца абслугоўваючым, але ў той-жа час ён забяспечвае бесперабойную работу астатніх цэхаў.

Наша кузня мае паветраныя молаты, вельмі капрысныя ў рабоце. Раней яны рамантаваліся кожны раз новым слесарам. Рыхтуючыся да стаханаўскіх сутак, мы прымацавалі да паветраных молатаў спецыяльную брыгаду, адказную за работу ўсяго абсталявання цэха. Выдатных вынікаў дабілася брыгада, дзе працуюць лепшыя стаханаўцы тт. Орлоўскі і Кміт. У іх ні адзін молат не вышаў са строю.

Па такарскаму цэху таксама была вылучана брыгада на чале са старым рабочым тав. Рагажынскім. Да ліцейнага цэха прымацавалі брыгаду тав. Папількоўскага, якая добра вывучыла ўсе капрысы сталі.

У некаторых нашых адміністратараў былі кансерватыўныя настроі. Яны меркавалі, што ў рамонтным цэху нельга разгарнуць стаханаўскі рух. Такі погляд у корані няправільны. Калі ў нашым цэху не будзе стаханаўцаў, то і ў астатніх не будзе добрай работы, бо ад нашага цэха залежыць добраякасны рамонт станкоў і машын, іх бесперабойная работа.

Наш цэх сустракаў некаторыя тормазы ў развіцці стаханаўскага руху. Так, напрыклад, нарады на работу выдаваліся пасля яе выканання. Гэта пытанне мы паставілі на партгрупе і дабіліся выдачы нарадаў да пачатку работы. Або ўзяць падачу матар'ялаў. Наш цэх забяспечвае ўвесь завод штампамі. Ад своечасовай падачы штампаў залежыць работа ўсіх цэхаў. І вось па нашай віне бывалі прастої з-за перабояў у падачы нашаму цэху якаснай сталі. Гэты недахоп цалкам не зжыты яшчэ і зараз, што адбіваецца на рабоце штамповачнага цэха. Токару самому прыходзіцца бегаць за матар'яламі, а станок прастойвае.

Што павінна зрабіць партыйная арганізацыя для ўсямернага развіцця стаханаўскага руху на нашым заводзе?

Я лічу, што асаблівую ўвагу трэба звярнуць на масавую работу ў цэху. Раней мы празмерна захапляліся гаспадарчай работай, на сходах партгрупы ставілі чыста гаспадарчыя пытанні. Зараз мы добра ведаем, што калі члены і кандыдаты партыі будуць палітычна граматнымі і актыўнымі ў партыйным жыцці, то гэта будзе лепшым стымулам развіцця стаханаўскага руху.

У маёй партгрупе ёсць два палітбяседчыкі: тт. Капушчанскі і Ольдэрман. Мы рашылі прымацаваць да іх некалькі стаханаўцаў, каб падрыхтаваць рэзерв для прыёму ў спачуваючыя. Група спачуваючых у нашым цэху яшчэ не арганізавана, бо гэтым пытаннем партгрупа не займалася. Гэта вялікі недахоп работы партгрупы і яе парторга.

У партгрупе ёсць яшчэ адстаючыя члены партыі, але яны ўжо выпраўляюцца, пачалі палітычна расці.

Так, тав. Рыскіну даручана было прапрацаваць статут і праграму партыі і далажыць на партгрупе. Тав. Рыскін як па свайму палітычнаму, так і па агульнаму развіццю, адставаў, ніколі не выступаў на сходах. Тав. Фелізату даручылі прапрацаваць рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб выніках праверкі партыйных дакументаў. У прапрацоўку ўцягнулі таксама і іншых членаў партыі. Гэта мерапрыемства ўзняло актыўнасць комуністаў, адстаючыя пачалі расці.

Многа дапамаглі таксама ў развіцці комуністаў індывідуальныя справаздачы. Так, са справаздачы праформа цэха тав. Брыкмана выявілася яго палітычная няграматнасць. Ён не мае такіх неабходных для партыйца кніг, як «Пытанні ленінізма», двухтомнік Леніна. У кіно, тэатр не ходзіць. Тав. Брыкману мы моцна ўказалі на неабходнасць узняць свой палітычны ўзровень. Праз нейкі час партыйны камітэт, узяўшы ў нас пратакол, паставіў справаздачу тав. Брыкмана на агульназаводскім сходзе. Там ён паказаў сябе яшчэ горш: не мог адказаць ні на адно пытанне. Сход вынес яму сур'ёзнае папярэджанне і ўказаў, каб ён як мага больш над сабой працаваў, набыў неабходную літаратуру. Усе гэтыя ўказанні тав. Брыкман цяпер выканаў.

Партгрупа наладзіла рэгулярную чытку газет. Рабочыя вельмі цікавяцца міжнародным становішчам і задаюць многа пытанняў.

Як працуюць нашы інжынерна-тэхнічныя работнікі з планавага аддзела? Трэба сказаць, што ў час правядзення стаханаўскіх сутак і змен яны зрабілі цэлае «нашэсце» у цэхі. У планавым аддзеле не засталося ні аднаго чалавека, а за кожным станком стаялі па тры інжынерна-тэхнічныя работнікі. У звычайны час наша тэхнічнае кіраўніцтва такога рвення не праяўляе. Прывяду прыклад. У нас ёсць стаханавец тав. Стралецкі, які робіць кажухі для станкоў і дае 600% плана. Калі яму трэба было зрабіць прывод, бо рабочыя вальцуюць рукамі, то тэхнічнае кіраўніцтва тры месяцы канструіруе гэту прыладу і ніяк не можа давесці справу да канца.

Партыйны камітэт цікавіцца работай партгрупы, дапамагае ёй яснымі ўстаноўкамі па арганізацыі работы ў цэху, але мала ўвагі ўдзяляе вывучэнню быту і жыцця парторгаў.

---

**І. Цуркоў**

**Парторг віцебскага завода „Чырвоны металіст“ імя Кірава**

Таварыш **Сталін** на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў сказаў, што стаханаўскі рух падрыхтоўвае ўмовы для пераходу ад соцыялізма к комунізму.

Як мы ўзначальваем стаханаўскі рух?

Усе комуністы і спачуваючыя, якія працуюць непасрэдна за станком, з'яўляюцца стаханаўцамі і перавыконваюць норму на 180—200%. У маёй партгрупе двое старых рабочых даюць 150—180% нормы.

Ініцыятары стаханаўскага руху тт. **Брук** і **Пісараў** даюць 400—500% нормы і зараз з'яўляюцца спачуваючымі. З пачатку развіцця стаханаўскага руху ў спачуваючыя прынята 3 чалавекі. Але гэта не мяжа. У недалёкім будучым многія стаханаўцы рыхтуюцца стаць добрымі членамі партыі.

Нельга не адзначыць, што рад комуністаў не ўзначаліў развіццё стаханаўскага руху на сваіх участках.

Нядаўна выявілася, што ўчастковы прыёмшчык тав. Прахарэнка не працуе над сабой, неакуратна наведвае партсходы, адарваўся ад партыйнага жыцця, прапускае заняткі. Аказалася, што ў яго кепскія хатнія ўмовы. Мы яму дапамаглі, і зараз ён просіць растлумачыць кожнае няяснае для яго пытанне. Я зразумеў, што адставаў ён па нашай віне. Цяпер я часта гутару з імі і бачу, як чалавек расце.

Майстар цэха тав. **Карповіч** усю сваю ўвагу ўдзяляў гаспадарчай рабоце і зусім не працаваў над сабой. Аказалася, што статута партыі не ведае. Не прапрацаваў рашэнняў аб стаханаўскім руху, не ведае, што на снежаньскім пленуме ЦК ВКП(б) стаяла пытанне аб абмене партыйных дакументаў. Мы яму далі два тыдні на вывучэнне праграмы і статута партыі.

У апошні час наш цэх атрымаў заданне выпусціць вялікую партыю новаасвоеных ільнатрапалак і плугоў Фамічова. Па плану мы павінны выпускаць 25 ільнатрапалак і 5 плугоў Фамічова, але не можам выканаць плана па асартыменту, бо дастаўку дэталей тармозіць рад іншых заводаў, ад якіх залежыць работа нашага цэха. Акрамя таго, развіццё стаханаўскага руху тармозіцца радам вытворчых непаладак: недобраякаснай сыравінай, няўвязкай паміж зменамі і т. д. Інжынерна-тэхнічныя работнікі цэха слаба змагаюцца за развіццё стаханаўскага руху, не ўдзяляюць яму ўвагі. У выпушчаных намі 50-ці новых машынах ёсць рад дэфектаў. Дырэктар завода стараецца знішчыць усе тормазы ў далейшым развіцці стаханаўскага руху.

Партком добра кіраваў стаханаўскай дэкадай, але побач з гэтым не цікавіцца работай і жыццём парторга. За 3 гады маёй работы парторгам ніхто з парткома ні разу не пабываў на даму, не пацікавіўся, як жыву, як праводжу свой вольны час. Партком аб гэтай справе павінен падумаць.

Аб інструктарах гарадского камітэта трэба сказаць, што яны мала дапамагаюць стаханаўскаму руху, не бываюць у нас у цэхах, не вывучаюць людзей, што з'яўляецца вялікім мінусам іх работы.

У нашым цэху працуе 130 рабочых, з якіх 35—40 чалавек яшчэ не стаханаўцы. Сярод іх ёсць людзі, якіх часта перакідаюць з аднаго ўчастка на другі, таму адзін дзень ён стаханавец, а другі не, але ёсць і такія, якія шукаюць работы толькі там, дзе лёгка можна выканаць і перавыканаць норму.

Моладзь, якая прышла да нас з фабзавуча, лічыць сябе кваліфікаванай рабочай сілай. Гэтыя людзі ў большасці не з'яўляюцца стаханаўцамі, але ніяк не могуць пагадзіцца з тым, калі даеш ім работу ніжэйшага разраду. Трэба ўказаць школе ФЗУ, каб яна рыхтавала дысцыплінаваныя кадры, сапраўды адпавядаючыя свайму разраду.

На зборцы карпусоў я працую толькі два месяцы. Гэты ўчастак увесь час знаходзіўся ў прарыве, людзі стваралі канфлікты з-за расцэнак. Калі мяне сюды перакінулі, то з першага-ж дня я пачаў выконваць план на 210—220%, даказаўшы гэтым, што нормы нізкія і іх можна перавыканаць удвая. Людзі, якія працавалі са мной, імкнучыся падарваць маю работу, пусцілі чуткі, што якасць яе нібы не вельмі важная. Але я даказаў, што мая работа і па якасці і па колькасці добрая. Ужо назаўтра я ўбачыў, што людзі стараліся не адставаць ад мяне і пачалі таксама выконваць план на 160%, а за апошні час і на 170—180%.

Са стаханаўцамі праводзілася сістэматычная работа ў цэхах і на-даму. Наладжана тэхвучоба. Наш шэф—Палітэхнікум—вылучыў студэнтаў для заняткаў са стаханаўцамі.

Абавязак комуніста—усямерна дапамагчы стаханаўскаму руху, навучыць рабочых сваім асабістым прыкладам, як трэба працаваць. Аднак мы яшчэ мала ўвагі ўдзяляем тым рабочым, якія могуць і павінны стаць стаханаўцамі. Сёй-той з іх пападае пад уплыў адсталых рабочых, якія гавораць, што калі будзеш многа працаваць і зарабляць, то абавязкова павялічаць нормы. Мы яшчэ мала зрабілі для таго, каб выкрыць гэтых шаптуноў, паказаць іх класавае нутро.

Перад кожным комуністам стаіць задача—вывучаць людзей і дапамагаць ім у штодзеннай рабоце.

І. Чорны

# За разгортванне стаханаўскага руху ў тарфянай прамысловасці

Пленум ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове аб разгортванні стаханаўскага руху адзначыў:

> «Разгортванне стаханаўскага руху ў тарфянай прамысловасці БССР мае выключнае значэнне для народнай гаспадаркі Беларусі, бо на тарфяным паліве грунтуецца ў асноўным энергетыка народнай гаспадаркі БССР».

Трэба прама сказаць, што кіраўнікі тарфянай прамысловасці яшчэ недастаткова ўяснілі сэнс гэтай пастановы, не зрабілі адпаведных вывадаў з вопыту работы мінулых год, пусцілі самацёкам падрыхтоўку да торфсезону 1936 года.

Такая важнейшая па свайму палітычнаму і арганізацыйна-тэхнічнаму значэнню работа, як падрыхтоўка раду торфзаводаў да галіннай канферэнцыі, праводзілася без шырокага разгортвання стаханаўскага руху. Выступаўшыя на канферэнцыі таварышы прама заявілі, што матар'ял да галіннай канферэнцыі і ў прыватнасці тэхнормы не прапрацоўваліся шырока са стаханаўцамі.

Кіраўнікі з торфзавода «Свабода» прыехалі на канферэнцыю без цвёрда прапрацаваных норм. Так, паводле іх даных, выпрацоўка на аднаго чалавека за гадзіну чыстай работы складае 389 шт. цэглы, а Белторф чамусьці высунуў норму ў 335 цэгел. На машына-фармовачнай секцыі нарады дырэктар завода «Свабода» тав. Шкляр заявіў, што справаздачныя даныя (389 цэгел) памылковы, бо наблытала бухгалтэрыя і статыстыка, што трэба спыніцца на норме Белторфа. Секцыя, прапрацаваўшы гэтыя даныя, прышла да вываду, што яны з'яўляюцца сярэднімі, і ўстанавіла норму для торфзавода «Свабода» ў 415 цэгел.

На галіннай канферэнцыі стаханаўцы і інжынерна-тэхнічныя работнікі раду заводаў моцна падправілі нормы, высунутыя Белторфам.

На Осінторфе ў 1935 годзе была норма 29,9 тысяч цэгел машына-фармовачнага торфу на машына-змену, Белторф высунуў на 1936 год норму ў 33 тысячы, а канферэнцыя прыняла 35 тысяч цэгел.

На заводзе «Чырвоны сцяг» у 1935 годзе была норма 29,5 тыс. цэглы на машына-змену, Белторф высунуў норму 33 тыс., а канферэнцыя прыняла 35,9 тысяч цэглы.

Торфзавод імя Гея меў норму ў 33 тыс. цэглы на машына-змену, Белторф намеціў 37,6 тыс., а канферэнцыя прыняла 39,3 тысячы.

Каэфіцыент выкарыстання элеватарных машын складаў па Осінторфу 0,783, Белторф высунуў на 1936 год 0,84, а канферэнцыя прыняла 0,845, па «Чырвонаму сцягу» гэты каэфіцыент складаў 0,795, Белторф высунуў 0,845, а канферэнцыя—0,850.

Канферэнцыя ясна паказала, што ў мінулым годзе машыны і абсталяванне на ўсіх торфзаводах выкарыстоўваліся дрэнна. Аднак ні Белторф, ні адзін з дырэктароў не прышлі на канферэнцыю з разгорнутымі матар'яламі, якія далі-б магчымасць максімальна выкарыстаць магутнасць машын у 1936 годзе. Прынятыя канферэнцыяй нормы далёкі ад максімальных. Над імі прыдзецца яшчэ моцна папрацаваць дырэктарам, інжынерна-тэхнічным работнікам і стаханаўцам торфзаводаў.

Да тарфянай прамысловасці цалкам адносіцца заўвага тав. Андрэева на нарадзе ў промаддзеле ЦК ВКП(б), што «у мясцовай прамысловасці стаханаўскі рух празмерна адстае і што тут дапушчаны вельмі сур'ёзныя скажэнні».

Даволі сказаць, што дырэктар торфзавода імя Гея тав. Хаскін у сваім выступленні на канферэнцыі не здолеў назваць лічбу стаханаўцаў свайго завода, бо да гэтага часу не ведае, каго трэба лічыць стаханаўцам.

Большасць прадпрыемстваў торфпрамысловасці яшчэ не прыняла ніякіх канкрэтных мер для разгортвання стаханаўскага руху з пачаткам сезону, не гледзячы на своечасовае ўказанне пленума ЦК КП(б)Б аб тым, што Белторф у асобе тав. Кузнецова слаба ажыццяўляе кіраўніцтва стаханаўскім рухам.

СНК БССР устанавіў для кожнага завода канкрэтныя тэрміны разгортвання торфсезона. У прыватнасці Осінторф павінен быў пачаць сезон 13 красавіка, аднак і да гэтага часу не падрыхтаваў большасць машын і ўчасткаў.

Наяўнасць элементаў бюракратызма ў паасобных звеннях наркамата і Белторфа зрывае падрыхтоўку раду прадпрыемстваў да торфсезону.

Белторф яшчэ не прадставіў тэхнічных праектаў для заводаў «Чырвоны сцяг» і «Гея». Планы здабычы торфзаводаў ужо зацверджаны СНК БССР, а кіраўнікі Белторфа нават не задумаліся над тым, што сваёй бяздзейнасцю яны пазбаўляюць прадпрыемствы паліва. Яны яшчэ як след не паставілі перад Дзяржпланам БССР пытання аб тым, што заводы не могуць падрыхтавацца да сезону з-за адсутнасці раду леса-, піла- і іншых матар'ялаў. Самы незабяспечаны ўчастак—гэта жылбудаўніцтва, якога рад заводаў яшчэ не пачынаў, хоць ужо прыбывае рабочая сіла.

Асабліва слаба пастаўлена ў тарфянай прамысловасці партыйная і культмасавая работа. Узяць для прыкладу хоць-бы Осінторф—адзін з буйнейшых заводаў торфпрамысловасці БССР. Адміністрацыйна-тэхнічны персанал складаецца ў большасці з камуністаў, аднак недысцыплінаванасць і дробнабуржуазная расхлябанасць на Осінторфе лічыцца зусім звычайнаю з'явай. Усё зло ў тым, што гэтага не заўважаюць партыйныя і прафесіянальныя арганізацыі. Большасць машын і агрэгатаў не падрыхтавана да сезону, у інтэрнатах няма матрацаў, сталоў, план культурна-масавых мерапрыемстваў не выпрацаваны, слаба пастаўлена тэхвучоба і т. д.

Партарганізацыя завода павінна неадкладна ліквідаваць недысцыплінаванасць і расхлябанасць і з усёй энергіяй узяцца за распра-

цоўку плана мерапрыемстваў па разгортванню стаханаўскага руху, за ўзорную пастаноўку партыйнай, культмасавай работы і тэхвучобы.

Гэту задачу можна і трэба выканаць у самы кароткі тэрмін, асабліва прымаючы пад увагу, што Асінторф зараз умацаваны 22-ма маладымі інжынерамі, у тым ліку 7 комуністамі.

У 1936 годзе торфпрамысловасць БССР павінна даць больш 2 мільёнаў тон торфу. Гэты план не толькі зусім рэальны, але можа быць і перавыканан, трэба толькі па-большэвіцку арганізаваць стаханаўскі рух.

Усім кіраўнікам прадпрыемстваў неабходна ўлічыць выдатныя выступленні і заўвагі стаханаўцаў. Напомнім указанне стаханаўкі завода імя Гея тав. Гарачай, аб тым, што развароту стаханаўскага руху ў большасці перашкаджае не адсутнасць дробязных матар'ялаў і струмантаў, а тое, што іх ніколі не бывае пад рукамі, калі яны патрэбны, г. зн. неарганізаванасць рабочага месца.

Кіраўнікі партыйных і профсаюзных арганізацый торфпрамысловасці павінны цвёрда памятаць указанні правадыра нашай партыі таварыша **Сталіна** аб неабходнасці праяўляць клопаты аб людзях. Яны павінны адмовіцца ад дробнага апякунства, падмены гаспадарнікаў, рашуча заняцца глыбокай партыйна-масавай і культурна-выхаваўчай работай, па-большэвіцку ўзначаліць стаханаўскі рух, каб у 1936 годзе даць прамысловасці добраякасны і танны торф.

---

# Аб райкомах партыі ў раённых партыйных арганізацыях з невялікай колькасцю комуністаў

## Пастанова ЦК ВКП(б)

*ад 20 сакавіка 1936 года*

ЦК ВКП(б) устанаўляе, што ва многіх раённых партыйных арганізацыях з невялікай колькасцю комуністаў у склад пленумаў РК ВКП(б) уваходзіць палова і нават больш членаў усёй партарганізацыі, а ў бюро РК уваходзіць больш паловы складу пленума РК. З прычыны такой няправільнай арганізацыі кіруючых партыйных органаў у малалікіх райпартарганізацыях, бюро райкомаў падмяняюць работу пленумаў райкомаў партыі; пленумы райкомаў, збіраючыся нерэгулярна і, як правіла, у расшыраным складзе, падмяняюць раённыя партыйныя сходы.

Праверка партыйных дакументаў паказала, што ўсё гэта прыводзіць да таго, што, не гледзячы на малалікі склад партыйных арганізацый, райкомы дрэнна ведаюць членаў і кандыдатаў партыі, нездавальняюча кіруюць партыйнай работай, і члены партыі не ўдзельнічаюць у вырашэнні асноўных пытанняў работы раённых партыйных арганізацый.

У мэтах знішчэння ўказаных недахопаў, ЦК ВКП(б) пастанаўляе:

1. Прызнаць мэтазгодным у раённых партыйных арганізацыях з невялікай колькасцю членаў і кандыдатаў партыі выбары райкомаў партыі праводзіць на раённых сходах членаў ВКП(б), устанавіўшы, што колькасць членаў такіх райкомаў партыі не павінна перавышаць 9 чалавек і што гэтыя райкомы для бягучай работы не выбіраюць бюро РК, а непасрэдна кіруюць усёй работай раённай партыйнай арганізацыі, выконваючы і функцыі бюро РК.

2. Зацвердзіць спіс раённых партарганізацый, у якіх дазваляецца праводзіць парадак, указаны ў пункце першым (гл. дадатак).

Абавязаць абкомы, райкомы і ЦК нацкомпартый уносіць на зацверджанне ЦК ВКП(б) кожную раённую партарганізацыю, на якую яны лічаць неабходным распаўсюдзіць гэту пастанову.

3. Абавязаць РК ВКП(б) указаных у пункце другім раённых партарганізацый рэгулярна, не радзей аднаго разу ў два месяцы, склікаць раённыя партыйныя сходы. На гэтых сходах неабходна ставіць справаздачы райкомаў аб іх рабоце, абмяркоўваць асноўныя пытанні работы раённых партыйных арганізацый, агульнапартыйныя, агульнапалітычныя пытанні, пытанні прапагандысцкай і выхаваўчай работы сярод членаў і кандыдатаў партыі, работу паасобных пярвічных партыйных арганізацый і т. д.

У тых выпадках, калі з прычыны вялікіх адлегласцей затруднена рэгулярнае скліканне агульных раённых партыйных сходаў (горныя раёны, раёны тайгі, тундры і інш.), дазволіць райкомам партыі склікаць замест іх кустявыя партыйныя сходы. Лічыць абавязковым, каб работай куставых партсходаў кіраваў, як правіла, сакратар райкома партыі.

---

**Дадатак**

## БЕЛАРУСЬ

1. Асвейская, 2. Брагінская, 3. Багушэўская, 4. Б.-Кашалёўская, 5. Веткаўская, 6. Гарадоцкая, 7. Грэская, 8. Даманавіцкая, 9. Дрыбінская, 10. Ельская, 11. Жыткавіцкая, 12. Журавіцкая, 13. Заслаўская, 14. Кіраўская, 15. Клічаўская, 16. Камарынская, 17. Капаткевіцкая, 18. Чырвонапольская, 19. Кармянская, 20. Чырвонаслабодская, 21. Круглянская, 22. Лагойская, 23. Лельчыцкая, 24. Лоеўская, 25. Любаньская, 26. Мехаўская, 27. Нараўлянская, 28. Парыцкая, 29. Прапойская, 30. Расонская, 31. Смілавіцкая, 32. Свяцілавіцкая, 33. Сенненская, 34. Старобінская, 35. Старадарожская, 36. Тураўская, 37. Ушацкая, 38. Халопеніцкая, 39. Хоцімская, 40. Чэрыкаўская, 41. Крупская.

---

# Аб фактах процідзеяння стаханаўскаму руху ў соўгасе Горкі-Абчак, Менскага раёна

## Пастанова бюро ЦК КП(б)Б

Праверкай устаноўлена, што ў соўгасе «Горкі-Абчак», Менскага раёна, у адносінах стаханаўкі-свінаркі т. Жалудка дапушчана з боку бухгалтэрыі соўгаса сістэматычнае аблічванне і затрыманне зарплаты; на працягу некалькіх месяцаў т. Жалудка не прадастаўлялася кватэры, абяцанай ёй яшчэ ў 1935 годзе дырэкцыяй; у дні адпачынку т. Жалудка прымацаванае да яе пагалоўе было накормлена па распараджэнню брыгадзіра Гутарчыка і зоатэхніка Ісаенка заведама недабраякаснымі кармамі, у рэзультаце чаго ўсё пагалоўе парасят захварэла.

Палітаддзел соўгаса і дырэкцыя замест таго, каб усяляк падтрымать т. Жалудка ў яе ўдарнай рабоце, яе вопыт перадаць іншым брыгадам, абмежаваліся тым, што абвясцілі т. Жалудка стаханаўкай, а потым аб ёй забылі, несвоечасова рэагуючы на здзекі з боку прахадзімцаў і жулікаў над т. Жалудка.

Агульнае нездавальняючае становішча соўгаса безумоўна сведчыць аб зусім нездавальняючай рабоце як дырэктара, так і начальніка палітаддзела соўгаса, якія да сёнешняга дня не зразумелі ўсёй палітычнай важнасці прасоўвання, штодзеннага падтрымання і ўвагі да лепшых перадавых работнікаў соўгаса, што пацвярджаецца не толькі справай т. Жалудка, але і іншых ударніц і ўдарнікаў соўгаса, як тт. Крывіцкай, Матусевіч, Яноўскай і інш., якія прадастаўлены самім сабе і не атрымліваюць падтрымання ў сваёй рабоце.

ЦК папярэджвае дырэктара соўгаса т. Цецерука і начальніка палітаддзела т. Матусевіча, што, калі ў бліжэйшы час яны не выправяць усе выяўленыя факты процідзеяння стаханаўскай рабоце т. Жалудка і становішча справы ў соўгасе, ЦК прыме да іх больш сур'ёзныя меры спагнання.

Прыняць да ведама заяву т. Масевіча, што зоатэхнік Ісаенка і брыгадзір Гутарчык зняты з работы і аддадзены пад суд.

ЦК абавязвае начальніка палітаддзела т. Масевіча і дырэктара соўгаса, апіраючыся на ўжо дасягнутыя рэзультаты работы перадавых людзей соўгаса—тт. Жалудка, Крывіцкай, Кароткай, Матусевіч і іншых—зрабіць іх апорай у сваёй рабоце па барацьбе з недысцыплінаванасцю і дробнабуржуазнай расхлябанасцю сярод адміністрацыйнага персаналу і паасобных рабочых у барацьбе за разгортванне стаханаўскага руху ў соўгасе.

ЦК прапануе перагледзець заключаныя дагавары на соцспаборніцтва, як фармальна бюракратычныя, скажаючыя сутнасць соцыялі-

стычнага спаборніцтва, і заключыць новыя канкрэтныя абавязацельствы для брыгады і паасобных рабочых, сістэматычна правяраючы іх выкананне.

ЦК патрабуе ад усіх дырэктароў і начальнікаў палітаддзелаў соўгасаў і соўгасных партарганізацый бязлітаснай і сістэматычнай барацьбы супроць сабатажнікаў стаханаўскага руху, супроць кампанейскіх адносін да стаханаўскага руху і соцыялістычнага спаборніцтва. Партарганізацыі соўгасаў павінны ўзначаліць стаханаўскі рух і штодзенна ім кіраваць, дапамагаючы стаханаўцам у правядзенні і выкананні ўзятых імі на сябе абавязацельстваў, у іх вялікай рабоце па перадачы свайго вопыту іншым.

---

# Аб фактах грубага парушэння ў Смілавіцкім раёне пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) па пытанню аб'яднання калгасаў

## Пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б

СНК БССР і ЦК КП(б)Б адзначаюць, што пры яўным патуранні з боку партыйнага і совецкага кіраўніцтва Смілавіцкага раёна (сакратар РК КП(б)Б Плятнёў, старшыня РВК Жукоўскі) дапушчаны грубейшыя лявацкія загібы і скажэнні статута сельскагаспадарчай арцелі і пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 19 снежня 1935 года «Аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў і ўзняцці сельскай гаспадаркі ў абласцях, краях і рэспубліках нечорназемнай паласы» тым, што ў раёне намечаны да аб'яднання, а месцамі своевольна, без дазволу ЦК, аб'яднаны буйныя калгасы ў 30—50 і вышэй гаспадарак, пры наяўнасці ў паасобных калгасах пярэчанняў і нязгоды да аб'яднання.

Так, аб'яднаны ў адзін калгасы імя Дзержынскага—85 гаспадарак, «XI з'езд КП(б)Б»—у 126 гаспадарак; аб'яднаны яшчэ 7 калгасаў такой-жа велічыні. Намечаны да аб'яднання ў адзін калгас калгасы «X з'езд ЛКСМБ»—200 гаспадарак, імя Будзённага—38 гаспадарак, «Чырвоная зорка»—18 двароў; аналагічнае аб'яднанне намечана яшчэ ў 12 не менш буйных калгасах.

Такія факты маглі мець месца толькі ў выніку зусім непартыйных адносін партыйна-совецкага кіраўніцтва Смілавіцкага раёна да дырэктыў партыі і ўрада і адсутнасці кіраўніцтва з боку РК і РВК да такіх важнейшых пытанняў калгаснага будаўніцтва, якімі з'яўляецца аб'яднанне калгасаў і правядзенне ў жыццё статута сельскагаспадарчай арцелі.

СНК БССР і ЦК КП(б)Б **пастанаўляюць:**

Адмяніць рашэнні Смілавіцкага РК КП(б)Б і РВК аб аб'яднанні калгасаў імя Дзержынскага і «XI з'езд КП(б)Б», як груба парушаючыя дырэктывы партыі і ўрада.

Лічыць намечаныя Смілавіцкім РК і РВК мерапрыемствы па аб'яднанню калгасаў палітычна няправільнымі і практычна немэтазгоднымі і адмяніць іх, прапанаваўшы раённаму кіраўніцтву намеціць мерапрыемствы па аб'яднанню калгасаў у строгай адпаведнасці з указанай вышэй пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 19 снежня 1935 года і пастановай СНК БССР і ЦК КП(б)Б ад 11 студзеня 1936 года.

За дапушчэнне ў раёне грубага парушэння пастановы партыі і ўрада, што выразілася ў самавольным аб'яднанні раду буйных калгасаў і парушэнні калгаснай дэмакратыі пры абгаварэнні пытанняў

аб'яднання на агульных сходах калгаснікаў,—абвясціць вымову ўсяму складу бюро Смілавіцкага райкома і прэзідыуму РВК, а сакратару райкома тав. Плятнёву і старшыні РВК тав. Жукоўскаму—абвясціць суровую вымову з папярэджаннем.

За грубае парушэнне дырэктыў партыі і ўрада аб аб'яднанні калгасаў, адсутнасць кантролю і кіраўніцтва з боку райза гэтай сур'ёзнейшай справай—абвясціць суровую вымову загадчыку райза тав. Міхаленка і зняць яго з работы.

СНК БССР і ЦК КП(б)Б прапануюць усім АК, ГК і РК КП(б)Б і РВК неадкладна спыніць якія-б там ні было аб'яднанні калгасаў. Яшчэ раз праверыць усе факты зробленага аб'яднання калгасаў, мэтазгоднасць і добраахвотнасць гэтага аб'яднання і пры наяўнасці аб'яднання буйных калгасаў і малейшага пярэчання з боку калгаснікаў супроць аб'яднання—неадкладна выправіць.

СНК і ЦК абавязваюць АК, ГК і РК КП(б)Б у дэкадны тэрмін перагледзець усе намёткі, складзеныя ў раёне па аб'яднанню калгасаў, і прадставіць на зацверджанне СНК і ЦК КП(б)Б. Да зацверджання СНК і ЦК КП(б)Б аб'яднанняў калгасаў не рабіць.

Абавязаць Наркамзем БССР і сельгасаддзел ЦК КП(б)Б у пяцідзенны тэрмін закончыць праверку прысылаемага раёнамі матар'ялу па аб'яднанню калгасаў, неадкладна варочаючы для выпраўлення матар'ялы, якія супярэчаць пастанове СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 19 снежня 1935 года і пастанове СНК БССР і ЦК КП(б)Б ад 11 студзеня 1936 года.

Указаць Наркамзему БССР і сельгасаддзелу ЦК КП(б)Б на тое, што з іх боку не быў ажыццёўлен штодзенны кантроль за выкананнем указаных вышэй пастаноў, у прыватнасці па такому палітычна важнаму пытанню, як мерапрыемствы па аб'яднанню калгасаў.

---

# Аб здачы спраў сакратарамі райкомаў

ЦК КП(б)Беларусі прыняў цікавае рашэнне (ад 24 лютага 1936 г.), ў якім устанавіў парадак здачы спраў сакратарамі гаркомаў і райкомаў пры перамяшчэнні і вызваленні іх ад работы і передачы абавязкаў новым сакратарам. У гэтым рашэнні ЦК партыі Беларусі ўказана:

«1. Пры выбранні новага ранейшы сакратар гаркома, райкома КП(б)Беларусі **робіць справаздачу** на бюро або пленуме **аб становішчы партыйнай гаспадаркі** ў прысутнасці новага сакратара і прадстаўніка ЦК або акругкома.

2. Пасля справаздачы ранейшага сакратара гаркома, райкома аб рабоце і выбранні новага сакратара новы сакратар сумесна з ранейшым сакратаром ў прысутнасці старшыні рэвізійнай камісіі складаюць акт аб прыёме і здачы спраў.

3. Передачы па акту належаць: сакрэтныя справы (з перапіскай ГК і РК), уліковыя дакументы камуністаў, якія ёсць у гаркоме, райкоме, партыйныя білеты і кандыдацкія карткі, грашовыя сродкі, пячатка і ўсе архівы.

4. Пасля прыёму і здачы спраў і подпісу сакратарамі гаркомаў і райкомаў прыёма-здатачнага акта апошні прадстаўляецца на зацверджанне бюро ГК, РК, і толькі пасля рашэння бюро аб зацверджанні прыёма-здатачнага акта здача і прыём спраў лічацца закончанымі.

5. Акты аб прыёме і здачы спраў складаюцца ў двух экземплярах, з якіх адзін пасля зацверджання бюро гаркома і райкома застаецца ў справах, а другі накіроўваецца ў ЦК КП(б)Беларусі.

6. У райкомах, якія ўваходзяць у акругі, прыёма-здатачныя акты павінны быць складзены ў трох экземплярах, з якіх адзін застаецца ў справах райкома, другі накіроўваецца ў акругком і трэці—у ЦК КП(б)Беларусі».

Гэта рашэнне ЦК КП(б)Беларусі мае, бясспрэчна, станоўчае значэнне. Бліжэйшы вопыт і прымяненне на практыцы гэтага рашэння пакажуць, наколькі яно спрыяе сапраўднаму **павышэнню адказнасці** за становішча і далейшае ўпарадкаванне партыйнай гаспадаркі не толькі сакратара гаркома або райкома, але і бюро ў цэлым, паколькі прыёма-здатачны акт павінен быць абмяркован і зацверджан на паседжанні бюро гаркома ці райкома.

Выкананне па сутнасці, а не фармальна, гэтага парадку, устанаўляемага рашэннем ЦК КП(б)Беларусі, можа спрыяць ліквідацыі пашыранай ва многіх раёнах нягоднай «сістэмы», калі стары сакратар зусім не лічыў патрэбным або наспех знаёміў новага сакратара з усімі справамі і выязджаў, прадастаўляючы новаму работніку разбірацца і адказваць за атрыманую «спадчыну» у партыйнай гаспадарцы.

Імена таму трэба забяспечыць, каб справаздача старога сакратара РК на бюро або пленуме райкома датычылася **ўсёй партыйнай гаспадаркі райпартарганізацыі** і не зводзілася толькі да фармальнай справаздачы па прыёма-здатачнаму акту. Справаздача старога сакратара павінна дапамагчы новаму сакратару райкома (або гаркома) правільна арыентавацца ў становішчы ўсёй райпартарганізацыі і яе пярвічных звенняў, у стане партыйнага ўліку, у руху комуністаў у арганізацыі, у статыстыцы, архівах, фінансах,—словам, ва ўсёй партыйнай гаспадарцы гаркома або райкома.

Зараз, калі адбываецца абмен партдакументаў і па-новаму арганізуецца ўся работа па дакладнаму і правільнаму ўліку членаў і кандыдатаў партыі, рашэнне ЦК Беларусі, якое ўстанаўляе парадак перадачы спраў і павышае адказнасць за партыйную гаспадарку і ў першую галаву за партыйныя дакументы, якія хаваюцца ў райкомах і гаркомах, з'яўляецца надзвычай важным. Практыка работы мясцовых беларускіх партарганізацый пакажа, наколькі мэтазгодна і паспяхова будзе рэалізован гэты, у асноўным станоўчы пачын і каштоўнае мерапрыемства.

(З часопіса **«Партийное строительство»**).

---

Уп. Галоўлітбела № П—5008.
Тыраж 10 190.
281.600 друк. зн. ($5^1/_4$ арк.)
Здана ў набор 16/IV—36 г.
Падпісана да друку 5/V—36 г.

*Рэдкалегія*
К. Мінкін (адказны рэдактар)
Д. Конік
Г. Рубінштэйн

Менск, друк. імя Сталіна. Зак. № 467.

ЦАНА 40 кап.




482